

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№ 503 Сьнежань 2004г.
Год выданьня 55

# Шчыра віншуем беларусаў ва ўсім сьвеце і ўсіх веравызнаньняў з Калядамі й Новым 2005 годам!







# Паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР

У Нью-Ёрку 14 лістапада 2004 году адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР. Старшыня Рады Івонка Сурвілла, а таксама сябры Рады Ала Орса-Рамано, Янка Запруднік, Вячка Станкевіч ды іншыя распавялі пра кантакты з амэрыканскімі й эўрапейскімі палітыкамі што да рэфэрэндуму і выбараў у Беларусі, вынікі якіх Радай не ўважаюцца за легітымныя.

Адным з галоўных пытаньняў быў "Акт аб дэмакратыі", які нядаўна быў прыняты Кангрэсам і падпісаны Прэзыдэнтам ЗША. Сябры Рады БНР, лідэры беларускіх арганізацыяў у ЗША выступілі як актыўныя лабісты гэтага дакументу, скарыстоўваючы свае кантакты як з кангрэсмэнамі, гэтак і з прадстаўнікамі Белага дому.

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла нагадала, што Рада прынцыпова не карыстаецца матэр'яльнай падтрымкай ніякіх дзяржаўных установаў якіх-бы ні было краінаў, каб ня быць ад іх залежнай. Так было раней, так будзе і надалей.

Да гэтага часу дыяспара не лічыла патрэбным уплываць і на выдаткаваньне арганізацыям у Беларусі сродкаў з амэрыканскіх крыніцаў (як вядома, ЗША абсалютна легальна спрыяе грамадзкаму сэктару ў розных краінах). Выглядае, што цяпер сытуацыя будзе зьмененая – дыяспара будзе адыгрываць актыўнейшую ролю ў гэтым працэсе. Зрэшты, гэта і ня дзіўна, бо дыяспара – гэта амэрыканскія падаткаплацельшчыкі, а кожны зь іх жадае ведаць, куды і на якія патрэбы ідуць ягоныя грошы.

Цяпер, калі "Акт аб дэмакратыі" прыняты, дыяспара прадставіць свае прапановы наконт дапамогі тым недзяржаўным арганізацыям і незалежным СМІ ў Беларусі, якія спрыяюць ня толькі дэмакратыі, але й разьвіцьцю нацыянальнай культуры, і ў першую чаргу – пашырэньню ўжытку беларускай мовы. Гэта будзе лічыцца абсалютным прыярытэтам.

Сярод іншых тэмаў, якія абмяркоўваліся на паседжаньні Прэзыдыюму Рады БНР – прапановы актывістаў беларускіх арганізацыяў у Бэльгіі, якія зьвярнулі ўвагу Рады на трывожную тэндэнцыю, калі пад выглядам змагароў з рэжымам Лукашэнкі палітычны прытулак атрымліваюць асобы, якія з дэмакратычным, апазыцыйным рухам ня маюць нічога супольнага. Больш таго – ёсьць выпадкі, калі такія людзі нават не зьяўляюцца грамадзянамі Беларусі, падрабляюць дакумэнты. Такім чынам, на Захадзе ў пэўных колах быць беларусам цяпер "модна" – але мода гэткага кшталту не спрыяе аўтарытэту беларускай дэмакратыі й ідзе на шкоду тым ахвярным людзям, якія змагаюцца за незалежнасьць на Бацькаўшчыне.



*Старшыня Рады БНР Івонка СУРВІЛЛА на паседжаньні.*

# Парафіяльныя ўгодкі ў Таронце

Нававысьвечаны сьвятар, што пасьля трох гадоў навукі скончыў Украінскую Акадэмію ў Вініпэгу, айцец Міхась Мацукевіч, будучы Першы Ярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, 4 ліпеня 1954 году маліўся ў Літургіі зь вернікамі беларусамі ў Таронце на вуліцы Дандэс Вэст, нумар 1000.

Гэты трохпаверхавы добрадагледжаны будынак стаўся на працягу пэўнага прамежку часу нашым рэлігійным і грамадзкім цэнтрам. Называлі яго проста ТЫСЯЧА.

Сёлета 3 кастрычніка мы адзначылі 50 угодкі парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага. Урачыстасьць пасьля сьв. Літургіі ў нашай царкве ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім цэнтры на вуліцы Сан Кларанс адбывалася ў вялікай залі. Прысутных было з паўсотні. Нехта скажа: малавата. Нельга забывацца, што ў бальшыні цяперашнія сябры й сяброўкі парафіі – гэта новыя беларускія імігранты з Бацькаўшчыны.

Сьвята адкрыў Старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады сп. Руслан Качаткоў, коратка схарактарызаваўшы гісторыю парафіі.

Прысутная Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп-ня Івонка Сурвілла вітала парафіянаў і гасьцей ад беларускай актыўнай палітычнай нацыянальнай дыяспары.

Пярліна беларускага духу як на выгнаньні, так і на Бацькаўшчыне, нашая выдатная пісьменьніца й паэтэса Вольга Іпатава наведала нашую парафію. Мы ўдзячныя ёй за прачытаньне пісьмовага прывітаньня нашай парафіі ад нашага новага япіскапа Васіля, што цяпер ёсьць у Гайленд Парку.

Слухаць Магутны Божа пасьля Літургіі ў царкве вельмі натхняе нашых суродзічаў, верных і лёсам пакрыўджаных, Богу і Беларусі адданых людзей.

Я прызнаюся, што цяжкавата мне апісваць хто, як і што казаў ці захоўваўся. Ідзе справа пра праваслаўную ярархію. Усіх трэба абавязкова называць зь вялікаю пашанаю, а не, дык грэх цябе ў абдымкі завалачэ. Калі-ж памятаць, што бязгрэшных нідзе на сьвеце праваслаўным няма, то лягчэй ні пра каго ды ні пра што не пісаць для друку.

Раіса Жук-Грышкевіч заняла сваімі паволнымі разважаньнямі доўгі час. Яна ўсю сваю ўвагу аддала памяці нашага выдатнага архіяпіскапа Мікалая. Раіса наблізілася да паmastацку вышытага Ірэнкай Варабей твару ўсімі намі шанаванага, ня так даўно адыйшоўшага ў Божы сьвет Уладыкі Мікалая. Калі-ж Раіса із сьлязьмі на вачох і дрыжачым голасам прамаўляла да мастачкай створанага вобразу духоўніка, запраўды кранулася сэрца ў спагадзе тым, каму мы ня можам цяпер дапамагчы ў вялізным горы пры навале ідыёцкай бяды ў паняволенай Рэспубліцы Беларусь.

Калі далі мне нагоду ацэньваць першыя нашыя крокі ў Канадзе, асабліва ў арганізацыі рэлігійнага жыцьця, згадаў я і некалі вельмі актыўнага Цімафея Салановіча, што дапамагаў у тэхнічнай працы пры выданьні газэты "Беларускі Эмігрант". Яму трэба была нашая дапамога. Цімафей стараўся мець сям'ю, будучыню. Не ўдалося.

З прыемнасьцю паведамляю чытачам "Беларуса", што Радыё "Свабода" пад загалоўкам "Суайчыньнікі" паінфармавала сваіх слухачоў і чытачоў (на інтэрнэце) пра нашыя ўгодкі.

Дзякуем Вам, працавітыя суродзічы са "Свабоды".

Памажы Вам Божа! Жыве Беларусь!

**Кастусь АКУЛА**

# У Вільні ня згодныя

Ня толькі беларусы, але і летувісы не асталіся абыякавымі да рэфэрэндуму і выбараў, што прайшлі 17 кастрычніка ў Беларусі, расцэньваючы ў пераважнай большасьці, што рэфэрэндум і выбары не адпавядалі патрэбам дэмакратый й свабоднаму выяўленьню волі беларускіх выбаршчыкаў.

Летувіскія студэнты ВНУ, што належаць да лібэральнай моладзі Летувы, арганізавалі перад амбасадаю РБ пікет пратэсту супраць фальсыфікацыі вынікаў выбараў уладнымі структурамі Беларусі. У пікеце ўдзельнічала каля 100 чалавек, у тым ліку і студэнты з Галяндыі. Пікет доўжыўся 3 гадзіны і суправаджаўся выступленьнямі супроць існуючага рэжыму ў Беларусі й крытычнымі плякатамі.

Вечарам, таго-ж дня ў папулярнай тэлепраграме "Чацьвёртая ўлада" за круглым сталом, з удзелам старшыні камітэту па замежных справах Сойму Летувы Г. Кіркіласа, нам. галоўнага рэдактара "Летувос рытас" М. Лаўрынавічуса, дырэктара інстытуту міжнародных адносінаў Р. Лопата, дарадчыка прэзыдэнта Летувы Э. Багдонаса і старшыні ТБК Х. Нюнькі абмяркоўвалі вынікі й наступствы выбараў у Беларусі. Усе ўдзельнікі крытычна ацанілі сытуацыю, якая склалася ў Беларусі, бліжэйшага суседа Летувы. Міжнародная супольнасьць, за выключэньнем Расеі, не прызнала выбараў свабоднымі й празрыстымі.

21 кастрычніка ў вечаровай перадачы летувіскага ТБ "Прашу слова" выступіў студэнт В. Мікалаюнас, які ў якасьці наглядальніка прысутнічаў на выбарах у Беларусі. Ён падрабязна распавёў аб фальсыфікацыях і перашкодах уладаў у правядзеньні свабодных выбараў.

З другога боку, у абарону рэжыму ў Беларусі, выступіў былы дэпутат Сойму М. Стаквілявічус, якога запрасіла МЗС Беларусі ды аплаціла ягоныя выдаткі. Пасьля заканчэньня дыспуту, было праведзенае тэлефоннае апытаньне тэлегледачоў. У падтрымку Стаквілявічуса выказалося 32 галасы – супроць 93. У перадачы "Прашу слова" прынялі ўдзел 5 сяброў ТБК.

**Хведар НЮНЬКА**

# Выбары прэзыдэнта ЗША

*Вынікі прэзыдэнцкіх выбараў у ЗША камэнтуюць Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла і Старшыня Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк.*

**І. Сурвіла:** "Я ўважаю, што пераабраньне Буша дае вялікую надзею – бо ў часе вельмі напружанай передвыбарчай кампаніі ён ня толькі падпісаў "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі", але й знайшоў час і магчымасьць выказацца адносна Беларусі, падтрымаць беларускую дэмакратыю. І я мяркую, што ў адміністрацыі Буша ёсьць плян адносна рэалізацыі гэтага Акту".

**З. Пазьняк:** "Пераабраньне Буша нам, беларусам, трэба вітаць, таму што палітыка прэзыдэнта Буша спрыяе абароне свабоды й Незалежнасьці Беларусі. Гэта для нас – галоўнае. Другі аспэкт ягонага пераадбраньня мае цывілізацыйнае значэньне і палягае ў тым, што Буш і ягоная адміністрацыя абмяжоўваюць і не даюць пашырацца лібэральным працэсам маральнай дэградацыі грамадзтва, якая, як зараза, пашыраюцца ў сьвеце найперш зь лібэральных колаў Амэрыкі. Духоўны рэгрэс грамадства ўзаконіў прэзыдэнт Клінтан, які ўпершыню ў гісторыі легалізаваў маральны бруд.

Небывалая колькасьць выбаршчыкаў, якая прыйшла на галасаваньне, сьведчыць пра тое, што на выбары пайшла сярэдняя кляса. Яна не жадае паўтору таго, што зрабіў Клінтан, і не жадае, каб лёс Амэрыкі вызначалі тыя, хто прызвычаіўся больш ад Амэрыкі браць, чым аддаваць".

***Паводле Радыё Свабода***

# Сустрэча адмяняецца

Напачатку сьнежня ў штаце Дэлавэр павінен быў адбыцца канцэрт саліста гурта N.R.M. Лявона Вольскага для амэрыканскіх беларусаў. Аднак канцэрт прыйшлося адмяніць з той прычыны, што Вольскаму не далі амэрыканскую візу.




Сустрэча Вольскага з амэрыканскімі беларусамі плянавалася загадзя, яшчэ паўгоду таму. А за першы тыдзень рэклямнай кампаніі квіткі на канцэрт замовілі каля трохсот чалавек з розных гарадоў ЗША. Гаворыць Лявон Вольскі: "Нам не патлумачылі прычыны. Я зьбіраўся ехаць з жонкаю ў Дэлавэр. У нас было запрашэньне. Там адзін энтузіяст вырашыў зрабіць прэзэнтацыйны канцэрт, каб я сустрэўся зь беларусамі. І ня толькі зь беларусамі, калі-б прыйшлі амэрыканцы, таксама было-б някепска. Па-простую творчая сустрэча. Я з гітарай, сьпеў-бы й паразмаўляў. І проста празандавалі-б глебу, ці можна будзе потым выяжджаць гуртом".

У адпаведнасьці з сусьветнай практыкай, прычыны адмовы ў візе супрацоўнікі консульскіх службаў не тлумачаць. Лявон Вольскі можа толькі меркаваць, што магло стацца падставай для адмовы. "Можа, думалі, што мы ехалі зарабляць грошы. Хаця мы казалі, што гэта дабрачынны канцэрт, але мы на дадзены момант няцьвёрда валодаем ангельскай моваю, а супрацоўніца консульскай службы, якая з намі размаўляла, вельмі кепска валодала іншай славянскай мовай. Таму мы не маглі дакладна патлумачыць. Нічога страшнага такога не адбылося. Проста крышачку ў рэчышчы апошніх палітычных падзеяў, як у нас культывуецца зараз антыамэрыканскі настрой, то гэта выглядае ня вельмі дальнабачна, на мой погляд".

Лявон Вольскі ніколі ня быў ў Злучаных Штатах, і яму вельмі цікава было-бы наведаць гэтую краіну. "Гэта іншы зусім край. Цікава паглядзець, можа, там можна граць такія нармальныя канцэрты, калі бы быў попыт. Паглядзеў бы колькі людзей, ці можна там арганізаваць канцэрт N.R.M. КРАМБАМБУЛЯ. Літаральна тыдзень таму я вярнуўся з тура N.R.M. па Польшчы. Мы адыгралі шмат канцэртаў, вельмі ўсё пасьпяхова прайшло. А так мы былі з канцэртамі ў Францыі, Даніі, дзе мы толькі ні былі".

***Радыё Свабода***

# Беларускамоўная перадача на Швэдзкім радыё

Упершыню 7 лістапада 2004 году прагучала паўгадзінная перадача швэдзкага радыё на беларускай мове. Стваральнік і вядучы перадачы – пісьменьнік зь Беларусі Дзьмітры Плакс, які жыве цяпер у Стакгольме.

Ідэя стварэньня беларускай рэдакцыі ў Швэдзкім міжнародным радыё ўзьнікла ў яго пяць гадоў таму, калі сам спадар Плакс пачаў супрацоўнічаць з гэтым радыё. Спатрэбілася шмат намаганьняў, каб пробная перадача ўрэшце зьявілася. Дзьмітры Плакс кажа, што істотным фактарам у гэтай справе было пашырэньне Эўрапейскага Зьвязу.

Як атрымалася, што швэдзкае радыё пачало гаварыць па-беларуску? Як патлумачыў Дзьмітры Плакс: "Пасьля пашырэньня Эўразьвязу Беларусь стала памежнай зь ім краінай. Беларусь цяпер – суседка Швэцыі, як гэта ні дзіўна гучыць. А суседзяў трэба ведаць, супрацоўнічаць зь імі праз пашырэньне інфармацыі пра сябе. А што цяпер у Беларусі ведаюць пра жыцьцё ў сучаснай Швэцыі? Амаль нічога. Мы будзем спрабаваць гэты вакуўм запоўніць".

У першай перадачы прагучала інтэрв'ю з прадстаўніцай кіраўніцтва швэдзкага радыё, матар'ял пра буйную кніжную выставу ў Гётэборгу, у якой бралі ўдзел і беларусы, а таксама размовы зь людзьмі, што сур'ёзна цікавяцца Беларусьсю. Варта адзначыць, што перадачы міжнароднага швэдзкага радыё не палітычныя, а ў беларускай праграме ня будзе паведамленьняў зь Беларусі. Будуць перадаваць інфармацыю аб тым, што робіцца ў Швэцыі й праз такія размовы спрыяць дэмакратычнаму разьвіцьцю ва ўсім сьвеце.

У новастворанай беларускай рэдакцыі працуе цяпер толькі сам спадар Плакс, а паўгадзінная беларускамоўная перадача на пачатку будзе выходзіць раз на два тыдні на кароткіх хвалях на частаце 5830 кілягерцаў. Пасьля новага году зьявіцца інтэрнэт-старонка беларускай рэдакцыі міжнароднага швэдзкага радыё.

***Радыё Свабода***

# Аляксандар Рыгоравіч і Мікалай Паўлавіч

Пасьля "перамогі" на нядаўнім усенародным рэфэрэндуме кіраваньне Лукашэнкі ў Беларусі набывае рысы манархічныя. У гэтай сувязі для параўнаньня на розум прыходзіць фігура другой, паўзабытай, асобы беларускай гісторыі — расейскага імпэратара Мікалая Першага.

Безумоўна: эпохі, паходжаньне і жыцьцёвы досьвед абодвых асобаў вельмі адрозьніваюцца, але тое, што лучыць — гэта шматабяцальны аб'ект для параўнаньняў. На маргінэсе цікава адзначыць, што паміж Лукашэнкам і Мікалаем Палкінам існуе надзіва вялікае зьнешняе падабенства. Наколькі можна верыць партрэтам Мікалая, абодва дужа падобныя з твару. Абодвых вылучаюць высокі рост, атлетычная збудова, прыхільнасьць да фізычных практыкаваньняў. Па сьведчаньнях сучасьнікаў, абодва карыстаюцца посьпехам у жанчынаў. Абодва вылучаюцца асабістай адвагай і рашучымі паводзінамі. Абодва схільныя да мікра-кантролю, да асабістай праверкі функцыянаваньня самых розных і самых дробных структураў ды асобаў пры пасадзе.

Пэўныя рысы характару таксама былі агульна ўласьцівыя абодвум — назавем так — аўтакратам. Лукашэнка, як і Мікалай за 150 год да яго, зьяўляецца ідэалістам. У пагоні за ўласнымі ўяўленьнямі аб тым, які мае быць належны парадак рэчаў у краіне, Лукашэнка, як некалі Мікалай, ня здольны прыслухоўвацца да апініяў дарадцаў і прыяцеляў, і часам да здаровага сэнсу. Мікалай, як і Лукашэнка, быў інстынктыўным палітыкам, які не заўсёды лічыўся з рэаліямі эканамічнага і сацыяльнага разьвіцьця свайго краю, але адчуваў, што трэба рабіць, каб дабіцца падтрымкі элітных групаў у грамадстве. Але Лукашэнка напэўна даў-бы фору Мікалаю Паўлавічу ў справе палацавых інтрыгаў, шматкрокавых камбінацыяў і кантролю над асобамі.

Кожным зь іх на поўніцу карыстаецца паўната ўлады. З аднаго боку, жорстка падаўляецца рэальная ці ўяўная апазыцыя ў акружэньні, з другога — выбачаюцца нязначныя асабістыя абразы (Мікалай, напрыклад, прабачыў абразу "масьцеравому", Лукашэнка — маладзёну, што кінуў у яго памідорам). Лукашэнка, як і Мікалай, не спыняецца перад самымі жорсткімі мерамі, каб свае асабістыя ўяўленьніператварыць у жыцьцё. Лукашэнка, як і Мікалай, вельмі балюча і чульліва перажывае няўдачы такіх пераўтварэньняў і паразаў (пакуль гэта можна сьцвярджаць толькі у выпадку Мікалая Палкіна) свайго курсу.

Да слова, курс абодвух палітыкаў зьмяшчаецца ў спаборніцтве з Захадам, і ў непрыняцьці заходніх палітычных і сацыяльных нормаў, у тым ліку прынцыпаў прававой дзяржавы і дэмакратыі. Указы Лукашэнкі сёньня, як і царскія ўказы паўтара стагодзьдзі назад, ёсьць інструмэнтам аўтарытарнага кіраваньня. Супрацьдзеяньне Захаду і спробы непасрэдна ўплываць на эўрапейскую палітыку выліліся ў скарыстаньне балканскага фактару: у Мікалая войны з Турцыяй ды інтэрвэнцыя ў Венгрыі, а ў Лукашэнкі — падтрымка дыктатуры ў Сэрбіі й эфэктны візіт у Белград, які ўжо пачало бамбардаваць НАТО. Вэктары агульных зьнешнепалітычных памкненьняў, безумоўна, разыходзіліся. Калі Мікалай спрабаваў падступіцца праз дамовы з аўстрыйскім і прускім дварамі да забесьпячэньня расейскай (г.зн. асабістай) дамінацыі ў тагачаснай Эўропе, дык Лукашэнка спрабуе праз т.зв. Саюзную Дзяржаву падступіцца да асабістай дамінацыі ў Расеі, і праз гэта — на ўсёй пост-савецкай прасторы. Полем для выпрабаваньня сілаў і спаборніцтва з Захадам у Мікалая была Турцыя (дунайскія княствы, турэцкія ўладаньні на Каўказе) і нейкі час Аўстрыя. У Лукашэнкі гэта былі рэгіёны Расеі, а цяпер гэта можа быць Украіна (карыстаньне сувязяў з украінскімі левымі сіламі дзеля ўплыву на выбары прэзыдэнта Украіны). Пад канец свайго кіраваньня абодва аўтакратары апынуліся ў міжнароднай ізаляцыі, і наставілі супраць сябе звышдзяржавы (адзін — Брытанію, другі — Амэрыку). Мікалай нават атрымаў вайну, якую прайграў, а Лукашэнка — Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі, што ва ўмовах палітыкі 21-га стагодзьдзя можна прыраўняць да аб'яўленьня вайны.

Трэба адзначыць, што і Лукашэнку, і разгляданага тут Раманава лучыць асаблівае, крыху хваравітае ўспрыняцьце Расеі. Абодва амаль ня маюць у жылах расей-




скай крыві, абодва клянуцца ў любові да яе, гучна заяўляюць аб дбаньні аб ейным дабрабыце. Адзін — з прычыны знаходжаньня на пасадзе "першай асобы" Расеі, другі — у спадзяваньні некалі такую пасаду здабыць. Комплексы, зьвязаныя з уласнай нерасейскай этнічнасьцю штурхаюць абодвух на ідэнтычны крок — абвешчаньне расейшчыны афіцыйнаю моваю і выцісканьне з грамадзкага ўжытку моваў-канкурэнтаў (у адным выпадку — беларускай, у другім — францускай).

Абодва называлі служэньне Расеі сваёй найвышэйшаю мэтаю. Абодва бачылі сябе абранымі, адзін — воляй Бога, другі — воляй Народа, для лёсавызначальнай місіі. Абодва бачылі гэтае служэньне ў падтрыманьні сваёй бязьмежнай улады і ў неабмежаваным стасаваньні прымусу і сілы для навядзеньня і падтрыманьня "парадку". Абодва аўтакраты, кожны ў сваім маштабе, не спыняліся перад чалавечымі ахвярамі, што патрабаваліся для навядзеньня "парадку". Абодва лічаць, што ім наканавана ведаць, як нікому, у чым палягаюць патрэбы і памкненьні іхных падданых. Абодва імкнуліся "выраўняць поле", імкнуліся да гамагенізацыі грамадзтва, спрабуючы нэўтралізаваць "шкодныя", на іхную думку, меншасьці: Мікалай — гэбраяў, праз юрыдычныя абмежаваньні й вайсковую службу, Лукашэнка — урбанізаваных беларускамоўнікаў, праз перасьлед беларускамоўных адукацыйных структураў і незалежных масавых сродкаў і правоў асобы.

Абодва праводзілі рэформы, мэтай якіх было ўзмацненьне аўтарытарызму і рэпрэсіяў, скіраваныя на больш эфэктыўны спосаб функцыянаваньня дэмакратыі — каб яна добра служыла асабіста ім, аўтакратарам. З гэтага пункту гледжаньня можна разглядаць казачна чысты Менск. Гэта ёсьць вітрына рэжыму, паказуха кшталту мікалаеўскай парадаманіі.

Цяпер варта спыніцца на асьпэкце прадказальнасьці дзеяньняў аўтакратараў, і ў нашым выпадку — дзеяньняў Лукашэнкі, і на пытаньні пераемнасьці ўлады. Для Мікалая дынастычная пераемнасьць была загадзя вырашанай і зразумелай грамадзтву працэдураю. Лукашэнка, улічваючы ягоны фактычна неабмежаваны ўплыў на грамадзтва, можа таксама падумаць аб той ці іншай форме дынастычнага варыянту. Напрыклад, умацаваньне сямейнай алігархічнай групы, якая праз канцэнтрацыю ў сваіх руках улады і фінсродкаў магла-б уплываць або непасрэдна, праз сірыйска-азэрбайджанскую мадэль, або апасродкавана, праз мадэль Ельцын-Пуцін, на далейшы лёс дзяржаўнай улады.

Для гэтага ёсьць падставы. Нядаўна Лукашэнка падняў на сьмех сьцверджаньне аб ягоным асабістым шматмільярдным капітале. Але сам факт закрананьня па ўласнай ініцыятыве гэтай тэмы на нешта паказвае. Як гаворыцца ў беларускай прыказцы:"Украў парася — увушшу пішчыць". Пры адсутнасьці кантролю за так званым "прэзыдэнцкім фондам" кожная вялікая лічба ня можа быць зусім неверагоднаю. Бо, як кажа другая беларуская прыказка, "Блізка ляжыць — жывот баліць".

А яшчэ ў народзе гавораць: "Хто ілжэ, той і крадзе". Мікалай Паўлавіч Раманаў ня лгаў — не было патрэбы. Усімі амаль дзяржсродкамі Мікалай мог законна карыстацца, як уласнымі. А вось Аляксандар Рыгоравіч, дзякуючы іншаму тысячагодзьдзю ды іншым норавам эпохі, мусіць імітаваць "чэснага", і змушаны хлусіць. Наілгана ім ужо шмат бочак арыштантаў. І застаецца толькі чакаць, калі ў той прапорцыі, што адэкватная лукашэнкавай хлусьні, на белы сьвет пачнуць вылазіць лукашэнкавы авантуры.

Хацелася-б таксама спадзявацца, што лукашэнкава эпоха ў гісторыі Рэспублікі Беларусь будзе значна карацейшая за мікалаеўскую эпоху ў гісторыі Расейскай імпэрыі. Цёзка Лукашэнкі, знакаміты пісьменьнік Герцан, назваў мікалаеўскую эпоху надзвычайным часам "зьнешняга рабства і ўнутранай свабоды". Але той час, пэрыяд манархіяў, даўно сыйшоў. У наш час зьнешняе рабства выключае ўнутраную свабоду. І таму шлях да свабоды толькі адзін – уздымацца з каленяў.

***Віталь ЗАЙКА***

# Анонс ЗБС "Бацькаўшчына"

* У 2004 годзе МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" заснавала адмысловую сэрыю "Бібліятэка Бацькаўшчыны", прысьвечаную жыцьцю і дзейнасьці беларускай дыяспары. Першаю кнігаю ў сэрыі стала "Месца выданьня – Парыж" (выбраныя старонкі часапіса «Моладзь» 1948 – 1954 гг.). Зараз рыхтуецца да здачы ў друк другая кніга сэрыі - "Удзел беларусаў у бітве пад Монтэ-Касіна". Выхад кнігі зьяўляецца актуальным яшчэ і таму, што ў гэтым годзе спаўняецца 60 гадоў бітве. У кнізе будзе зьмешчаная аповесьць Пятра Сыча "Смерць і сълаўі", а таксама навукова-папулярны матар'ял маладога дасьледчыка ўдзелу беларусаў у арміі генэрала Андэрса Юрыя Грыбоўскага (Беларусь).
* Ідзе праца па падрыхтоўцы ў друк трэцяй кнігі сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" "Беларусы ў Аўстраліі". Аўтар – маладая дасьледчыца зь Беларусі – Натальля Гардзіенка. Кніга сталася вынікам паездкі Натальлі ў Аўстралію па запрашэньні й пры дапамозе тамтэйшых беларусаў. Кніга пабудаваная паводле навуковых дасьледаваньняў аўтаркі, успамінаў беларусаў Аўстраліі.
* Распачынаецца праца па перавыданьні яшчэ адной сэрыйнай кнігі "Мемуарыстыка на эміграцыі", якая была выдадзеная Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку ў 1999 годзе. Аўтар – Лявон Юрэвіч (ЗША). Адрозьніваць новае выданьне будзе тое, што дасьледаваньне будзе абноўленае, а галоўнае – будзе дададзены матар'ял пра некралёгі як жанр і бібліяграфіі, а ў дадатку – новыя ўспаміны.
* Яшчэ адным выданьнем стануць матар'ялы міжнароднай канфэрэнцыі "Рэфармацыя і грамадзтва. 16-е стагодзьдзе". Канфэрэнцыя прайшла ў мінулым годзе, у ёй узялі ўдзел разам з слыннымі беларускімі й польскімі навукоўцамі пераможцы конкурсу сярод студэнтаў і аспірантаў.

***Інфармацыйны цэнтр ЗБС "Бацькаўшчына"***

# Насельніцтва скарачаецца

Як паведамілі беларускія афіцыйныя крыніцы, на 1 кастрычніка 2004 году колькасьць насельніцтва Беларусі склала 9 мільёнаў 812,9 тысячы чалавек. У пачатку году ў краіне жылі 9 мільёнаў 849 тысяч жыхароў.

Падчас свайго выступу 17 лістапада Аляксандар Лукашэнка заявіў: "Мы змагаемся за тое, каб было больш беларусаў". Раней ён некалькі разоў заяўляў, што ў Беларусі 11 мільёнаў жыхароў. Але афіцыйная статыстыка ў пачатку яго прэзыдэнцтва сьведчыла аб прыблізна 10 мільёнах чалавек, якія жывуць у Беларусі.

За першыя дзевяць месяцаў 2004 году насельніцтва Беларусі, па афіцыйных дадзеных, скарацілася на 36000.

***Радыё Свабода***

# Беларусь за месяц

## 144-е месца

У канцы кастрычніка Міжнародная арганізацыя, што займаецца абаронай журналістаў у сьвеце, "Рэпарцёры бязь межаў", надрукавала штогадовы рэйтынг свабоды прэсы.

Са справаздачы вынікае, што справы са свабодаю прэсы ў Беларусі проста дрэнь. Краіна знаходзіцца на 144-м месцы (усяго 167 пазыцый). "Рэпарцёры бязь межаў" паставіўшы Беларусь у хвост зазначаюць, што беларускія ўлады ня церпяць любой крытыкі ды сыстэматычна душаць галасы пратэсту. "Рэпарцёры" асабліва зьвярнулі ўвагу на тую акалічнасьць, што напярэдадні парляманцкіх выбараў і рэфэрэндуму была прыпыненая дзейнасьць каля дзесятка незалежных выданьняў.

Горш за нас справы толькі ў азіяцкіх краінах. Паўночная Карэя займае апошняе месца, Кітай – 162, Вьетнам – 161, Саўдаўская Арабія – 159, Іран – 158, Лаос – 153, Ірак – 148.

Эўрапейскія краіны акупавалі першыя сорак месцаў. А ў першую пяцёрку ўваходзяць Данія, Фінляндыя, Ірляндыя, Ісляндыя ды Нідэрлянды. Свабоды тут, паводле "Рэпарцёраў бязь межаў", аж занадта. У першую саракоўку трапілі чатыры краіны з Цэнтральнай Амэрыкі й Афрыкі: Сальвадор – 28, Коста-Рыка – 35; Каба-Вэрдэ – 38, Намібія – 42.

## Патрэба люстрацыі

Кінарэжысэр Юры Хашчавацкі прапанаваў скласьці сьпісы ўсіх удзельнікаў фальсыфікацыяў выбараў і рэфэрэндуму ды азнаёміць зь імі беларускую і міжнародную грамадзкасьць. Сюды таксама варта было-б дадаць сьпісы АМАПаўцаў, якія рэгулярна зьбіваюць людзей на дэманстрацыях, ды судзьдзяў, што даюць суткі й штрафы ўдзельнікам дэмакратычных акцый.

## Народны парлямант

Праваабаронца, журналіст ды дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня (1995-1997) Валер Шчукін прапанаваў былым кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад дэмакратычных сілаў стварыць альтэрнатыўны Народны парлямант. У яго мусяць увайсьці прадстаўнікі дэмакратычнае апазыцыі, якія з розных прычынаў не былі зарэгістраваныя кандыдатамі; кандыдаты, якія былі зьнятыя з перадвыбарчай гонкі; і тыя, хто меў шанцы перамагчы, але прайграў у дзень галасаваньня.

На думку Шчукіна Народны парлямант будзе прымаць законы, альтэрнатыўныя "антычалавечым законам Палаты прадстаўнікоў". А колькасьць удзельнікаў павінна быць 110 чалавек – колькі і ў ніжняй палаце рэальнага парляманту. Праўда, праваабаронца выказвае засьцярогу, што ў дачыненьні да гэтых людзей можа быць заведзеная крымінальная справа па факце прысабечваньня чужых паўнамоцтваў.

28 лістапада ў Менску мае прайсьці сустрэча экс-кандыдатаў у дэпутаты ад дэмакратычных сілаў. Ня выключана, што там і будзе абвешчана пра Альтэрнатыўны парлямант.

Тым часам удзельнікі "Народнае кааліцыі 5+" выступілі зь ідэяй вызначэньня агульнага кандыдата на прэзыдэнцкія выбары 2006 году. На іх думку, трэба вызначыць некалькі асобаў, кандыдатуры якіх будуць абмяркоўвацца ў масах, а потым гэтыя масы і вызначаць адзінага апанэнта для Лукашэнкі 2006 году.

Дзьве заўвагі. Ідэя Альтэрнатыўнага парляманту хучэй за ўсё правакацыя. Трэба набраць 110 чалавек (прычым адзін чалавек мусіць прадстаўляць канкрэтную выбарчую акругу), трэба дзесьці праводзіць пасяджэньні. Але галоўнае: які крытэр паміж "чалавечым" і "антычалавечым" законам, і хто будзе вызначаць такі крытэр у законах, якія носяць сацыяльны і эканамічны характар? Бо зь "нечалавечых" законаў пакуль бачыцца адзін: аб палітычных партыях і грамадзкіх арганізацыях.

Адносна некалькіх кандыдатаў на выбары. Таксама пытаньне, як вызначыць на вуліцы лукашыст гэта ці дэмакрат. І як будуць лічыцца гэтыя галасы? Ці не будзе гэта чарговай акцыяй-фікцыяй, як было з альтэрнатыўнымі выбарамі прэзыдэнта, якія праводзіліся актывістамі апазыцыі ўвесну 1999 году.

## Помнік Быкаву

Ўвечары на Дзяды, 2 лістапада, на Ўсходніх могілках у Менску быў урачыста адкрыты надмагільны помнік Васілю Быкаву. Валун прывезьлі з-пад Гэльсынкаў. Грошы на перавозку сабралі грамадзяне фінскае сталіцы, а на адкрыцьцё помніка зь Вільні прыехаў амбасадар Фінляндыі ў Летуве і Беларусі па сумяшчальніцтве Ціма Лахелмаа.

Паэт і грамадзкі дзеяч Генадзь Бураўкін, што прысутнічаў на ўрачыстасьці, зазначыў, што на гэты камень "будзе часта спускацца сонца і будзе непрыкметна прыходзіць час, каб абаперціся на гэты камень і падумаць і ўглядзецца ў той дзень, які будзе займацца над Беларусьсю. І спадзявацца, што нарэшце гэты дзень будзе радасным. Ну а тое, што гэты камень сьветлы, і што нават ноччу ён будзе сьвяціцца, мы з вамі павінны паклапаціцца". А паэт Уладзімер Някляеў падкрэсьліў, што прыкладаў, каб надмагільле пісьменьніка ахвяравалася сталічным горадам іншай дзяржавы, не было ў гісторыі літаратуры – ня толькі беларускай, але й сусьветнай.

У цырымоніі адкрыцьця бралі ўдзел паслы ЗША, Вялікай Брытаніі, Італіі, Латвіі, Летувы, Нямеччыны, Славаччыны, Францыі, Чэхіі, Эстоніі.

Ніхто ад беларускіх уладаў не прыйшоў.

## Дзяды ў Курапатах

Традыцыйнае шэсьце ў Курапаты, арганізаванае Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыяй — БНФ, адбылося 31 кастрычніка.

Каля 300 чалавек сабралася каля станцыі мэтро "Парк Чалюскінцаў" і праспэктам Скарыны й вуліцамі Каліноўскага і Мірашнічэнкі рушылі да ўрочышча. Па дарозе калёна вырасла да 500 чалавек. Мітынг не праводзіўся, бо не дазволілі ўлады. І сёлета на Дзяды ва ўрочышчы дзяжурылі некалькі міліцэйскіх машынаў ды апэратары ў цывільным.

## Горад галадоўшчыкаў

20 кастрычніка ў Ваўкавыску (Гарадзеншчына) абвесьціў галадоўку галоўны рэдактар тамтэйшай "Мясцовай газэты" Андрэй Шантаровіч. Ён пратэставаў супраць нежаданьня ваўкавыскіх уладаў рэгістраваць юрыдычны адрас у горадзе і супраць рашэньня Міністэрства інфармацыі, якое на месяц прыпыніла выданьне газэты.

Празь нейкі час распачаў галадоўку Мікалай Аксаміт, старшыня недзяржаўнае арганізацыі "Аслона" ды дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня (1990—1995). Сп. Аксаміт пратэставаў супраць масавых фальсыфікацыяў выбараў у Ваўкавыскай выбарчай акрузе. Паводле незалежнага экзыт-полу ваўкавыскі прадпрымальнік, што трымае фірму, якая займаецца пасажырскімі перавозкамі Мікалай Аўтуховіч набраў 46 адсоткаў галасоў, а стаўленік уладаў, дырэктарка тамтэйшае гімназіі Тамара Навасад — 32 адсоткі. Улады-ж абвесьцілі, што ў першым туры перамагла Навасад.

Да галадоўшчыкаў далучыліся тры актывісты дэмакратычнага руху. Сярод іх 67-гадовая Валянціна Салдатава, якая матывавала сваю акцыю наступным чынам: "Я хоць і стары чалавек, але з кійком прайшла ўсю нашую Цэнтральную вуліцу. У каго ні пыталася, усе галасавалі за Аўтуховіча. Чаму перамагла Навасад?"

Улады — ваўкавыскія і Мінінфармацыі — упарталі рабілі выгляд, што галадоўшчыкаў не існуе. 4 лістапада па стане здароўя спыніў галадоўку 50-гадовы Мікалай Аксаміт. 9 лістапада пасьля ліста-патрабаваньня Беларускай асацыяцыі журналістаў спыніў галадоўку на 20-ы дзень і Андрэй Шантаровіч, заявіўшы, што дваццаць дзён — гэта шмат часу, каб падумаць і асэнсаваць усе тыя падзеі, якія разгарнуліся вакол "Мясцовай газеты". "Дваццаць дзён — вялікі тэрмін, каб даведацца пра стаўленьне да сябе і да газеты. Я спыняю галадоўку таму, што не хачу далей такім чынам зьвяртаць увагу да сваёй праблемы. Вы маеце рацыю [Беларуская асацыяцыя журналістаў]: жывы і здаровы я больш карысны для людзей, чым слабы ці мёртвы".

## Турыстычная Мэкка

Ідэяў у А. Лукашэнкі шмат. Нядаўна сабраў падначаленых, зьвярнуўшы ўвагу, што ў Беларусі маецца вялікая колькасьць унікальных прыродных рэсурсаў, аднак гэта ніякім чынам не выкарыстоўваецца. Напрыклад, выязны турызм перавышае ўязны ў 17 разоў, а прыбытак ад замежнікаў у 2003 годзе склаў толькі 11,5 млн. даляраў (200 на чалавека).

Ён загадаў, каб у год Беларусь наведвалі 1,5 млн. чалавек (славуты сваімі гістарычнымі помнікамі польскі Кракаў штогод наведвае 2 млн. чалавек). Засталося дробязь: экстранна набудаваць гістарычных мясьцін і курортаў, бо паездкі ў Хатынь і Курган славы ўжо абрыдлі ўсім.

Дарэчы, адну з прычынаў чаму ў Беларусь ня едуць турысты патлумачыў амбасадар Нямеччыны Марцін Хекер: вельмі вялікі кошт беларускай візы. "Такія дарагія візы мы не бачылі ў ніводнай краіне сьвету", — падкрэсьліў пасол на адной з прэс-канфэрэнцыяў у нямецкай амбасадзе.

## Акт аб дэмакратыі ...у ЗША

Беларусь накіравала ў Арганізацыю Аб'еднаных Нацыяў праект рэзалюцыі, якая асуджае сыстэматычнае парушэньне правоў чалавека ў Злучаных Штатах Амэрыкі. У дакуманце з трывогай зазначаецца, што выбарчая сыстэма ў ЗША не стасуецца з абавязкамі па Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах, што ЗША парушаюць міжнародныя стандарты, прымяняючы сьмяротнае пакараньне ў дачыненьні да асобаў, якія не дасягнулі 18 гадоў і да псыхічна хворых. Таксама Беларусь заклапочаная жыцьцём вязьняў, што ўтрымліваюцца на марской базе ЗША ў Гуантанама (Куба). І такой бяды, што гэта былыя забойцы-талібы.

Вось такая помста Дзядзьку Сэму за "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі".

Цікава, што паралельна ў ААН паступіў праект рэзалюцыі, падрыхтаваны краінамі Эўразьвязу і Японіяй, дзе выказваецца занепакоенасьць тым, што Беларусь не правяла свабодных і справядлівых выбараў. Таксама ў дакуманце зазначаецца пра выпадкі ўціску, беспадстаўных арыштаў і затрыманьняў прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, палітыкаў і ўдзельнікаў дэманстрацый.

## Ці любіце вы Беларусь так, як люблю яе я

21 кастрычніка адбылася сустрэча прэзыдэнта Беларусі з каталіцкімі біскупамі. Лукашэнка, у прыватнасьці, зазначыў: "Як кіраўнік дзяржавы, я-б не хацеў дзяліць цэрквы — Бог адзіны". Прэзыдэнт заявіў біскупам і Сьвёнтку, што будзе падтрымліваць рыма-каталіцкі касьцёл у Беларусі пры адной умове: "Калі вы будзеце любіць Беларусь так, як люблю яе я, калі вы будзеце цаніць Беларусь, як сваю краіну".

## І помнік пры жыцьці

Прадстаўнік Беларускага саюзу вэтэранаў вайны ў Аўганістане Аляксандар Восіпаў зьвярнуўся да старшыні Менскага гарвыканкама Міхаіла Паўлава з просьбаю перайменаваць Менскую кальцавую аўтадарогу ў Менскую аўтамагістраль імя прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Такім чынам, на думку экс-ваякі, будзе прызнаны асабісты ўнёсак Лукашэнкі ў дзяржаўнае будаўніцтва.

## Новы памер пражытачнага мінімуму

Савет міністраў Беларусі зацьвердзіў новы памер бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва. Паводле пастановы ўрада, новы бюджэт пражытачнага мінімуму (БПМ) у месяц складае 128 тысяч 860 рублёў. Паводле курсу Нацбанка на 14 лістапада гэта складае 59 даляраў 25 цэнтаў. Раней БПМ быў у памеры 128 тысячаў 390 рублёў.

Зацьверджаны таксама бюджэты пражытачнага мінімуму па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах. БПМ у месяц для працаздольнага насельніцтва – 138 тысячаў 920 рублёў (63,9 даляра), для пэнсіянераў — 112 тысячаў 600 рублёў (51,8 даляра), для студэнтаў — 135 тысячаў 280 рублёў (62,2 даляра).

У БПМ уваходзяць наступныя віды матэрыяльных даброт і паслуг: прадукты харчаваньня, вопратка, бялізна, прадметы агульнасямейнага карыстаньня, а таксама жыльлёва-камунальныя і бытавыя паслугі, паслугі дзіцячых дашкольных установаў.

Паводле Савета міністраў, канкрэтнае напаўненьне кожнага віду вызначаецца на аснове нормаў спажываньня, распрацаваных навукоўцамі й спэцыялістамі адпаведных міністэрстваў і ведамстваў з удзелам аб'еднаньняў наймальнікаў і прафсаюзаў. Пры аналізе і прагназаваньні ўзроўню жыцьця насельніцтва БПМ выкарыстоўваецца для ацэнкі ўзроўню даходаў насельніцтва, памераў аплаты працы, пэнсій і іншых сацыяльных выплат.

## Дынама - чэмпіён

Менскае "Дынама" выйграла 14-ы футбольны чэмпіянат Беларусі, заваяваўшы мэдалі ў сёмы раз. На другім месцы — БАТЭ (Барысаў), салігорскі "Шахцёр" заваяваў бронзу.

## Падвышаная аплата

З 16 лістапада Беларуская чыгунка падвысіла аплату за праезд чыгуначным транспартам.

Паездкі ў пасажырскіх цягніках і вагонах міжнароднай клясы падаражэлі на 10%. Кошт праезду адной зоны ў прыгарадных цягніках павялічыўся на 20% і цяпер складае 300 беларускіх рублёў. Адпаведна на 5 і 10% падаражэў праезд і для ўсіх ільготных катэгорыяў грамадзянаў. Пасажырскія перавозкі беларускай чыгункі складаюць каля 40% ад рэнтабэльнасьці, а прыгарадныя на 10% менш. Гэта азначае, што рост тарыфаў будзе працягвацца й надалей. Акрамя таго, з 20 лістапада падаражаў праезд у гарадзкім транспарце Менску. Адна паездка цяпер каштуе 360 беларускіх рублёў.

*Уласны карэспандэнт*

# Ніхто ня спыніць Беларусі

Байкот 17 кастрычніка не адбыўся. Не адбыўся ня гледзячы на гатовасьць беларусаў ня йсьці на галасаваньне. Гэты крок, як выяўленьне масавай пазыцыі, ня быў зроблены, бар'ер не перакрочаны. Галоўныя чыньнікі ўлеглага захаваньня: сіла рэжыму і сіла страху.

Прычыны страху таксама дыямэтральныя. Перш за ўсё татальная кантрактная сыстэма працы, якая паставіла людзей у поўную і бясправную залежнасьць ад адміністрацыі.

Кантрактная сыстэма паралізавала грамадзтва, зьнішчыла нават кволыя парасткі грамадзкай салідарнасьці. У агульнадзяржаўным маштабе ўведзена фактычна мадыфікацыя прыгоннага права, сыстэма кантрактнага рабства, дзе ўсе правы ў адміністрацыі.

Другая прычына, што спрыяла страху, - ня бачаньне людзьмі моцнай нацыянальнай сілы, якая-б супрацьстаяла рэжыму. Разьяднаныя беларусы ня будуць змагацца і нават пратэставаць без апоры на сілу, без надзеі на вынік. Такая ёсьць праўда і прычына марнасьці ўчынкаў.

Вынік загону людзей на галасаваньне вядомы. Сталася ўсё так, як было ўжо растлумачана ня раз яшчэ за паўгады да незаконнага рэфэрэндуму. Прамаскоўскі рэжым застаўся, захаваўся і ўмацаваўся. Лукашэнка захаваў сваю ўладу на нявызначаны тэрмін. (У гэтым і заключаўся сэнс так званай "выбарчай кампаніі".)

Парадыгма паводзінаў рэжыму (створаная і праілюстраваная ў пачатку 2004 году на выбарах у Расеі) была зразумелая. Уладу зьбіраліся ўтрымаць любым спосабам, не зважаючы ні на што. Законнасьць, легітымнасьць, міжнароднае прызнаньне — ня мелі значэньня. Толькі ўтрымацца — вось задача. (Таму і ўпусьцілі ў Беларусь усіх міжнародных назіральнікаў, якіх пры патрэбе вытурвалі з участкаў.)

Маскоўская схема таксама засьведчыла, што забаўкі ў "апазыцыю" скончыліся. У лукашэнкаўскую "палату" не павінен быў прайсьці ніхто са штатных апазыцыянэраў. Функцыя лукашэнкаўскай апазыцыі (якая заключалася найперш у кампрамэтацыі самой ідэі апазыцыі ў грамадзтве) з гледзішча рэжыму ўжо выкананая. "Апазыцыя" выдатна справілася з роляй загоншчыкаў людзей на "рэфэрэндум". Цяпер можна яе ўжо засунуць у кут.

Пасьля "рэфэрэндуму" гэтую "апазыцыю", як і ў Расеі, адвядуць на запасныя пуці (асноўную агентуру), проста прыдушаць, абмяжуюць поле дзейнасьці, каб ня блыталася пад нагамі. Такое мы ўжо назіраем. Працэс небясьпечны, бо ў гэтай справе ўдар будзе нанесены найперш па беларускіх культурных інстытутах і арганізацыях, як раз у рэчышчы антыбеларускай палітыкі гэбоўскага рэжыму.

Мы павінны разумець, што рэжым ніколі поўнасьцю не ліквідуе сваю "апазыцыю", бо адная з функцыяў яе — гэта перашкаджаць разьвівацца беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху.

Дзеяньні беларускіх адраджэнцаў цяпер павінны палягаць у значнай частцы на пазытыўнай нацыянальнай асьветніцкай працы. Пратэстныя высновы павінны вынікаць з адраджэнскай пазыцыі. Мы мусім рыхтаваць беларускі грунт і спрыяць стварэньню беларускай сілы праз ідэі і праз арганізацыі яднаньня нацыянальных інтарэсаў.

Цяпер ідэяй, якая будзе лучыць і аб'ядноўваць грамадзтва, ёсьць Беларуская Нацыянальная Ідэя. Трымаем яе голасна і высока.

Адной з галоўных праграмаў дзеяньня для беларускіх адраджэнцаў павінна стаць ініцыятыва "Беларуская Салідарнасьць", якая добра засьведчыла сябе за апошнія гады і выявіла пэрспэктыву. "Беларускую Салідарнасьць" трэба разьвіваць шырока на ўсіх узроўнях і ўключаць у Нацыянальна-Вызвольны Рух. Вельмі важна стварыць грамадзка-палітычную беларускую альтэрнатыву рэжыму і ягонай "апазыцыі". Дарогаю да гэтага можа стаць як раз "Беларуская Салідарнасьць".

Трэба разумець, што нічога ня зьменіцца да лепшага (нават калі-б і справакаваліся якія-небудзь падзеі) пакуль ня створыцца, не нарасьце крытычная маса адраджэнскай нацыянальнай эліты, актыўных беларусаў, здольных змагацца, павесьці за сабою іншых, усьведамляць беларускія інтарэсы.

Ва ўмовах, калі нішчаць усё беларускае, нацыянальнае асьветніцтва, як элемэнт адраджэнскай палітыкі, робіцца абавязкавасцю.

У Беларусі ўвогуле нешматлікая палітычная праслойка. Тым часам людзі, якія трапляюць цяпер у палітыку з грузам яшчэ каляніяльных савецкіх паняцьцяў у сьведамасьці пра Беларусь, нацыю, мову, народ, - яны ня ў стане асэнсаваць беларускія патрэбы і пасьлядоўна дзейнічаць на карысьць беларускай нацыі й беларускай дзяржавы. Патрэбныя новыя беларускія людзі ў палітыцы.

Хоць антыбеларускі рэжым у чарговы раз ашукаў беларускае грамадзтва, пэрспэктывы гэтым ён сабе не адкрыў. Сфэра ягоных прыхільнікаў няўмольна звужаецца. У рэжыму няма ніякіх прыцягальных ідэяў і справаў. Усё трымаецца на Расеі, на яе новакаланіяльнай палітыцы, гэта значыць на зьнешняй сіле. Але гэта як раз мае нядоўгі век і разваліцца як толькі ўзрасьце свая ўнутраная нацыянальная беларуская сіла. Яе нішчаць, але яна расьце. Яна мае будучыню. Нашая задача, усіх беларусаў, яе ўмацоўваць.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# Ангельскія газэты пра Беларусь

Ангельскія газэты рэдка пішуць пра Беларусь, а калі й пішуць, то заўсёды рэзка крытыкуюць рэжым у Беларусі ды Лукашэнку. Але перад выбарамі й рэфэрэндумам раптам зьявіліся артыкулы амаль ва ўсіх ангельскіх пэрыёдыках. Узгадаю некаторыя зь іх.

У газэце "Times" ад 5.10.04 быў артыкул Джэрэмі Пэйджа (Jeremy Page) "Дыктатар намераны трымацца пры ўладзе ў Беларусі". Аўтар робіць самыя розныя закіды ў адрас беларускіх уладаў і Лукашэнкі. Вось што ён піша: "Хоць у 1991 годзе ў Маскве разбурылі помнік Фэліксу Дзяржынскаму, але ў Беларусі робіцца наадварот. У Дзяржынаве нядаўна быў усталяваны помнік Дзяржынскаму, на адкрыцьці якога быў А. Лукашэнка. І гэта помнік чалавеку, які адказны за сьмерць 500 000 чалавек падчас так званага "чырвонага тэрору" пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі. Дзе яшчэ ў сьвеце ставяць помнікі такія адыёзным людзям? Натуральна, што на адкрыцьці помніка Лукашэнка сказаў прамову, у якой хваліў дзейнасьць Дзяржынкага.

...Крытыкі параўноўваюць Лукашэнку з Гусэйнам і Мілошавічам і гавораць, што "ён трымаецца моцна пры ўладзе, бо баіцца, што калі яго скінуць, то тады будуць судзіць"."

У артыкуле ўзгадваецца сп. С. Шушкевіч, які "па асабістаму загаду Лукашэнкі атрымлівае дзяржаўную пэнсію ў суме аднаго фунта стэрлінгаў ці 1,70 даляра ў месяц." Такую пэнсію аўтар называе "апошняю абразаю".

Успамінаецца там таксама Міхаіл Марыніч, колішні міністар і амбасадар, які цяпер знаходзіцца пад арыштам і чакае суду.

Аўтар другога артыкулу ў газэце "Times" ад 16.10.04 лорд і прафэсар Робэрт Скідэльскі (Robert Skidelsky). У сваім артыкуле "Новая сыстэма паўзе з савецкага развалу" ён між іншага піша: "... ніхто не сумняваецца, які будзе вынік. ...непатрэбным ёсьць нагадваць, што той, хто ў сёньняшняй Беларусі пры ўладзе з манаполіяй на масмэдыі й г. д., той і выйграе выбары."

Паводле праф. Скідэльскага, выбары ў Беларусі важныя, бо там адбываецца працэс з думкаю ўзнаўленьня СССР. А калі да гэтага дадаць, што Беларусь стала парыйнаю дзяржаваю, дык зразумела, чаму палітыкі цікавяцца падзеямі ў Беларусі.

Аўтар піша, што Беларусь са сваёю "сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікай" пазьбегла экстрымаў багацтва і беднаты, якія пануюць у Расеі. Беларускія ўрадоўцы з ахвотаю абмяркоўваюць эканамічныя пытаньні, але робяцца нямымі, калі гаворка ідзе пра палітыку. Дэмакратыя ў Беларусі цяпер яшчэ больш падманлівая чым у СССР, бо калектыўнае дыктатарства кампартыі заменіла дыктатарства асабістае. І хоць такую палітыку ня можна назваць "сталінскім тэрорам", але з-за застрашваньняў і перасьледу апазыцыі амаль не магчыма існаваць там.

Праф. Скідэльскі піша: "Беларуская палітычная сыстэма ёсьць правакацыйнаю для Эўразьвязу, але зьяўляецца добрай мадэльлю для прэзыдэнта Пуціна."

Газэта "The Daily Telegraph" ад 16.10.04 зьмясьціла доўгі артыкул пад загалоўкам "Малы Сталін узмацняе ціск на Беларусь". Аўтар Джуліюс Страўс (Julius Strauss) пачынае аповяд з апісаньня кватэры Аб'еднанай Грамадзянскай партыі Беларусі, дзе на сьцяне вісяць фотаздымкі пяці апазыцыйных палітыкаў, якія таямніча памерлі альбо зьніклі. Але ня толькі яны пацярпелі ад рэжыму. За апошнія гады тысячы апазыцыянэраў былі зьбітыя, арыштаваныя ці асуджаныя. Ня гледзячы на гэта Лукашэнка застаецца папулярным сярод значнай часткі немаладых і малаадукаваных людзей. Сярод моладзі ягоная папулярнасьць надзвычай нізкая. Шмат моладзі кідае Беларусь і зьяжджае на Захад.

Заканчвае артыкул сп. Страўс цытаваньнем аднаго беларускага палітыка, які сказаў: "Канешне, Лукашэнка ня Сталін, але ён без сумніву ягоны ідэалягічны ўнук. Мільёны будуць абурацца, калі ён пераможа на выбарах і рэфэрэндуме, але выказваць сваё абурэньне яны будуць, нажаль, толькі ў сваіх кухнях."

Так пісалі газэты перад выбарамі й рэфэрэндумам.

Пасьля выбараў, 18.10.04, газэта "Times" напісала: "Аказалася, што выбаршчыкі ў Беларусі "падтрымалі" прапанову Лукашэнкі зьняць канстытуцыйныя абмежаваньні на колькасьць прэзыдэнцкіх кадэнцыяў для адной асобы. Гэта дае магчымасьць Лукашэнку кандыдатаваць на прэзыдэнта аж у трэці раз, і нават пажыцьцёва. Як заўсёды Лукашэнка адкінуў крытыку Захаду аб парушэньнях падчас правядзеньня галасаваньня, сказаўшы, што гэта ня першы раз, калі Захад выказвае занепакоенасьць."

Газэта "The Daily Telegraph" ад 18.10.04 коратка апісвае ход галасаваньня ў артыкуле "Атмасфэра страху: як Беларусь ідзе на галасаваньне". Прыведзенае выказваньне сп. Вінцука Вячоркі, дзе ён гаворыць: "Тое, што адбываецца тут, ня можна назваць выбарамі. Гэта ня можна назваць дэмакратычным выражэньнем волі нашага народу."

Яшчэ адная сур'ёзная газэта "The Guardian" 18.10.04 у артыкуле "Беларускія выбаршчыкі "падтрымліваюць" кіраўніка" крытычна апісвае выбары й рэфэрэндум, нагадваючы, што яшчэ ў 1996 годзе Лукашэнка правёў рэфэрэндум, каб працягнуць свае паўнамоцтвы з пяці да сямі гадоў.

Ведамая газэта "Financial Times" 18.10.04 у артыкуле "Беларускае галасаваньне падтрымала бясконцую прэзыдэнцкую кадэнцыю" пісала, што колькасьць выбаршчыкаў была дастатковаю, каб прызнаць выбары законнымі, але беларуская апазыцыя скрытыкавала іх як найгоршыя за ўсе часы. Заканчваецца артыкул словамі Лукашэнкі да заходніх крытыкаў: "Пастарайцеся супакоіцца і перастаньце абвінавачваць нас у парушэньнях і ашуканстве. Глядзіце за сваімі справамі й вырашайце іх."

Нават 19.10.04 ангельскія газэты зьмясьцілі шмат артыкулаў з крытыкаю ў адрас лукашэнкаўскага рэжыму адносна выбараў і рэфэрэндуму, а таксама жорсткай расправы з дэманстрантамі ў Менску, якія былі ня згодныя з вынікамі галасаваньня. Напрыклад, газэта "The Guardian" у доўгім артыкуле піша, што Эўразьвяз выказаў рэзкую нязгоду адносна выбараў і галасаваньня ў Беларусі. У артыкуле выказваецца шмат закідаў беларускім уладам. Вось некаторыя зь іх:

- міліцыя разагнала дэманстрантаў у Менску не абыйшоўшыся без зьбіцьця іх;
- афіцыйныя вынікі галасаваньня гавораць, што 77.3% галасаваўшых падтрымалі прапанову Лукашэнкі, а незалежны інстытут Галлапа (Gullup) прадказваў, што такіх будзе менш за палову;
- з-за зьнікненьня апазыцыянэраў Эўразьвяз мае забарону на ўезд да іх вышэйшых беларускіх урадоўцаў, а ЗША прынялі "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі", які, між іншага, накладае на Беларусь эканамічныя санкцыі;
- прадстаўнікі АБСЭ ўбачылі вялізную колькасьць парушэньняў падчас галасаваньня;
- беларускія апазыцыянэры паказалі выбарчыя бюлетэні, якія выдаваліся на ўчастках, дзе ўжо было адзначана за каго і за што трэба галасаваць;
- на участках галасаваньня прадавалі прадукты харчаваньня па коштах на чвэрць ніжэй звычайных, каб такім чынам прыцягнуць выбаршчыкаў да ўдзелу ў выбарах; Багдан Кліх, старшыня наглядальнікаў ад Эўрапарляманту сказаў, што гэтае галасаваньне было падманам;

У газэце "Times" 22.10.04 быў артыкул аб тым, што ЗША паставілі ўвесьці санкцыі супраць Беларусі, а Эўразьвяз не прызнаў вынікаў рэфэрэндуму і разважае аб мэтазгоднасьці ўвядзеньня санкцыяў. Газэта піша: "Апазыцыя і заходнія наглядальнікі абвінавачваюць Лукашэнку ў падробцы рэфэрэндуму і перасьледаваньні крытыкаў з мэтаю прадоўжыць панаваньне над 10-мільённым народам." Газэта прыводзіць словы прэзыдэнта ЗША Джордж Буша, якія ён сказаў пры падпісаньні "Акту аб дэмакратыі ў Беларусі": "У час, калі свабода і дэмакратыя пашыраюцца па ўсяму сьвету Аляксандар Лукашэнка і ягоны ўрад ператварае Беларусь у рэжым уціску ў сэрцы Эўропы... У цэлай і вольнай Эўропе няма месца для падобнага рэжыму..."

А якой-жа была рэакцыя Менску на выступ Дж. Буша? МЗС Беларусі заявіла: "Гэты адкрыты варожы выступ выклікае у нас вялікі смутак. Цяпер ЗША будуць адказныя за наладжваньне стасункаў зь Беларусьсю..."

*Міхась ШВЭДЗЮК*

# Пакроўскае вясельле

Першы цнатлівы сьнег выпаў сёньня на стомленую кастрычніцкую зямлю. Першы ранішні чысьцюткі й бялюткі сьнег, як колішняя рыцарская альба. Сьнег-мэлёдыя, сьнег-сугучнасьць, сьнег – нявыславёны ды нечаканы восеньскі экстаз! Сьнег – бітыя дыяманты – іскрыста-чысты, колкі й скрыпучы, сьнег – вясельны вэлюм – празрысты й лёгкі, сьнег – малое пухнатае кацяня – мяккі й цёплы, сьнег – туманны сырадой – сьвежы й сітаваты ... зацерушыў усё неабсяжным зорным кілімам, быццам Млечны Шлях зьляцеў досьвіткам на асклелую зямлю й пяшчотна ахутаў яе да вясны, калі Ярыла ды Лада ўквецяць яе сваім палкім каханьнем ...

Вуніяцкая царква аднаго беларускага мястэчка ўрачыста, але й трывожна гула ў прадчуваньні дзіва дзіўнага, нячуванага нідзе й нікім: сёньня прычт зьвянчае аж дзесяць параў! Го, дзе вясельле будзе! Вясельле дык вясельле, ясна-красна на ўвесь сьвет! Музыка, скокі, на салодкім мядку гарэліца, пагуляньнейка ўволю, адпачываньнейка ўсмак! Умазоленым ручачкам загаеньне, утаптаным ножачкам перадых, пазгінаным сьпіначкам выпручэньне – лекаваньне й целаў людзкіх, і душаў.

Вось пад'ехаў першы вясельны поезд, убраны рознакаляровымі стужкамі, саламянымі выпляцянкамі, арабінавымі суплётамі, цацкамі размаітымі. Гэта Ігнаська з Мар'юткай. Закаханыя. Вясёлыя. Расчырванелыя. Шчасьлівыя. Хор сваццяў-гусарніцаў чульліва выводзіць:

***Ой, рад-радзінік Ігнаська,***
***Ой, рад-радзінік Ігнаська,***
***Што ў новый царковкі пабував –***
***Марьютку за ручку пыдзіржав ...***

За імі – Міхаська з Адаркай. Не відаць на іх тварах радасьці – бацькі сасваталі. Ціхмяная фурманка: толькі гульлівыя бомікі гучна выцінаюць людзкую маўклівасьць. Хтосьці са сватоў неахвотна цягне якуюсь вясельную песьню.

Далей – Андруська з Гіленкаю. Шпарка бягуць коні, іх ускудлачаныя грывы хаваюць росныя пацеркі, гойдаюцца каля дуг ручнікі. Зьзяе ад пераможнага захапленьня жаніх, сьпяваючы хвалебную нявесьце, якая дазваляе сабой любавацца.

Тады – Праньцішак з Магарэськай. Мілуе вока шчасьлівая нявеста, натапырыўся, як вожык, жаніх. Дружкі-бальшанкі сьпяваюць яму песьні. Бразготкі ды бомы, якімі аздоблена падвода, ствараюць суцэльную зорную мэлёдыю.

Потым – Антоська з Барбаркай. Доўга перабірала прыгажуня Барбара. Тром хлопцам гарбуза дала. І гожыя былі, і заможныя. Самавітая-ж нявеста абрала таго, з кім зараз побач сядзіць. Праўда й ён ані бядак, ані лайдак. Назваў яе неяк ясачкай. На руках скрозь увесь лес пранёс, ад зьвіжанскіх вужакаў ратуючы. Вось дзе скарылася сэрца недасяжнае Басі: скарылі дужасьць і пяшчота, надзейнасьць і высакароднасьць, павага й спагада. Пакуль, яна не кахала яго, але ад дотыку ягонае рукі праходзіў усялякі боль, і па скуры разьбягаліся прыемныя мурашкі, быццам гэта сам Бог уграваў яе істоту.

Шостымі ехалі Зьмітрок і Людвіська. Іх коні наравіста супраціўляліся кожнаму кроку, плакала нявеста, разгублена пазіраў на яе жаніх. Здавалася, само паветра цісьне й прыгнятае душы ўсіх маўклівых гледачоў. Прыгажуню Людвісю везьлі да царквы пад моцнай аховаю: брат-надкосьнік, косачку застрыг-засмаліў, брат-заводчык, на пасад завёў, брат-прасаты, госьцейкаў запрашаў. Заплаканая, зморaная, зьнясіленая, яна ўжо ня мела аніякае надзеі, што падбадзёрвала яе напярэдадні, не давала самлець у зьнямозе: ужо перад самым ад'ездам ёй пашчасьціла ўцячы, нягледзячы на прыстойную варту. Пасьля нядоўгіх пошукаў яе адшукалі на гарышчы ў панскіх стайнях: гаротніца была гатова кінуцца ў абдымкі аднаго з дваюрадных* панскіх дзяцей. Яе зьнесьлі з гарышча, пасадзілі ў падводу й павезьлі вянчаць. Зараз толькі лямант ды немыя галашэньні вярэдзяць гэты поезд, беручы ў клюбы сэрцы прысутных. Такія вясельлі мала чым адрозьніваюцца ад хаўтураў. Зьміцер – нядаўні батрак, але цяпер служыць пры пане, хлопец гожы, самавіты, герой усіх местачковых вячорак ды гасьцінаў. Хлопец моцны, настойлівы, выканькаў-жа-ж ад пана ды Людвісьчыных бацькоў згоды на вясельле, хай сабе й пакрыцкае** ... Пакрыцкае вясельле на Пакравы ...

Сёмыя – Янка й Ганулька. Нема пазіралі на іх сваты ды госьці. Як хмара – жаніх, боязь – у вачах нявесты. Янка – хлопец вабны й чульлівы, здольны й працавіты. Вось толькі лёсам нешта не шанцуе: разлучылі з каханай, адарылі нялюбай нявестай ... Нялюбай ... Мілая, добрая, ціхмяная дзяўчына. А ёй за што такі лёс? Ён хацеў-бы глядзець на яе іначай, але ня мог. Яна пераймала ягоны пагляд, які заўжды быў розным, розным, але такім аднолькавым: пагляд-сьнежань, пагляд-студзень, пагляд-люты. Шторазу Ганначка сьціскалася ў колкіх і халодных промнях ягонага позірку, ёй рабілася самотна й страшна.

Пасьля – Адаська ды Каська. З маленства – найлепшыя сябручкі, і зараз – шчасьлівыя маладыя. Песьні звонкія. Сьмех неўтаймоўны. Каська яшчэ была пад уражаньнем свайго ўласнага выкраданьня ды куплі-продажу: яе любы сябра й цяпер нарачоны ўчыніў сапраўдны фэст!.. Неўтаймоўны чын ужо абмяркоўваў павясельную машкараду, хто й як будзе пераапранацца ў "цыгана", "венгра", "гэбрая", "жаўнера", "доктара", "мядзьведзя", а Адасік з дударом, дружкам-перапіўнікам, усё славіў сваю княгіню!

Па іх – Юрка ды Рутка. У іхніх тварах трывала адбілася агульная млявасьць і абыякавасьць да жыцьця. Юрка дык Юрка, Рутка дык Рутка...

І нарэшце – Лявонка ды Настка. Самая звычайная весялосьць укрывала іх сэрцы. Пабытавая весялосьць, не афарбаваная трывалымі пачуцьцямі. Прыйшоў час пабрацца шлюбам – яны й пабяруцца. Так і пражывуць: абы шанавалі адзін аднаго.

Народ нецярпліва чакаў. Цётухны завіхаліся ля сьвятара, распытваючы пра дазволенасьць такога супольнага вясельля перад Богам, дзядзькі нярвова фумарылі й паціралі рукі. Спагадлівы жаночы голас пашкадаваў няшчасных закаханых, якіх разлучылі бацькі. Хваля суперажывальных вохканьняў рэхам пракацілася ў натоўпе й сьціхла перад сьвятаром.

– Дзе-ж літасьць Божая, – спытаў прычта стары музыка. – Кахаліся, як ягадкі ў лесе, а цяпер іх вуня як: хрусь – і напалам. Анягож не зрабіць нічога, га?

– Я-ж толькі служка Госпадаў. Людзі самі абралі свой шлях. Мая справа – зьвянчаць іх, а не вярэдзіць сэрцы. Хто я ім, каб ісьці супроць волі бацькоў?

– Ай, сьвятару, ай, міленькі! Спагадай ты ім, – заенчыў кволы бабскі галасок. – Божачка кіруе тваімі думкамі. Ты-ж для іх цяпер Яго ўвасабленьне. Зьлітуйся, сьвятару! Дапамажы, бацюхна! Захіні мудрасьцю сваёй, войча! Абарані-і-і, – канькаў усё той-жа галасок.

... Маладыя ўвайшлі ў царкву. Усе расступіліся, прапускаючы вясельнае шэсьце да аналоя. Раптам з шэсьця пачуліся галашэньні: губляла сьлёзы няшчасная нявеста. Хто-б мог падумаць пра такі яе лёс? Людвіська – мясцовая краля на ўсё навакольле. Яна была даволі высокай, з блакітнымі, нібы бездань вачыма, з самавітым станам, зь дзіўнай беласьцю й тонкасьцю скуры, была гарэзьлівай і дасьціпнай, але ніколі не апускалася да плоскага слоўца. Яе гарманічная хада затрымлівала на сабе захапляльна-зайздросныя жаночыя і захапляльна-паноўныя мужчынскія позіркі ўсюды, дзе-б яна не зьявілася. Хто-б мог падумаць, што гэта яе павядуць зараз да аналоя, падтрымліваючы, як шкурлепку, як несамавітую старую са зморшчаным, зарумзаным, зьбялела-чырвоным тварам-мешанінай. Ні сьлёзы, ні звароты да матчынае й братэрскае любові, ні гвалт зь сябе не ратавалі бездапаможную Людвіську ад нялюбага ды няўхільнага вянчаньня. Яна кідалася ў пакутах па баках, шукаючы апошняе спагады ... У натоўпе трывожна загулі. Нават мужыкі адчулі ў вачах аксамітны сьверб...

Прычт вымавіў агульную літанію. Пакуты сэрца не давалі выразна прамаўляць словы. Шчэ ані разу ў жыцьці не даводзілася яму вянчаць тых, хто плачмя плакаў пад ягонай рукою. Шмат бачыў на сваім вяку стары й мудры сьвятар: і нешчасьлівыя шлюбы, і ўцякалі ў яго з-пад вянца, і маладыя мяняліся. Былі скароныя свайму лёсу, але журыліся яны ціха, ручаіны сьлёз бязгучна суправаджалі маўклівую згоду. Людзі альбо дзейнічалі й ратавалі свой лёс, альбо згаджаліся, зміраліся зь ім. Сёньня ўсё было іначай. Адна зь нявестаў душу надрывала, не магла паўтарыць словаў клятвы. Не магла, але моцна трыманая жаніхом, пагаджальна ківала. Яна дыхала, як на перадсьмяротнай споведзі. Жаніх у іншай пары быў зьбялелы, як першы сёньняшні сьнег. Сьнег – бітыя дыяманты – раструшчаны, зьнішчаны, спляжаны. Ён нярухома й абыякава трымаў сваю нявесту за руку, а безнадзейны позірк быў прыкуты да чужое дзяўчыны...

Сьвятар апытаў усіх і ад усіх атрымаў згоду быць у пары са сваімі абранцамі. Такой была воля бацькоў, падмацаваная панскім загадам. За нявестаў, якія сыходзілі да мужавага пана, была заплочана "куніца". Незваротнасьць, бязвыходнасьць, абяздоленасьць уласных жаданьняў... Сьвятар быў зьбянтэжаны й разгублены. Ён быў у роздуме. Ён мітрэнжыўся, вагаўся. Думкі віравалі, быццам мільярды сьняжынак у завірусе. Схамянуўся ад немае цішыні ў натоўпе. Усе глядзелі на яго: хто са зьдзіўленьнем, хто з недаверам, хто з пытаньнем, а хто з надзеяй, зь вялікім спадзяваньнем. Ён не заўважыў, што ўжо працяглы час стаіць бяз словаў, ціха пазіраючы на абраз Сьвятое Еўфрасіньні, а вусны варушацца ў мармытаньні, зразумелым толькі Усявышняму: "Бо-о-жа, скіруй мае думкі, умацуй маё сэрца, падтрымай маё рашэньне!"

Людзі сьціхла чакалі. Яны адчувалі, што сьвятар зараз – на ростанях. З аднаго боку – Божая воля, з другога – бацькоўская ды панская.

– Любыя дзеці мае, заступнікам каго я зьяўляюся перад Богам нашым міласэрным! Слухайце волю Ягоную! Усе мы ведаем, які цяжкі сёньня дзень перажываюць нашыя закаханыя, разлучаныя бацькамі, – усе занямелі. – Я ня маю права пайсьці супроць волі зямное для гэтых маладых, але кажу вам, хай будзе так, як Богу ўпадабаецца! Расступіцеся!

Народ, у неўразуменьні, паслухаўся...

– Маладыя, заплюшчыце вочы!

І тыя, у зьдзіўленьні, заплюшчылі... Сэрца кожнага ў натоўпе шалёна тахкала, хтосьці таксама пазажмурваў вочы. Ніхто ня мог уцяміць, што задумаў сьвятар.

– А зараз, маладыя хай ідуць, ня бачачы нікога чыста вакол сябе, і толькі навобмацак абяруць сабе пару!

І маладыя пайшлі, і абралі.

– Стойце так, не расплюшчваючы вачэй. Дзеці мае, любыя мае, саколікі мае, – у голасе прычта адчувалася нявымоўнае хваляваньне, ён плакаў.

– Воляю, дадзенай мне ад Бога, аб'яўляю вас мужамі ды жонкамі! Жывіце ў згодзе! Цяперака можна расплюшчыць вочы й пацалаваць сваіх нарачоных, тых, каго абраў для вас Бог!!!

І тут, як балона спала зь людскіх вачэй: перад імі стаялі зьвянчаныя Ігнась і Мар'юта, якія кахалі адзін аднаго, закаханыя сябручкі Адась ды Кася, таксама Антось ды Барбара, і ... і разлучаныя Ян і Людвіся!!! Андрусь застаўся з Гіленаю, а Праньціш з Магарэсяй. Астатнія-ж – пазьмяшаліся, і супроць анічога ня мелі.

– Божа! Неспазнана шчэ намі да сёньня прасьвяда твая! – толькі й змог прамовіць узрушаны сьвятар, усьвядоміўшы сваю праўду.

Народ ажывіўся, радасныя й хвалебныя воклічы вырываліся з грудзей простых мужыкоў ды баб, якія за колькі хвілінаў прайшлі Чысьцец. Хтосьці з бацькоў маладых незадаволена абураўся. Зрэшты і тыя адступіліся перад найвышэйшай сілай. Усеагульнае літаньне Богу паступова, па-за межамі хорама, перайшло ў шчаснае вясельле. Вясельле дык вясельле, ясна-красна на ўвесь сьвет! Музыка, скокі, на салодкім мядку гарэліца, пагуляньнейка ўволю, адпачываньнейка ўсмак...

А пакроўскі сьнег цягнуў да вясны сваю адвечную мэлёдыю. Мэлёдыю-альбу, мэлёдыю-вэлюм, мэлёдыю туманоў.

***Надзея СТАРАВОЙТАВА***

* *пазашлюбных.*

** *калі нявеста да вясельля страціла цнатлівасьць альбо мела пазашлюбнае дзіцё.*

*** *падобнае здарэньне сапраўды адбылося ў 50-х гадох XIX ст. на Магілёўска-Віцебскім памежжы і ў 1898 г. было апісана М. Нікіфароўскім.*

# Нашая фанатэка

## Пакараньне законапаслухмяных

*"БУМэранг"* (зборнік рэпрэсаваных гуртоў), Мн., 2004, "БУМ"




Ці можаце сабе ўявіць, што амэрыканскі прэзыдэнт Джордж Буш выказваецца дзе-небудзь у грамадзкім месцы на ўсю краіну: "Няхай гэтыя "Рамштайны" сабе выступаюць, а скончыўся аплочаны час – мы адключаем электраэнэргію". Бадай, лепшай рэклямы для названага гурта і не прыдумаць. І калі Буш не дазваляе сабе такі бясплатны цырк, дык кіраўнік Беларусі агучыў на ўсю краіну імёны лепшых: "Няхай гэтыя "Дзюбеля" і "Палацы"..." Гэта адбылося пасьля славутага канцэрту дзесяцігодьдзя, які лепшыя беларускія гурты правялі 21 ліпеня 2004 году пад дэвізам сьвятасьці Канстытуцыі. Дзіўная рэч: камусьці не спадабалася, што нехта выказаўся на карысьць Канстытуцыі і... на тэлебачаньні закрылі перадачу "Настаўніцкая", якую вёў лідэр гурта "Палац" Алег Хаменка, а гурт па-простаму звольнілі з філярмоніі. Аказваецца той, каму народ даверыў ахоўваць Канстытуцыю, на якой ён і прысягаў сваёй Айчыне, намерваецца яе перапісаць.

Вы ўжо здагадваецеся, пра каго ідзе гаворка? Пра галоўнага беларускага клятвапраступцу Сашу Лукашэнку. Усю дзяржаўную машыну паставіў ён на свой бок у сваёй няроўнай барацьбе з колам творчай нацыянальнай эліты, а перамагчы пакуль не ўдалося. Удзельнікі таго самага прыгаданага канцэрту на менскай плошчы Бангалёр (мауляў, 10 гадоў... і досыць) пад ціскам улады вымушаныя былі стварыць нават палітычную арганізацыю па ахове сваіх правоў, якую назвалі "Беларуская ўнія музыкаў". Першай масава прыкметнай ініцыятывай гэтай арганізацыі акурат і стаў рэцэнзуемы зборнік рэпрэсаваных гуртоў.

Прызнацца, зноў пераконваюся, што не было-б шчасьця, ды няшчасьце дапамагло. Рэч у тым, што сам я, як філяфаніст, маю ў хатняй калекцыі ўсе лепшыя беларускія выданьні, а значыць і творы ўсіх герояў дня: "N.R.M.", "Палац", "Крама", "Zet", Памідораў, Вайцюшкевіч... Вось толькі "Neuro Dubel" у мяне эпізадычна прадстаўлены (толькі беларускамоўны), а "Drum Ecstasy" дык і ўвогуле нейк абыйшоў, хоць наслыхан пра гэтых авангардных экспэрымэнтальных інструмэнталістаў. Ну не купляць-жа дзеля іх нашумелы расейскі фільм "Начная варта". А вось прэзыдэнт паклапаціўся – і ўсе яны трапілі на адну звышгітовую зборачку – "БУМэранг".

Кожны зборнік пільным калекцыянэрам ацэньваецца перш за ўсё з пункту гледжаньня арыгінальнасьці праграмы. І калі для тых, у каго няма ніводнага беларускага дыска, новы альбом будзе найлепшым падарункам (кожны гурт апрыёры №1 у сваім жанры), дык я адразу пачынаю лічыць страты: дзьве песьні "N.R.M." ёсьць у апошніх альбомах ("Тры чарапахі" і "Лёгкія, лёгкія"), тое самае з "Крамай" ("Свабоды мне дай" і "Хавайся ў бульбу") і з Памідоравым ("Быць беларусам" і "Цуд на Каляды"), затое "Zet" прапанаваў абедзьве песьні не з адзінага свайго рэліза "З Новым годам", а новыя – "1, 2, 3..." і "Твая айчына". Яны ня трапілі нават у папярэдні гіпергітавы зборнік "Генэралы айчыннага року".

І калі з "Палаца" мяне ўзрадавала навізною толькі адна песьня – "Праваджала маці сына" (бо "Вецер" я маю на дыску "The Best"), дык "Neuro Dubel" нарэшце прымусіў і мяне прыслухацца да сваіх рускіх гітоў (а сапраўды-ж, "Охотник и сайгак" уражвае надзвычайным энэргетычным напалам), а караткевіцкая "Скрыпка дрыгвы" не зашкодзіць і наяўнасьцю лішняга экзэмпляру.

Вось "Drum Ecstasy" для мяне тут – татальнае адкрыцьцё. Шчыра падзіўляе іх сапраўдны барабанны экстаз у трэках "Футбол" і "Сьвісткі".

Вось такія героі чарговага лукашэнкаўскага змаганьня. У Менску нават ужо анекдот ходзіць: "А вы чулі, што "Палац" забаранілі? За што?" – "А ня трэба было канюшняй абзывацца, калі столькі лядовых палацаў набудавана".

Затое якая цудоўная падстава для чарговага моднага зборніка! А выдалі як шыкоўна: 12 старонкавы каляровы буклет з апэратыўнымі зьвесткамі пра кожнага ўдзельніка праекту, з маляўнічымі фоткамі. Калісьці я зьбіраў такія рэліквіі ад польскага, брытанскага, вугорскага року... Вось і нашы падасьпелі. Дый песьні якія! Я паслаў адзін экзэмплярчык свайму сябру ў Францыю, дык ён проста ашалеў: такі шык? І гэта ваш беларускі рок? Дык чаму яго ня ведаюць па ўсім сьвеце, як ведаюць амэрыканскі ці ангельскі?

Пытаньні, пытаньні, пытаньні, а жыцьцё вось яно, бяры!

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

**Каб замовіць гэты CD поштаю дашліце $12 на адрас рэдакцыі "Беларуса".**

# За беларускі патрыятызм – на выгнаньне




*Анэля КАТКОВІЧ і Вэраніка КАТКОВІЧ-КЛЕНТАК.* **Успаміны.** Беларускае Гістарычнае Таварыства. Беласток. 1999. Бачын 192. 39 фота і 5 дакумэнтаў.

У 1999 годзе Беларускае Гістарычнае Таварыства ў Беластоку, Польшча, выдала вельмі цікавую кнігу ўспамінаў сясьцёр Анэлі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак (па мужу), беларускіх патрыётак. Нарадзіліся яны ў нашым старым і гістарычным Будславе на Мядзельшчыне. Анэля нарадзілася 19.06.1914г. , а Вэраніка 20.06.1918г. Яны мелі яшчэ дзьве сястры і двое братоў. У 1930 годзе, яшчэ дзяцьмі, засталіся поўнымі сіротамі, за няньками адное сястры, якая памерла яшчэ пры жыцьці бацькоў. Жыцьцё сіротаў вельмі цяжкае, і выжылі яны толькі дзякуючы дапамозе блізкіх і далёкіх крэўных. Але найбольшым няшчасьцем і трагедыяй усіх сясьцёр і братоў былі турмы, высылкі й паняверкі ў турме народаў – СССР. Пра гэтыя беды Анэля і Вэраніка распавядаюць у сваіх успамінах.

Анэля вучылася выдатна. Па заканчэньні школы паступіла яна ў Беларускую гімназію ў Вільні, якую пасьпяхова закончыла ў 1934 годзе. Але гэтага было замала для здольнай і амбітнай дзяўчыны. У 1935 годзе яна паступіла ў Віленскі ўнівэрсытэт, бяручы навукі на гістарычным аддзеле гуманістычнага факультэту. Унівэрсытэт яна пасьпяхова закончыла ў 1934 годзе. У Вільні Анэля пачала браць чынны ўдзел у Беларускім Студэнцкім Саюзе, сьпявала ў хоры Рыгора Шырмы, у 1935-36 гадох рэдагавала часапіс "Пралескі". За Саветамі (1939-1941) працавала настаўніцай беларускай мовы ў Будславе.

Калі казаць пра Вэраніку, то яна пасьля заканчэньня пачатковай школы паступіла ў кравецкую школу ў Лунінцы на Палесьсі. За Саветамі (1939-1941) працавала тэлеграфісткай.

З прыходам немцаў у 1941 годзе жыцьцё для Анэлі ў Будславе стала небясьпечным. Яна вымушаная была пераехаць. Што да гэтага вымусіла? Працытуем ейныя словы: "На пачатку верасьня 1941 году вельмі актывізаваліся мясцовыя палякі, якія імкнуліся арганізаваць польскую школу. Я была настаўніцай у беларускай школе, таму на мяне кіраваліся даносы да немцаў, што бальшавічка. Мясцовыя ўлады параілі мне выехаць з Будслава, бо атрымлівалі шмат даносаў. У гэтых умовах у кастрычніку 1941 году я выехала ў Менск..."

Зь вялікім абурэньнем чытаецца, як Анэля вымушаная была пакінуць родны Будслаў. Падчас апошняй вайны шмат беларусаў загінула ад такіх даносаў да немцаў.

У Менску абедзьве сястры ўцягнуліся ў беларускую патрыятычную працу. Вэраніка ўступіла ў Саюз Беларускай Моладзі, а Анэля атрымала працу як перакладчыца.

З надыходам Саветаў ў Беларусь у 1944 годзе абедзьве сястры разам з малодшым братам Франкам вырашылі ўцякаць на Захад. Затрымаліся ў Польшчы. А адразу па вайне абедзьве сястры атрымалі працу ў Польскай вайсковай місіі ў Бэрліне.

Ім здавалася, што іхняе жыцьцё будзе ўжо бясьпечнае, што ім нічога не пагражае, што пра ўдзел у беларускім нацыянальным руху падчас акупацыі ў Менску амаль ніхто ня ведае. Аднак сталася інакш, трагічна... Савецкая разьведка ня спала...

У жнівені 1949 году Анэлю выклікаюць з Бэрліну ў Варшаву, дзе арыштоўваюць. У той-жа дзень арыштавалі й Вэраніку. Анэля апынулася ў турме ў Варшаве. Адтуль яе перавезьлі ў Маскву ў сумнаведамую Лубянку. Але там яна доўга не была. Пад пільнаю аховаю цягніком яе прывезьлі ў Менск. Тут ужо пачаліся бясконцыя шматгадзінныя допыты. Пісалі пратаколы, прыпісвалі й праўду, і хлусьню. Сьледчы заўсёды страшыў яе расстрэлам. Праўда, там яе ня білі, толькі мучалі псыхічна і бяссоньніцай. Хвалявалася за лёс сястры, зь якою была разлучаная. Судзілі яе па-савецку, завочна. Атрымала 10 гадоў "исправительного лагеря" і была адпраўленая ў Іркуцкую вобласьць у Ангарлаг на лесапавал.

У лягеры Анэля цяжка працавала, хварэла на гіпертанію (высокі ціск крыві). Яна, інтэлігентка, не прывыкшая да такой працы, не выраблялa нормаў. За гэта каралі меншай порцыяй хлеба, што вяло да вялікага аслабленьня.

Перакідалі Анэлю і ў іншыя лягеры. Усюды спатыкала розных цікавых адукаваных людзей. Так дажыла яна, ці, дакладней сказаць, дамучылася, да Каляды 1955 году, калі яе вызвалілі. На Новы 1956 год была яна ўжо ў дарозе ў родны Будслаў.

У кастрычніку 1956 году выехала да мачыхі-Польшчы, ні з-за любові, не дзеля таго, што Польшчы была больш прывабнаю, а дзеля таго, што Савецкі Саюз быў для яе акрутнай і д'ябальскай радзімай. Так расла Польшча за лік беларусаў і беларусак.

Па калеі вернемся да ўспамінаў Вэранікі. У 1948 годзе яе звальняюць з працы ў Бэрліне і яна пераяжджае ў Вроцлаў, дзе выходзіць замуж у 1949 годзе.

Польская паліцыя арыштавала яе ў жнівені 1949 году. Потым перадалі НКВДыстам і перавезьлі ў Менск. Гэта быў 1950 год. У менскай турме нарадзіўся ў яе сынок, якому далі імя Славік.

Судзілі яе, як і сястру Анэлю, завочна. Гэта хучэй была пародыя на суд. Анэля вось што напісала пра савецкія суды: "...Мяне з Верай судзілі завочна. Не прысутнічалі мы на ім, не баранілі нас ніякія адвакаты, не маглі сказаць ні воднага слова ў сваю абарону..."

Вэраніка атрымала таксама 10 гадоў выпраўленчых лягероў. Ніякой пастановы адносна сына Славіка той суд не зрабіў.

У 1950 годзе прывезьлі Вэраніку з сынам у лягеры ў Кінгары ў Казахстане. Пачала працаваць на будове мосту 10 гадзінаў у дзень. Толькі адзін дзень на месяц быў вольны ад працы. Славік пры падтрымцы мацярынскага малака таксама прывыкаў да лягернага жыцьця. Але так было нядоўга. Лягерное кіраўніцтва забрала яго ад маці і перамясьціла ў дзіцячы садок па-за лягерам. На вялікі жаль, Славік там доўга не пажыў. Памёр беднэнькі маючы толькі адзін годзік і два з паловаю месяцы. А гаротнай маці не дазволілі нават прысутнічаць на пахаваньні сына. Дабразычлівы, сасланы ў Казахстан зямляк, нейкі Рушчыц, уладзіў магілу і паставіў крыж.

На пачатку 1956 году дачакалася яна вызваленьня. Прыехала ў Будслаў, дзе спаткалася з сястрою і братам. Пастанавіла выехаць у Польшчу да свайго мужа ў Вроцлаве.

Успаміны Анэлі й Вэранікі Катковічаў вельмі цікавыя і маюць вялікую вартасьць. Чытаеш са сьціснутым сэрцам і сьлязамі на вачах пра іхныя мукі й паняверкі ў савецкіх лягерох. І за што? Толькі за тое, што былі беларускімі патрыёткамі.

*Міхась ШВЭДЗЮК*

## Да гісторыі Сустрэчаў Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

# Хрысьціянства і беларуская літаратура

***Ад Рэдакцыі:** Калі-б была напісаная гісторыя Сустрэчаў Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, чытач пабачыў-бы, што галоўнай тэмай абмяркоўваных на Сустрэчах пытаньняў быў нязьменна лёс Бацькаўшчыны, выжываньне беларускага народу як дзяржаўнай нацыі са сваёй самабытнай культурай і нацыянальнай сьведамасьцю. Шмат дакладаў і дыскусіяў, якія былі праведзеныя за прамінулыя пяцьдзесят зь нечым гадоў на форумах сустрэчаў, ня страцілі свае актуальнасьці да нашых дзён і захоўваюць даведачную каштоўнасьць для гісторыкаў беларускай дыяспары.*

*Ніжэй зьмяшчаем даклад др. Янкі Запрудніка на 18-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што адбылася ў 1988 годзе. Тэма дакладу — "Перабудова маралі і хрысьціянства".*

Мы сёньня сталіся сьведкамі пачаткаў свабоды думаньня ў Савецкім Саюзе. Савецкія філёзафы нарэшце пачынаюць прызнавацца, што марксысцкая філязофія не вяла да пазнаньня рэчаіснасьці. Доктар філязофскіх навук праф. Рыгор Давідзюк у сёлетнім ліпеньскім нумары галоўнага органу ЦК кампартыі Беларусі "Коммунист Белоруссии" заявіў: "Аналізуючы складаны, супярэчлівы працэс разьвіцьця філязофскай думкі, прыходзіш да высновы, што філязофія ў нас зайшла ў тупік, знаходзіцца ў стане застою. ... Філязофія абярнулася ў служанку палітыкі".

Кампартыя Савецкага Саюзу не адмаўляецца аднак ад усіх сваіх догмаў. Аляксандар Якаўлеў, галоўны ідэоляг у сучасным Палітбюро ЦК КПСС, у красавіку 1987 году на нарадзе ў АН СССР сказаў пра тое, як партыйнае кіраўніцтва разумее новую інтэлектуальную свабоду: "Галоснасьць – гэта той інструмэнт, якім грамадзтва (тут пад "грамадзтвам" трэба разумець кампартыю) кантралюе палажэньне справаў ува ўсіх сфэрах жыцьця". Як бачым, партыя й надалей не адмаўляецца ад поўнага кантролю. Яна адмаўляецца пакрысе толькі ад гэткіх тэрмінаў, як "камунізм", "дыктатура пралетарыяту", "нацыянальна-вызвольныя войны". Часьцей затое ўжываюцца "плюралізм думак", "сацыялістычны плюралізм", а таксама "ленінскія прынцыпы". Але тлумачэньня, што гэта – "сацыялістычны плюралізм", партыйныя тэарэтыкі не даюць. Гарбачоў ці раз у сваіх прамовах прызнаваўся што ў ходзе "перабудовы" пануе "мітусьня думак".

У будучыню даводзіцца ісьці навобмацак. Ні Маркс, ні Ленін нічога ня ведалі ані пра кампутары, якія прывялі да рэвалюцыі ў сродках камунікацыі, ані пра ракетна-ядзерны тупік і пагрозу зьнішчэньня цывілізацыі, ані пра экалягічную катастрофу, што пагражае цэлай зямной кулі.

А калі хто сёньня ў савецкай Беларусі азірнецца назад на пройдзены шлях, дык пабачыць, што дарога, якою партыя вяла за сабой народ, ішла ў нікуды, як гэта добра адлюстравала ў вершы 23-гадовая паэтка Людміла Рублеўская.

ДАРОГА Ў НІКУДЫ
"Я ведаю, куды вяду!"
Крычала ўсім адна дарога.
Крычала гучна. Хто пачуў –
Пайшоў па ёй.
А чула – многа.
Гарлала рэха ў вышыні.
А паўздарогі – гнала сьмецьце,
І верас курчыўся ў агні,
І птушкі падалі, як сэрцы.
"Я ведаю!" –
І ўсе ішлі.
І верылі. У што? – Ня помняць
Дарога бегла ад ральлі,
І ад квітнеючага поля.
Але ня век жыве спадман.
І вось – дарога замаўчала...
...Глядзяць: наперадзе – туман.
А ззаду – вогнішча шугала.
*(ЛіМ, 8.01.88)*

Сёньня ў Савецкім Саюзе пачынаюць прыглядацца да "маральнай сьведамасьці" грамадзтва спосабам сацыялягічных досьледаў. І што бачым? Вось вынікі анкеты, праведзенае ў адзінаццаці зонах СССР (Беларусь — адна з "зонаў"): "Матар'ялы дасьледаваньня сьведчаць аб паважных дэфармацыях маральных асноваў жыцьця, аб зьнішчэньні ўзроўню маральных вартасьцяў, высокай ступені сацыяльнай эрозіі" ("Ком. Бел.", 1987, №7). Анкета выявіла, што 77% апытаных адзначылы на першым месцы: "блат", "несправядлівасьць да людзей" і "абыякавасьць да навакольля". А на Беларусі ў дададак да ўсяго, як мы гэта добра ведаем, адбылася эрозія нацыянальнай сьведамасьці. Тым часам партыя й далей у сваёй праграме заяўляе, што яна "будзе ўзгадоўваць у савецкіх людзей высокую клясавую сьведамасьць і пільнасьць, уменьне з выразных клясавых пазыцыяў ацэньваць грамадзкія зьявы" ("Бел. Ком." 1988. №6).

Не зважаючы, аднак, на партыйныя заявы, усё часьцей вядуцца гутаркі пра "вышэйшыя гуманістычныя інтарэсы чалавецтва", да якіх належыць таксама свабода рэлігіі.

Уладзімер Караткевіч у сваім апошнім зборніку вершаў "Быў. Ёсьць. Буду", пасьмяротнае выданьне якога выйшла ў Менску ў 1986 годзе, зьмясьціў верш пад загалоўкам "На Беларусі Бог жыве":

"На Беларусі Бог жыве", —
Так кажа мой просты народ.
Тую праўду сьцьвярджае раса
ў траве
І адвечны зор карагод.
Тую праўду сьцьвярджае
Упартасьць хваль,
І продкаў запавет,
І мовы залаяʼ сталь,
І нашых дум сусьвет.

Васіль Быкаў у рамане "Кар'ер" (мэтафара раскопваньня народнай памяці) паставіў галоўным героем лейтэнанта Агеева. Агееў, зазірнуўшы "краем вока" ў душу матушкі Бараноўскай і пабачыўшы там "дабрыню" (хрысьціянская мараль), усё думаў, што сталася-б зь ім, калі-б не людзкая дабрыня, не хрысьціянская, чалавечая ці якая яшчэ там міласэрнасьць гэтай *цёткі-пападзьдзі*" (матушка Бараноўская схавала яго ад немцаў). "Усё-ж яна /"цётка-пападзьдзя"/, – разважае Агееў, — належала да чужога класу, а рознасьць класавых інтарэсаў – ёсьць вечная перадумова барацьбы, гэта ён засвоіў яшчэ ў школе ды і з кароткага курсу таксама" /з кароткага сталінскага курсу гісторыі партыі/.

Агееў разважае пра матушку Бараноўскую:

"Столькі нацяпераўшыся ў жыцьці, страціўшы мужа і сына, як можна адказваць за сваё гора нейкай там дабрынёй? Але, мабыць, можна... Значыць, ёсьць у яе нешта вышэй за класавыя крыўды, а можа быць і вышэй за прыроджанае імкненьне да справядлівасьці. 'Штосьці дабрэйшае за дабрыню', – паўтарыў ён у думках, не знаходзячы адказу і адчуваючы, што засынае..."

Варта тут нагадаць, што газэта "Комсомольская правда" крытыкавала Васіля Быкава за "заляцаньне да бозенькі"...

Празорлівыя літаратурныя таленты Караткевча, Быкава паказваюць на выпрабаваную тысячагодзьдзем народную мудрасьць у падыходзе да ацэньваньня сацыяльных і іншых зьяваў жыцьця – на прынцып хрысьціянскае маралі, на агульначалавечыя вартасьці, якія вымагаюць пашаны індывідуальнасьці чалавека, народу й нацыі. У нашай літаратуры тэма гэтая ледзь толькі закранутая. А яна пэрспэктыўная. Тэма хрысьціянскай маралі, распрацаваная празаікамі й паэтамі, можа ня толькі падлячыць духова тых "абыякавых" да бліжняга, якіх налічваецца 77%, але й зрабіць больш папулярнай родную літаратуру, якая знаходзіцца цяпер у заняпадзе.

## Чытачы ўспамінаюць

# Беларускія студэнты ў Мюнхэне (1945 – 1953)

Будучы студэнтам у Марбургу неяк халодным восеньскім вечарам зайшоў я ў унівэрсытэцкую бібліятэку. Там на паліцах стаялі старыя таўшчэзныя фаліянты ў масыўных абкладзінах. Тое былі рэгістры ўсіх студэнтаў за часы існаваньня Марбургскага Унівэрсытэту, пісаныя лацінскаю моваю. Якім-жа дзівам для мяне было пабачыць недзе ад хіба XVII стагодзьдзя нашых землякоў зь Вялікага Княства Літоўскага: Lithuanus Sluccensis, Lithuanus Bruscensis, Lithuanus Prinscensis, Lithuanus Minscensis, Lithuanus Vilnaensis. Усё перарывалася з апошнім падзелам Рэчы Паспалітай.

Пасьля капітуляцыі Нямеччыны, калі стварыліся ўмовы для студыяў, беларусы-студэнты Высокіх школаў у Мюнхэне гуртаваліся пераважна пры Унівэрсытэце УНРРА. Некалькі чалавек было і ў нямецкіх школах: у Палітэхнічным – Міхась Рагуля, Васіль Русак, у Кансэрваторыі – Семянкевіч.

УНРРАўскі ўнівэрсытэт быў зарганізаваны й пачаў працаваць ад зімовага сэмэстру 1945 году. Разьмяшчаўся ён у абшырным будынку Нямецкага Музэю, залі якога былі больш-менш прыстасаваныя пад аўдыторыі. Маладыя беларускія эміграцыйныя хлопцы дачуўшыся пра арганізаваньне Унівэрсытэту пачалі прыбываць у Мюнхэн улетку 1945 году.

Немалая група нашае моладзі прыехала з францускай акупацыйнай зоны, з Равэнсбургу. Там быў вялікі польскі лягер ДП, але, мяркую, ня менш за палову зь іх былі беларусамі; людзі жылі пераважна на прыватных кватэрах. У лягеры існавала польская гімназія, дзе й вучнямі, і прафэсарамі былі скрозь беларусы. Выкладалі там Барыс Кіт, Кастусь Вадэйка, Эмануіл Ясюк, Сьвірыд, Буткевіч. У Равэнсбургу жыў і Юрка Сабалеўскі, які адыгрываў ролю мадэратара пад час нашых спрэчак.

З таго лягеру ў Мюнхэн паехалі Васіль Русак, Аўген Кудасаў, Аляксей Арэшка, Аўген Вярбіцкі, Уладыслаў Шульжыцкі, Галіна Родзька, Надзя Юрэвіч, Оля Воўк-Левановіч. У горадзе да іх далучыліся Барыс Данілюк, Валодзя Воўк-Левановіч, Ніканор Ляўковіч, Аляксандар Жогла, П. Манькоўскі, Б. Данілюк, У. Тамашчык, А. Арэшка, А. Кудасаў, Г. Родзька.

Тут таксама жылі на прыватных кватэрах, а некаторыя ў лягерах ДП каля Мюнхэну: Scheissheim, Freimann. Значнага царкоўнага жыцьця ў тыя часы ня было. На сьвяты выяжджалі ў беларускія лягеры, адведвалі бацькоў, знаёмых або езьдзілі на экскурсіі ў Баварскія горы. Арганізатарам тут найчасьцей быў Уладзімер Бортнік.

Пётра Манькоўскі, Аляксандар Калодка, Юзэфа Брэчка, Паплаўская, Антон Бяленіс, Міхась Тулейка, Калоша, Латушкін. Прафэсарамі ўнівэрсытэту былі залічаныя Барыс Кіт, Янка Станкевіч, Ул. Тамашчык.

З ініцыятывы старэйшых і больш спрактыкаваных студэнтаў 18 лістапада 1945 году ў Мюнхэне было заснаванае Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне й неўзабаве распачалося выдаваньне лацінкаю на ратататары часапіса "Студэнцкая Думка", пераназванага пазьней у "Крывіцкі Сьветач". Асабліва актыўнымі ў рэдагаваньні й тэхнічнай апрацоўцы былі

У кастрычніку 1946 году ў Мюнхэне адбыўся Зьезд дэлегатаў беларускіх студэнцкіх арганізацыяў Нямеччыны. Тады-ж была ўтвораная Цэнтраля Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (Ц.Б.С.А) на чужыне. Старшынём Цэнтралі быў абраны Барыс Рагуля.

Тымчасовы характар УНРРАўскага ўнівэрсытэту не пакідаў ніякіх надзеяў на заканчэньне там распачатага навучаньня. Таму ўжо ў 1947 годзе значная група студэнтаў пераехала ў Марбург у Філіпс Унівэрсытэт, а неўзабаве і іншыя за імі.

***Аляксей АРЭШКА, Бруксэль***




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветная сеціва: www.baza-belarus.org №11 (466)


# Лістападаўскі сход аддзелу БАЗА

Чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 13 лістапада. Напачатку перад прысутнымі выступіла Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спн. Івонка Сурвілла. Яна прывітала прысутных і каратка распавяла пра дзейнасьць Рады БНР у справе падтрымкі незалежнасьці, дэмакратыі й свабоды ў Беларусі. Спн. Старшыня таксама сказала пра сваю асабістую дзейнасьць за апошні час, у тым ліку ў справе кантактаў з замежнымі ўрадамі й парлямантамі. Асобна была ўзгаданая дзейнасьць па падтрымцы Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі, які будзе мець значны ўплыў на падзеі ў Беларусі.

Затым выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён спыніўся на сёньняшняй сытуацыі ў Беларусі, якая склалася ў выніку афёры так званага рэфэрэндуму. Нажаль, рэфэрэндум адбыўся, ня гледзячы на тое, што людзі былі гатовыя яго байкатаваць. Вельмі магутным чыньнікам на карысьць рэжыму быў страх, запалохваньне, якія актыўна пашыраў рэжым Лукашэнкі праз кантрактную сыстэму, што зрабілася кшталтам прыгону. Большасьць людзей незадаволеныя рэжымам. Але, дзякуючы вось гэтаму страху, пратэст, нажаль, для большасьці выяўляецца толькі на кухні, не выносіцца ў грамадзкія дачыненьні.



*Выступае Старшыня БНФ сп. Зянон ПАЗЬНЯК.*

У Беларусі канца 20-га і пачатку 21-га стагодзьдзя стварылася дзяржава, але не скансалідавалася нацыя. Перыяд нацыянальна-культурнага асьветніцтва для такой кансалідацыі, і для стварэньня нацыянальнай эліты — абавязковы. Ня трэба думаць, аднак, што справа толькі ў грашах. Воля і патрыятызм людзей маюць большае значаньне. І нацыянальнае асьветніцтва павінна спрыяць разьвіцьцю такіх пачуцьцяў і разуменьню свайго месца ў грамадзтве.

"Перыяд выбарчай барацьбы скончыўся, зараз стан беларускага грамадзтва і рэпрэсіі рэжыму робяць гэты шлях немажлівым. Разам з тым Фронт, наша арганізацыя пойдзе на прэзыдэнцкія выбары, але гэта справа будучыні. Жыцьцё не стаіць на месцы, і сытуацыя мяняецца ўвесь час. Мяняецца таксама сытуацыя ў краінах-суседзях. Ніякай ідэі, ніякай маральнай сілы рэжым Лукашэнкі ня мае. Гадзіньнік цікае, і час ягоны сьцякае. Перамога будзе за намі, але трэба не дапусьціць, каб лукашысты зьнішчылі тое, што яшчэ ня зьнішчана, каб яны раструшчылі надзею народу. Безумоўна, наперадзе нас чакае барацьба. Трэба быць гатовымі да рэпрэсіяў. Будуць зачыняцца газэты, будуць ліквідавацца партыі, крок за крокам будзе працягвацца вынішчэньне нацыянальных каштоўнасьцяў, зачыстка нацыі."

Але час працуе на нас. Кожны дзень набліжае рэжым да канца. І кожнае дзеяньне, кожны ўчынак, кожнае патрыятычнае слова мусяць набліжаць гэты канец.

У другой палове сходу адбыўся канцэрт вядомага паэта і сьпевака сп. Сяржука Сокалава-Воюша. Беларускі бард выканаў свае вядомыя песьні з ранейшага рэпэртуару, у тым ліку "Аксамітны вечар", песьні з цыклю пра Слуцкіх паўстанцаў, "Альпіністы на касьцёле" і шматлікія іншыя. Адна з песень прагучала ўпершыню. Скончыўся выступ песьняю "Фронт", што гучала і гучыць сярод шыхтоў сёньняшніх змагароў за вольную Беларусь. Сьпевы былі надзвычай энтузыястычна прынятыя перапоўненай заляй.

Затым ў разьдзеле "Рознае" прагучалі аб'явы, і адбылося знаёмства з новымі сябрамі аддзелу, пасьля чаго ўсе мелі нагоду працягнуць размовы й знаёмствы ў таварыскай гутарцы пры кубку кавы й пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**



*Сьпевы Сяржука СОКАЛАВА-ВОЮША былі надзвычай энтузыястычна прынятыя перапоўненай заляй.*

## Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| К. Агароднік | 30 | А. Пугачоў | 30 |
| А. Андрушкевіч | 30 | С. Рошчык | 30 |
| Г. Губская | 30 | Г. Сіняўская | 30 |
| К. Еўсьцігнееў | 30 | І. Фанская | 30 |
| Н. Зубчык | 30 | А. Чыж | 30 |
| І. Кудзін | 30 | С. Янкоў | 30 |
| Т. Ладаня | 30 | | |
| К. Панцялеева | 30 | | |

**Шчыры дзякуй!**

# Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 11 сьнежня 2004 г. ў залі Фундацыі імя П. Крэчэўскага па адрасу:

## 166-34 GOTHIC DR., JAMAICA

Даезд цягніком падземкі F да прыпынку *169th St.* Прайсьці потым ад станцыі два блёкі на поўнач да скрыжаваньня *167 Street* і *Gothic Drive*, дзе на іх скрыжаваньні знаходзіцца будынак Фундацыі.

Даезд аўтам з Брукліну і Мангэтану па *Grand Central Parkway* да зьезду *Parsons Blvd*, тады па сэрвіс роўд да *168 Street* і па ёй зьвярнуць управа каля будынку школы, на *Gothic Drive* зьвярнуць зноў направа. На скрыжаваньні *Gothic Drive* і *167 Street* стаіць будынак Фундацыі, які можна лёгка казнаць па бел-чырвона-белым сьцягу ля дзьвярэй.

Запрашаем сяброў аддзелу і ўсіх зацікаўленых.

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.*



*Віншуем шаноўнае сужэнства Ліны й Міколы САГАНОВІЧАЎ зь вянчаньнем, якое адбылося 30 кастрычніка 2004 году ў царкве Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Гайленд Парку ў Нью Джэрзі.*

*Сябры й знаёмыя*

Сьвятар і парафіяльная рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Бруклíне на: *401 Atlantic Ave* запрашаюць вас на Божыя службы кожную нядзелю а 10-й гадзіне раніцы.

# Літаратурная прэмія імя Янкі ЮХНАЎЦА



На атрыманьне прэміі падалі свае творы 14 аўтараў зь Беларусі, Канады, Чэхіі, Эстоніі. Сярод іх як пачаткоўцы, гэтак і знаныя майстры слова, навукоўцы. На разгляд былі пададзеныя празаічныя й паэтычныя працы, а таксама навуковыя дасьледваньні.

У выніку галасаваньня Літаратурную прэмію імя Янкі Юхнаўца ўшанаваў сваім раманам «Там, дзе нас няма» пісьменьнік Макс ШЧУР (гл. здымак справа). Яму аддалі першынства трое сяброў Прэміяльнага Камітэту. Яшчэ адзін голас быў пададзены за іншага аўтара. Адзін сябра Камітэту вызначыцца ня змог.

Неўзабаве ляўрэат выставіць на Беларускай Паліцы ўрыўкі са свайго раману, каб чытачы здолелі атрымаць пра яго ўяўленьне.

Журы вырашыла таксама адзначыць верш «Крэда» самага юнага ўдзельніка конкурсу - 12-цігадовага гімназіста зь Берасьця Ігнація Сокала. Яму будуць дасланыя кніжкі па гісторыі Беларусі.

Літаратурная прэмія імя Янкі Юхнаўца заснаваная ў сакавіку 2004 году з мэтаю ўшанаваньня памяці выбітнага пісьменьніка-эміграната ды спрыяньня разьвіцьцю літаратуры й прысуджаецца ў дзень нараджэньня пісьменьніка - штогод 3 лістапада.

Літаратурная Прэмія імя Я. Юхнаўца - ёсьць прызнаньнем творчасьці Беларускага майстра слова з боку Беларусаў на чужыне.

***Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ, Старшыня Прэміяльнага камітэту***

*На наступных **шасьці** бачынах прапануўваем вашай увазе некаторыя творы ці ўрыўкі зь іх, дасланыя на разгляд камітэту.*

***Макс ШЧУР***

# Там, дзе нас няма

(Урывак)

ЧАСТКА ПЕРШАЯ

ДРУГАРАД

*Горад Пэтэрунія мяняў сваю назву разам з тым, як вецер мяняў свой кірунак. Час ад часу ён называўся Санта Марыя Лілейная; час ад часу Сярыбрат, час ад часу Сьвятакаўчэск, час ад часу Філагока, і гэтак далей.*

*У той момант, калі пачыналася нашая гісторыя, дзьмуў паўднёва-ўсходні вецер, і таму горад называўся Пэтэрунія. Каб палегчыць нашым дарагім чытачам разуменьне гэтай гісторыі, мы будзем прытрымлівацца гэтага назову на працягу ўсяго нашага аповеду, хай сабе вятры мяняюцца, як хочуць.*

*Пэтэрунія была вялікай ультрасучаснай, ультрафіялетавай, ультрамарынавай, ультрагарыстай і ультрамагільнай мэтраполіяй. Гэта быў горад, што вельмі спрыяў вучобе й духоўным практыкаваньням. Сотні цягнікоў, тысячы трамваяў, міліёны аўтамабіляў, трыліёны матацыклаў поўнілі ягоныя вуліцы, плошчы й праспэкты, гойсалі ў вас па-над носам, у адно вуха ўляталі, а ў другое выляталі—крышку запэцкаўшыся серай у выпадку, што вушы не былі яшчэ ў гэтым месяцы чышчаныя—бегалі, скакалі й паглыналі адлегласьці, як антропафаг паглынае місіянэра, са спэцыямі альбо ўжо як ёсьць.*

*Горад Пэтэрунія, як і ўся краіна, вялікай мэтраполіяй якой ён быў, удаваў сабой інтэлектуальны й гандлёвы цэнтар сусьветнай значнасьці й адно з найбольш перадавых дасягненьняў прагрэсу ў гэтым прагрэсіўным стагодзьдзі.*

***Ўдобро, "Гангстэрская місія, альбо Чарадзейная Лямпа"***

**1.**

*Такім чынам атрымліваецца, што на наступны дзень мы ёсьць і ня ёсьць тымі самымі, што ўчора, бо на нас цісьне таямнічасьць і ганебнасьць усяго, што мы перажылі ўночы. Таму нам таксама крыху ўласьцівая тая рыса, якая яднае ўваскрослых з прывідамі.*

***Сабато, "Пра герояў і магілы"***

Узімку бацька прачынаўся яшчэ пазьней, чым улетку: прычынай гэтага былі ягоныя начныя забоі, альбо, як ён іх сам называў, спірытычныя сэансы, падчас якіх бацька размаўляў з Богам. Няма, аднак, ведама, ці Бог бацьку нешта адказваў: звычайна "Ён" адкладаў размову зь ім да раніцы. Менавіта каб аддаліць гэтую непрыемную працэдуру, падчас якой учорашні субутэльнік, а сёньня абстынент Бог працэджваў бацькава бруднае сумленьне скрозь сіцейка сваіх строгіх маральных запаветаў, нагадваючы яму аб усіх учора нанесеных гаспадару, веры й айчыне крыўдах, бацька й замаруджваў радасны момант сваёй сустрэчы з кожным новым зімовым днём, імкнучыся перадусім як сьлед праспацца—што ў яго ўсё адно амаль ніколі не атрымлівалася.

Тым часам як людзі на досьвітку ўставалі, адчайна кідаліся ў (ці часам таксама пад) гарадзкі транспарт ды спрабавалі пратаўкціся скрозь ягоныя вузкія вантробы на ненавісную працу, бацька яшчэ толькі пачынаў другую бутэльку. Звычайна, пасьля гэтага ён адразу падаў там, дзе стаяў альбо сядзеў, канчаткова згубіўшы ня толькі сумленьне й пачуцьцё рэчаіснасьці, але й прытомнасьць. Часам, ужо цяжка параненаму сьляпучым боскім сьвятлом атамовага выбуху, які непазьбежна адбываўся ў ягонай фантазіі, яму ўдавалася адпаўзьці ў свой пакой і там нарэшце забыцца глыбокім сном бязгрэшніка, які толькі што прадаў пшаніцу за вялікай выгадай для сябе.

Такі стыль жыцьця бацька называў "багенным" (ад слова "багна", ня йначай) і лічыў яго для сябе, як для чалавека творчага, надзвычайна карысным. Сапраўды, як яшчэ ў Інфляччыне ільга спазнаць Бога, як не пасярэдніцтвам нацыянальнага спірытычнага напою—вопіюму? "Гарэлка творчаму чалавеку неабходная, як віягра," - казаў ён. А тое, што бацька творчым чалавекам быў—прынамсі, калісьці—у гэтым не магло быць ніякага сумневу. Дый хто ў ягонай роднай Інфляччыне ім калісьці ня быў? "Кожны чалавек—каваль ланцугоў уласнага шчасьця," казалі тут.

Акрамя алкагалізму, бацька зь дзяцінства цярпеў яшчэ й графаманіяй. Тым часам як алкагалізм не прыносіў яму ніякіх матар'яльных выгодаў, графаманія, як бацька своечасова скеміў, прынесьці нейкія матар'яльныя выгады магла, і ад таго часу, як ён гэта зразумеў, ён зрабіўся прафэсійным графаманам—пісьменьнікам. Бацькава пісьменьніцкая прадуктыўнасьць, трэба аддаць ёй належнае, была наўпроста прапарцыянальная колькасьці выпітага ім алкаголю й набліжалася да недасяжнай: толькі за апошнія пяць гадоў ён напісаў восем раманаў, чатыры аповесьці, дванаццаць апавяданьняў, дзевяць артыкулаў, тры запаветы (адзін уласны), пятнаццаць заяваў на павышэньне ганарару, незьлічона скаргаў на выдаўцоў ды рэдактароў за наўмысную затрымку ганарару, але пры гэтым ніводнага асабістага ліста й ніводнага даносу. Пісаць лісты ён ня меў каму, а даносы ня меў на каго—хіба што на сваю дачку, зь якой застаўся быў жыць у кватэры пасьля сьмерці жонкі—але не, на такую гнюснасьць ён быў няздольны. Да таго-ж, нават са сваім унівэрсальным талентам бацька наўрад-ці-б здолеў зрабіць нейкі арыгінальны ўнёсак у гэты папулярны жанр, як што даносы пісалі цяпер практычна ўсе: для даносаў ужо гадоў пяць як існаваў нават адмысловы фармуляр, куды трэба было ўпісаць толькі прозьвішча й адрас падазронага (напрыклад, нялюбага суседа), а потым, прыклаўшы дзеля посьпеху хадайніцтва замежную банкноту, укінуць фармуляр у паштовую скрыню ў цэнтры горада, каля сядзібы Дуумвірата. Куды ўжо прасьцей: пішы—не хачу! Але бацька якраз і не хацеў: быць нечым эпігонам ён быў нязгодны. У яго хапала сваёй працы—да таго-ж, за даносы, у адрозьненьне ад яе, даўно ўжо нічога не плацілі, бо даносчыкаў зараз разьвялося столькі, што выплата ім ганарараў зруйнавала-б гаспадарку краіны яшчэ хутчэй, чымся эканамічная праграма ўраду.

Як сапраўдны майстар свайго рамяства, бацька працаваў у самых розных літаратурных жанрах. Яму замаўлялі дэтэктывы, фэнтэзі, парнаграфію, трылеры, фэльетоны, сайнс і палп фікшн, жаночыя й гістарычныя раманы, успаміны, біяграфіі, аўтабіяграфіі, падручнікі, інструкцыі, зборнікі анэкдотаў, гараскопаў, школьных і дарожных правілаў—большасьць гэтых замоваў ён выконваў са стараннай пільнасьцю, якой мала хто з тых, хто яго ведаў, мог ад яго чакаць. Але-ж бацьку, на шчасьце, ніхто ня ведаў—і ён нікога ня ведаў, дый не хацеў ведаць. Ён ня ведаў нават таго, што за апошнія пяць гадоў ягонай актыўнай пісьменьніцкай дзейнасьці колькасьць ягоных канкурэнтаў скарацілася роўна ў дзесяць разоў. Прасьцей кажучы, у сваім цэху ён застаўся адзіным манапалістам: усе астатнія, меней пладавітыя калегі-графаманы ня вытрымалі канкурэнцыі з бацькам і канчаткова сьпіліся альбо сышлі ў журналістыку—што ў Інфляччыне азначае адное й тое-ж. Таму ільга сьмела сказаць, што на той зімовы дзень, у межах якога разварочваюцца апісаныя тут падзеі, бацька зьяўляўся, бадай, найбольш чытаным і шырокараспаўсюджаным інфлянцкім пісьменьнікам—аб чым не здагадваўся й не павінен быў здагадвацца ня толькі ён сам, але й ніхто з чытачоў, бо ў бацькавым кантракту з выдавецтвам была нават адмысловая ўмова: кожны новы твор ён павінен быў падпісваць новым псэўдонімам, каб дапамагчы сваім выдаўцам стварыць адчуваньне рознастайнасьці й усебаковага разьвіцьця айчыннага літаратурнага працэсу. Такім чынам, за свой кароткі пісьменьніцкі век бацька навыдумляў сабе столькі несапраўдных імёнаў, што часам ужо забываўся на сваё імя сапраўднае. Бадай, пасьля такой колькасьці зьмененых ініцыялаў адзіным ягоным сапраўдным імем магло-б быць хіба што Аліяс (гэтак ён і падпісваўся, дарэчы, у карэспандэнцыі з рэдакцыямі), хаця сам сябе ён называў у думках пасвойску: "Ёнжа". Употайкі бацька, канечне-ж, ганарыўся тым, што ў кнігарнях ягоныя кніжкі пераважалі, прынамсі па колькасьці, творы ўсіх астатніх разам узятых аўтараў—але з часам ён ужо ня быў здольны адрозьніваць сваіх кніг ад чужых, бо чым далей, тым часьцей забываўся, што за гучным імем замежнага паходжаньня хаваецца ніхто іншы, як ён сам, і ў вольныя хвілінкі зь цікавасьцю перачытваў свае ўласныя творы, а часам і дазваляў сабе цішком сёе-тое зь іх перадраць, зь цяжкасьцю пераадольваючы свае прыродныя сарамлівасьць і добрасумленнасьць. Такая нечалавечая плённасьць, трэба сказаць, прыносіла яму стабільны даход у памеры скрыні гарэлкі ў месяц, плюс колькі тых міліёнаў інфлянцкіх талераў на кішэнныя выдаткі, цыгарэты, кнігі ды хлеб надзённы. Усё астатняе ў хату прыносіла ягоная дачка, невядома адкуль—але аб ейных занятках бацька ніколі ў яе не пытаўся, а яна сама ня вельмі любіла аб іх распавядаць. Паміж бацькам і дачкой панавала ў гэтых пытаньнях поўнае ўзаемнае непаразуменьне: аб кім аб кім, а аб іх сапраўды ільга было з поўнай рацыяй сказаць, што яны жывуць душа ў душу, як у той казцы.

Афіцыйна будучы беспрацоўным, бацька працаваў з абеду да вечара, калі яму толькі не бракавала натхненьня. А натхненьня яму, сапраўды, апошнім часам бракавала. Дый што тут дзіўнага: пры такім шалёным тэмпе працы бацька за пяць апошніх гадоў канчаткова, што называецца, выпісаўся, аднак сьпісваць сябе з рахункаў дзяржаўных выдавецтваў усё яшчэ не хацеў, бо ня мог уявіць сябе ў якасьці выканаўцы нейкае іншай працы. Калісьці, пакуль жонка была яшчэ жывая, бацька быў працаваў на адным сакрэтным абаронным прадпрыемстве, але адтуль яго выгналі за ідэялагічную ненадзейнасьць і схільнасьць да ўстрыманьня ад піцьця ў працоўны час. Выгнаньне бацькі з працы значна падкасіла жончына здароўе, бо цяпер яна мусіла бачыць свайго мужа часьцей, і неўзабаве ягоная беспрацоўная прысутнасьць у хаце канчаткова яе даканала. З таго часу, як жонка пакінула іх з дачкой адных, у бацькі зьявілася ўсьведамленьне свайго мужчынскага абавязку карміць сям'ю й паіць вадою кветку на вакне, якая за столькі гадоў катаваньня безнадзейнаю смагай таксама магла прэтэндаваць на статус члена сям'і. У апошні час кветка зноў нечакана закрасавала нейкім нездарова яскравым кветам, як быццам у яе пачалася другая маладосьць. "Перад здыхатою," думаў бацька, якому мроілася ў кветцы ягонае ўласнае падабенства. Натхненьне было яму зараз неабходнае, як кветцы ўгнаеньні. Таму ён ужо некаторы час інтэнсіўна лячыўся ад бясплённасьці з дапамогаю моцнага й раней заўжды дзейнага сялянскага валідолу, набытага на гарадзкім кірмашы. Да таго-ж, ён быў крыху захварэў, а тутэйшы вопіюм, як ведама, зьяўляецца найлепшым народным лекам супраць любой заразы.

Піў бацька звычайна сам, як што прысутнасьць трэцяга ў размове з Богам, самі разумееце, зусім неабавязковая, нават,

***Працяг на бачыне 11***

*Працяг з бачыны 10*

можна сказаць, лішняя. Часам ён спрабаваў падыйсьці да якога-небудзь інтэлектуальнага выгляду вулічнага нячысьціка й прапанаваць яму "трэцім будзеце?", але той, ня бачачы побач з бацькам другога субутэльніка, звычайна адхрышчваўся ад бацькі, як мог. Некалі бацьку таксама мроілася, што пры іхных з Богам размовах прысутнічае ягоная жонка-нябожчыца, аднак бацька натрэніраваным яшчэ пры ейным жыцьці рухам прaганяў яе прэч з кухні. Зрэдку яму здавалася, што ён па ёй сумуе, але гэтае адчуваньне хутка праходзіла, варта яму было толькі зірнуць на ейны фотаздымак. Невядома, ці здраджвала яму жонка: ён не трываў яе, хутчэй за ўсё, з-за таго, што сам быў няздольны ёй здрадзіць—ні маральна, ні тым больш фізычна. Нейкі час суседзі падазравалі яго ў тым, што ён яе забіў: магчыма, у іх былі на гэта свае падставы. Карацей, людзі бацьку не любілі, і ён адплочваў ім узаемнасьцю.

У пэрыяд зімовай сьпячкі, які звычайна супадаў з пэрыядам пошукаў страчанага натхненьня, бацькаў дзень пачынаўся з чытаньня другарадзкіх газэтаў. Разам з болем у пячонцы і ў галаве адразу па прабуджэньні яго раптам пачынаў даймаць адмысловы геапалітычны неспакой, празь які яму карцела даведацца, як праходзіла гераічнае супрацьстаяньне роднай Інфляччыны астатняму сьвету пакуль ён спаў і працаваў, на працягу мінулага коладня. Сам ён традыцыйна лічыў сябе адным з галоўных удзельнікаў гэтага супрацьстаяньня, толькі што часам вагаўся наконт таго, на якім баку барыкадаў знаходзіцца. Усяляк, толькі пераканаўшыся ў тым, што Інфляччына ўсё яшчэ існуе, ён супакойваўся й мог з пэўнасьцю сьцьвярджаць, што сэнс ягонага існаваньня—больш за проста лакальны.

Выпіўшы адну-дзьве чаркі з учора пачатай бутэлькі, бацька насоўваў на ногі шызыя тэпці й толькі пасьля гэтага наважваўся высунуць нос з абабітых чорт ведама чым дзьвярэй сваёй кватэры. Папярэдне зірнуўшы ў вочка й дадаткова запэўніўшыся, што на лесьвіцы нікога няма, ён шлёпаў на два паверхі ўніз па старажытнай, скручанай як мокрая бялізна лесьвіцы, адчыняў маленькім ключыкам патаемную скрынку, у якой пашталён пакінуў яму й толькі яму (апроч бацькі, ніхто ў цэлым доме газэты не чытаў) важнае паведамленьне дзяржаўнай значнасьці, вызваляў скамячаны стос газэтнай паперы з вузенькага астрогу паштовай скрынкі, мауляў параненую птушку з клеткі, акуратна браў яе ў рукі й прыносіў яе дахаты.

Газэтаў бацька выпісваў шмат. Беручы да ўвагі тое, што ён рэдка размаўляў зь кім-небудзь апроч сваёй дачкі, то ў ейную адсутнасьць ягоным адзіным суразмоўцам магло быць друкаванае на жоўтай паперы нямое слова. З газэтамі бацька, як ні дзіўна, не супрацоўнічаў, грэбуючы пэрыёдыкай, пра якую ён казаў, што тая губляе сьвежасьць нават хутчэй за хлеб ці малако—таму гонар супрацоўнічаць з газэтамі пакідаў іншым, менеj значным і меней таленавітым за яго аўтарам. У сваю чаргу, каб у каторы раз запэўніцца ў іхнай нязначнасьці й неталенавітасьці, бацька лічыў сябе абавязаным рэгулярна цікавіцца тым, што пішуць гэтыя ягоныя "па-пяровыя браты", усе гэтыя аматары, брахуны, духазлодзеі, дылетанты, імбіцылы, марнаграфы, махляры, недарэкі, нікчэмнікі, паперапсуі, плагіаўтары, прапагандоны, пэцкалы, скапірайтары, трыньдзюлі, убоствы, унтэркінды, хаўтурщыкі, шалбяры, шарлатаны, шэльмакі й эпігоны. Акрамя гэтага, трэба прызнацца, цяпер бацька яшчэ й патаемна спадзяваўся вылавіць у газэтах які-небудзь займальны сюжэт, які-б мог распрацаваць і давесьці да ўзроўню літаратурнага твору. "Распрацаваць" азначала сказіць да непазнавальнасьці, бо напісаць кнігу на дакумэнтальнай аснове, ці ўжо зусім крый бог паводле сапраўдных падзеяў, азначала ў гэтай краіне асудзіць сябе добраахвотна ня толькі на пагарду з боку чытача альбо байкот з боку выдавецтваў, але й на нагляд з боку Сакрэтнай Службы й перасьлед з боку суседзяў: рэалізм як зьява ў айчыннай літаратуры быў даўно асуджаны, пераадолены, выкаранены й афіцыйна забаронены як туркозы, памылковы й псэўдамастацкі кірунак. У модзе зараз былі, якраз наадварот, гергетызм і парапсіхалагізм, якія бацька папросту не страўваў—як і шмат чаго астатняга, бо страўнік у яго быў хворы.

Вось і цяпер, як толькі ён узыйшоў на апошнюю прыступку перад дзьвярыма, у страўніку ў яго закалола, і бацьку падалося, што гэта нейкае благое прадчуваньне. Выпадкова кінуўшы погляд на газэту

"ПА ТОЙ БОК ДАБРА І ЗЛА"

(гэта была ягоная ўлюбёначка, якую выдавала Згуртаваньне Другарадзкіх Ынтэлектуалаў), бацька убачыў назву артыкулу на першай старонцы, і яму зрабілася млосна: тая бязьлітасна роўнымі й востракутнымі літарамі паведамляла:

"ВЯЛІКІ КОМТУР ЗАБІТЫ"

Невядома, ці то гэтая навіна так падкасіла бацьку, ці то стан ягонага здароўя, як лёгка здагадацца, сам па сабе быў у той дзень не найлепшы, аднак ён мусіў схапіцца за сэрца й абаперціся ўсёй даланёй на брудную сьценку лесьвічнай пляцоўкі. "Забіты?", не паверыў бацька. "ЗАБІТЫ", адказалі яму тлустыя белыя літары на чорнай паперы. Толькі цяпер бацька зьвярнуў увагу на тое, што газэта выглядае зусім ня так, як звычайна, а цалкам наадварот: ейныя літары й матар'ял памяняліся колерамі. Такая тэхнічна складаная й матэрыяльна стратная замена магла быць зьдзейсьненая толькі з нагоды нейкай трагедыі, як мінімум—нацыянальнай, калі не сусьветнай, альбо таксама з нагоды нейкага сьвята. Насамрэч, так адразу цяжка было сказаць, чым была для інфлянцкага народа сьмерць Вялікага Комтура—трагедыяй альбо нацыянальным сьвятам.

Шчыльна зачыніўшы за сабой дзьверы спачатку ў кватэру, а потым у кухню, бацька кульнуў у сябе мінімальную для сябе лекавую дозу напаўпразрыстай утаймавальнай вадкасьці, напружыў зрок і зь вялікім намаганьнем здолеў выцісьнуць зь першых радкоў газэты наступнае:

"Учора, на самым пярэдадні перавыбараў у Дуумвірат, быў па-здрадніцку забіты дапасьлешні першы консул нашай краіны, пажыцьцёвы сябра Дуумвірату Абалдуй Калгасенка."

Бацька прыглядзеўся да даты: не, сёньня ня першае красавіка, сёньня першае сьлежня. Загалоўкі іншых газэтаў, якія бацька, як ынтэлектуал, ніяк ня мог сабе дазволіць не выпісваць для аб'ектыўнасьці свайго погляду на сьвет, пераказвалі тую самую навіну іншымі словамі:

"АБВЕШЧАНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЖАЛОБА"

"ЗДРАДНІЦКАЯ ЦЭГЛА АБАРВАЛА ЖЫЦЬЦЁ ВЯЛІКАГА ЧАЛАВЕКА"

"СЬМЕРЦЬ НА ВЯРШЫНІ КАР'ЕРЫ"

"ТРАГЕДЫЯ НА БУДОЎЛІ"

Прабегшы вачыма загалоўкі, бацька зноў наліў сабе шклянку, насунуў акуляры й заглыбіўся ў падрабязьнейшае вывучэньне непрадказальнай палітычнай сытуацыі ў гэтай да сёньняшняга дня яшчэ цалкам прадказальнай краіне. Найперш яго зацікавіла заўжды нестаронняя й аб'ектыўная вэрсія газэты

"АДНАДУМЦА",

друкаванага воргана консульскай канцылярыі. Тая гучала гэтак:

"Учора а восьмай гадзіне вечара белы лімузін другога консула й Вялікага Комтура інфлянцкіх узброеных сілаў Абалдуя Гегемонавіча Калгасенкі прыпаркаваўся каля будоўлі ягонай новай палацавай сядзібы на ўсходняй ускраіне Другараду. У суправодзе свайго бліжэйшага целаахоўніка й сурацоўніка Базыля Бамбізы ўлюбёны правадыр, шаноўны кум Вялікі Комтур Абалдуй Гегемонавіч Калгасенка падыйшоў да новазбудаванага мура свайго палацу й зь цікавасьцю задзёр угару галаву. У гэты самы момант на яго з вышыні, проста зь неба, так-бы мовіць, сярод белага дня, упаў нейкі цяжкі спакмень, верагодна—цэгла. Першы консул Інфляччыны й Вялікі Комтур не пасьпеў ані войкнуць, ні на месцы аддаў богу душу, так і не прыходзячы ў цьвярозы стан. У той самы момант, ці нават яшчэ раней, ягоны целаахоўнік Базыль Бамбіза, паводле ягоных уласных словаў, быў удараны ззаду па галаве чымсьці доўгім, важкім і мэталічным. У дадзены момант Базыль Бамбіза знаходзіцца ў шпіталі з мазгатрусам й ня можа дакладна сказаць, калі атрымаў гэты мозгатрус—учора ўвечары ці нашмат раней. У афіцыйнай рэакцыі на паведамленьне сваіх падначаленых аб трагедыі брат забітага, першы консул Інфляччыны Абакула Гегемонавіч Калгасенка, які на самым пярэдадні заўтрашніх перавыбараў застаўся без адзінага суперніка, што яшчэ мог стварыць яму канкурэнцыю ня толькі ў ваговай, але і ў разумовай катэгорыі, ня мог стрымаць сваіх шчырых сьлёз, цытую: "Я-ж яму казаў: ня лётай бяз шлёма, Абалдуй! Не паслухаўся...", сказаў, сярод іншага, Абакула Гегемонавіч. Акрамя таго, кум Абакула Гегемонавіч Калгасенка выказаў меркаваньне, што сьмерць ягонага старэйшага брата ёсьць, без сумневу, вынікам супрацоўніцтва антыўсяруcкіх і антыінфлянцкіх сілаў, змовы замежных спэцслужбаў з айчыннай апазіцыяй. Кіраўнік нашай дзяржавы паабяцаў "крута разабрацца" з арганізатарамі замаху. Як вядома, па Абалдуі Гегемонавічы Калгасенку засталіся ўдава й сын Уладзя, курсант-выдатнік мядзьвежай акадэміі.

Абаім выказваем нашыя шчырыя спачуваньні."

Ніжэй дробным шрыфтам стаяла невялічкая прыпіска:

"З нагоды заўчаснай сьмерці Абалдуя Гегемонавіча Калгасенкі, першага консула й Вялікага Комтура Інфляччыны, кавалера ордэна Вершніка без Галавы, рыцара Залатога Ашыйніка, пажыцьцёвага носьбіта Срэбнага Ланцуга, медаля "Ні за што ні пра што", ганаровага прафэсара ДАДУПЫ й іншых ВНУ, ганаровага выхавацеля Другарадзкага дзіцячага садку нумар адзін, і прочая, прочая й прочая, перавыбары Дуумвірату адмяняюцца і ўводзіцца дадатковае надзвычайнае становішча. Абакула Гегемонавіч Калгасенка паабяцаў згадзіцца ўзяць на сябе далейшае кіраваньне краінай і уладарыць самастойна, як што знайсьці замену свайму дарагому старэйшаму брату й напарніку па Дуумвірацe не спадзяецца."

Астатнія газэты амаль тымі самымі словамі пераказвалі афіцыйную вэрсію. Усюды, натуральна-ж, узгадвалася пра шчырыя сьлёзы брата забітага, другога консула Абакулы Калгасенкі, у сувязі з чым бацьку ў галаву нечакана прыйшла даволі гератычная думка: "А што, калі ён сам гэта ўсё зварганізаваў?" Як ні спрабаваў бацька гэтай неадчэпнай думкі пазбавіцца, у яго гэта не атрымлівалася. "З гэтага мог-бы атрымацца неблагі палітычны дэтэктыў," у рэшце рэшт неахвотна пагадзіўся бацька. "Толькі каб прататып забойцы не здагадаўся, што ён—прататып, бо ад мяне тады застанецца толькі дагерратып, альбо й зусім нічога."

На малаякасных, як заўжды, але гэтым разам нібы наўмысна малаякасных газэтных фотаздымках, Абалдуй Калгасенка ляжаў у сьвежазробленай труне, а Абакула Калгасенка выціраў хустачкай вочы, аднак цяжка было зразумець, хто зь іх ёсьць хто: браты Калгасенкі быліаднаяйкавымі блізьнюкамі, якія ў Дуумвірацe вось ужо на працягу дзесяці (ці нават пятнаццаці?) гадоў—карацей, ад часоў падзеньня старога рэжыму—кіравалі краінай. Раз на пяць гадоў праводзіліся перавыбары Дуумвірату, на якіх народ вырашаў, хто з братоў на працягу наступнага тэрміну паўнамоцтваў будзе першым, а хто—другім консулам. Як адзінагалосна сьцьвярджалі ўсе яшчэ не забароненыя сродкі масавай інфармацыі, такая мадэль кіраваньня дзяржавай выявіла сябе як найбольш адпаведная псіхалягічным асаблівасьцям інфлянцкага народу, як і ягоным традыцыйным уяўленьням аб дэмакратыі. Зараз, зразумела, правядзеньне перавыбараў стаяла пад пагрозай, таму што са сьмерцю першага консула, які замыкаў алфавітны сьпіс кандыдатаў, упершыню ў гісторыі краіны не было, так бы мовіць, з каго выбіраць. Справа тхнела канстытуцыйным крызісам. Галасаваць за нябожчыка ня мела ніякага сэнсу, таму што той ніяк ня змог-бы выконваць свае консульскія абавязкі, нават калі-б і ўпершыню ў гісторыі Дуумвірату дасягнуў перамогі над сваім малодшым братам і быў нарэшце абраны другім консулам: наўрад-ці аднаго, хоць-бы й адзінадушнага жаданьня інфлянцкага народа хапіла-б на тое, каб узьняць Абалдуя Калгасенку з магілы й пасадзіць яго ў крэсла першага чалавека ў краіне—другога консула. "Небарака Абалдуй!", падумаў бацька. Што ні кажы, а ягоная трагічная сьмерць будзе цяжкім ударам па сэрцах тых інфлянцаў, якія ўсё яшчэ ходзяць на выбары й якім неабыякавы лёс іхнай любай краіны—хаця, на шчасьце, такія тут заўсёды складалі ледзьве заўважную меншасьць.

Акрамя гэтай жудаснай навіны ў газэтах, як ні дзіўна, былі яшчэ й іншыя, меней нечаканыя паведамленьні, на чым тоне, здавалася, ніяк не адбілася ўсьведамленьне ўчорашняй трагедыі, хаця ўсе яны атрымлівалі ў ейным кантэксту крыху іншае, сьвежае й больш драматычнае прачытаньне:

"АФІЦЫЙНЫ ВІЗЫТ ПАРТЫЯРХА ЎСЯРУСКАГА Ў ІНФЛЯЧЧЫНУ"

Заўтра ў рамках сьвяточнай праграмы, прыўрочанай да пахаваньня й кананізацыі кума нябожчыка першага консула Абалдуя Гегемонавіча Калгасенкі, хай за сьвятымі спачывае, адбудзецца сустрэча другога й часовага выканаўцы абавязкаў першага консула Абакулы Гегемонавіча Калгасенкі з партыярхам Усярусіі й вялікім сябрам Інфляччыны Яго Свацейшаствам Педафілам Першым. Паводле народнага ўсярускага звычая, падчас хаўтурнай цырымоніі Яго Свацейшаства партыярх Педафіл пад гукі фанфараў павінен урачыста ўбіць у сэрца нябожчыка залачоны асінавы крыж. Акрамя гэтага, кіраўнікі абедзьвюх дзяржаваў у чарговы раз падпішуць Пакт аб Ненападзеньні і заключаць Вечную Хунію—дамову аб экстрэнным і тэрміновым аб'яднаньні нашых братніх краінаў тэрмінам на векі вечныя ў адну вялікую, ды што ўжо там прыбядняцца, папросту вялізарную дзяржаву—Усяруска-Інфлянцкі Партыярхат. Ня трэба казаць, што сваім візітам у такі цяжкі для нашага народа дзень партыярх Педафіл робіць нашай краіне надзвычайны гонар. У размове з нашым карэспандэнтам Яго Свацейшаства падкрэсьліла мірны характар свайго наведваньня Інфляччыны й яшчэ раз пацьвердзіла ня толькі спрадвечнае права Ўсярусіі на Інфлянцкія тэрыторыі, але й сябе самога ў ролі гаранта палітычнай стабільнасьці ў рэгіёне."

"Можа, пайсьці пабляваць," падумаў бацька, па інэрцыі мужна працягваючы сядзець на месцы і ўзірацца ў газэту без усялякага ўдзелу ўяўленьня й пры маўклівым патуральніцтве розуму...

*Крысьціна КУРЧАНКОВА*

# Па дарозе з Бабілёна да нябёсаў

(Урывак)

### 1. ПЫЛ БАБІЛЁНСКІ

Мае бацькі пазнаёміліся на будоўлі Бабілонскай вежы.

З паўдарогі да неба (сіняга-сіняга) падалі камяні, бікі (што тыя камяні ўсьцягвалі) і словы. Сьвет складаўся з крыкаў, рознакаляровых гукаў, розней велічыні й формы, правільных, сымэтрычных, гнутых, крывых, пукатых, апрацаваных і неабчасаных.

З крыкамі на сьвет нараджаліся мовы. І мая маці крыкнула майму бацьку: "Сьцеражыся!" Гэтак крыкнула, што ён пасьпеў ухіліцца, знайшоў яе ў натоўпе, ухапіў за руку, выцягнуў з-пад друзу, пагвызеў у вочы – і толькі тады зразумеў.

Інакш-бы ім не сустрэцца. Інакш-бы ім ня быць разам. Іх павянчала цёплая, шурпатая вежа, што ўскараскалася на паўдарогі да неба. Мая маці й мой бацька глядзелі ў вочы адно аднаму да скону. Калі працавалі, елі, кахалі, сварыліся, паміралі. Яны не адводзілі вачэй – і разумелі адзін аднаго. Хоць размаўлялі на розных мовах.

Яны зачалі мяне на руінах Бабілоёну. Ім ня трэба было гэтак рабіць. Яны маглі-б уцячы адтуль. Яны мусілі пачакаць. Яны павінны былі... Мая маці ўдыхнула салодкі пыл валуноў, што нядаўна зрынуліся з паўдарогі да неба. І з жыцьцём я прыдбала салодкую тугу па Бабілёне.

Гэты сум ня выказаць вашымі словамі. Толькі маёй, толькі маёй мовай. Каму распавесьці маю журбу?.. Хто, хто зразумее мяне?!. Я адзіная, хто размаўляе на мове дабабілёнскай.

* * *

На паўдарозе да неба біліся анёлы. Не, біліся – гэта занадта. Хіба ўмеюць анёлы біцца?! Калі яны, вядома, белыя анёлы, а ня чорныя. Гэтыя два анёлкі былі, безумоўна, белымі. Парцалянавымі, ружовашчокімі... Біцца яны ня ўмелі. Адзін анёл ад жаху моцна заплюшчыў вочы, другі ў абурэньні вытарашчыў іх так, што нічога ня бачыў. Белыя кулачкі не скаланалі паветра; белыя далонькі дарэмна захілялі тварыкі; пульхныя, быццам зьлепленыя з пшанічнага цеста рукі махалі, мітусіліся ўпустую – не датыкаючыся да суперніка...

Перапляценьне белых здобных рук я запомніла лепей за ўсё. І пёры. Насьцярожаная ціша панавала ў сьвеце, пакуль на паўдарозе да неба бязгучна біліся анёлы. Узьляталі залатыя кудзеркі, дзіры караскаліся па срэбных саванах, моцныя крылы шалёна білі паветра, пёры адрываліся ад крылаў.

Тыя пёры кружлялі над стэпам, зьмяталіся разьюшанымі анёламі з празрыстых прыступак, што працягнуліся да самага-самага неба. Тыя пёры, бялюткія пёры сыпаліся на маладую зямлю, закручваліся мяцеліцай, першай у сьвеце завірухай. Што могуць нарабіць два разлаваныя анёлкі! Пэўна, таму ім і забаронена злавацца.

Мне было чатыры гады. І я адна засталася ў гэтым пабялелым сьвеце. Зь неба сыпаліся шматкі смутку. Я падымала іх. Я набірала поўныя жмені анёльскага пуху. Мяккія й нехалодныя пёры хутка завалілі-б мяне з галавою. Ды анёлам нарэшце далі добрага кухталя. Яны адляцелі адзін ад аднаго па краёх нябеснай лесьвіцы й нарэшце, нарэшце ўзгадалі на мяне.

Яны мусілі пазбавіць мяне ад тугі. Там, высока, за апошняй празрыстай прыступкай. Але вось я стаяла ўнізе, лавіла пёры, што ўсё сыпаліся зь неба, і мая туга расла сумётамі абапал мяне. Анёлы павінны былі пазбавіць мяне ад памяці. Але я ніколі ня здолею забыцца, як на паўдарозе да неба з-за мяне пабіліся анёлы.

Яны несьлі мяне па крышталёвым гасьцінцы. І твар маёй маці ўсё больш захілялі іх белыя крылы. Анёлы распавядалі мне казку. (Яны так рэдка насілі дзяцей!) Яны забыліся, што ж там далей было ў казцы. Яны спатыкнуліся... І я апынулася ў самым пачатку зіхоткага шляху.

Я брыла напрасткі праз белую зямлю. Мне было цяжка йсьці, прымінаць нагамі пёры. У мяне на шыі віселі два срэбныя званочкі анёлаў. Падарунак, спроба выпрасіць дараваньне. Бо вярнуцца на празрыстую лесьвіцу мне наканавана ня хутка. Я глядзела на сьнег, на першы сьнег, што напаўняў зямлю бельлю ды сумам. Я ведала, мне ніколі не пазбыцца маёй самоты. Бо я бачыла нараджэньне сьнегу, я бачыла ўтрапёную бойку на паўдарозе да неба. Мая туга будзе заўсёды са мною – я бачыла, як б'юцца анёлы.

Я прабіралася праз белыя-бялюткія пёры – яны рассыпаліся на сьняжынкі за мною. І халаднелі. Сьнег прыдумалі толькі што (трэба-ж было нештачка рабіць з анёльскімі пёрамі). Я адчувала, як праводзяць мяне позіркам мае анёлы. Мой сум рассыпаўся крышталікамі сьнегу. І халаднеў.

Над Бабілоёнам ніколі ня йшоў сьнег.

* * *

Да свайго нараджэньня я чула некалькі соцень моў. Яны несупынна таўкліся вакол маёй маці. Нованароджаныя народы вандравалі. Без усялякага шкадаваньня пакінулі яны, рознамоўныя, цёплы й шурпаты Бабілён. Яны рушылі на Захад (і крыху на Поўнач). Яны сьпяшаліся на Поўнач (і міжволі збочвалі на Захад).

Я нарадзілася на апошняй дарозе чалавецтва. Я зрабіла першы ўздых – і ўцягнула ў сябе пыл соцень ног, ад якіх мы адсталі. Я закрычала ад гэтай першай самоты. Той пыл пах Бабілёнам. І я закрычала ад тугі па Бабілёне.

Дзень і ноч мая маці ляжала на апошняй дарозе. Мой бацька глядзеў ёй у вочы. А потым яны сышлі з гасьцінца на Поўнач. Яны рушылі за вялікімі белымі птушкамі. Туды, дзе дарог яшчэ не было.

* * *

Вось ужо два разы я была на паўдарозе да неба. Мой сум быў бясконцы, як белы невядомы стэп перада мною. Я думала, зямля памерла, прыбраўшыся ў сьветлы пахавальны вэлюм.

Я ня памятаю, як я йшла: што ела, ці адчувала холад. Пэўна, мае анёлкі вялі мяне, лашчылі крыламі, шапталі ў вушы казкі (кожны – свае). Званочкі адбівалі тахт хадзе. Сьвет перавярнуўся: мёртвая зямля ўрастала ў белае неба, яе карані – мёртвыя дрэвы – зьвінелі лядзянымі галінкамі.

Я ня ведала, што сьнег растане.

...Анёльскія пёры сталі сыходзіць у зямлю. Толькі тады я сьцішыла крок. Сьнег раставаў. Сьнег раставаў! А я так звыклася са сьнегам. Я набірала поўныя жмені пёраў – а яны вадою ўцякалі з маіх рук. Я плакала, і сьлёзы мае зьмешваліся з расталым сьнегам. Я думала, сьнег сыходзіць назаўсёды. Мёртвыя дрэвы, мёртвы стэп – і сьнег таксама памірае! Я-ж ня ведала, што ён вернецца! Я не магла ведаць. Над Бабілёнам ніколі ня падаў сьнег.

Сьнег сышоў. Але журба засталася. Я лягла на бурую нежывую зямлю. Я думала, што таксама растану, сыду ў яе. Але я заснула, толькі заснула.

* * *

З паўдарогі да неба падала пяро, белаебялюткае. Вытанцоўвала, выкшталцонае, варушыла парушынкамі.

Я прачнулася ад таго, што да мяне дакранулася крыло. І я акрыяла, я ўскочыла, мяне тарганула за плячо радасьць, што вярнуліся мае анёлы!.. Але мяне акружалі птушкі, даўганогія птушкі, белакрылыя з чорнымі пальцамі.

Іх галовы хісталіся побач з маёй, у тахт крокам дзынькалі званочкі на маёй шыі. Так, я пайшла разам зь імі, дзіўнымі даўгадзюбымі птушкамі.

Я гладзіла птушак па сьпінах. Так прыемна было кранаць цёплыя пёры, якія не раставалі пад далонямі й не рассыпаліся сьнегам. Час ад часу птушкі падымалі галовы, выцягвалі доўгія шыі да неба, часта-часта шчоўкалі дзюбамі: можа, пераказвалі анёлам мой смутак па сьнезе?

Вочы птушак былі на адным узроўні з маімі. Пэўна, таму мы так хутка паразумеліся. А калі мае птушкі залопалі крыламі, запляскалі пёрамі, закруцілі віхуры, калі яны пабеглі паўзь мяне, чапляючыся моцнымі кіпцюрамі за гліністую зямлю, калі я ўздыхнула вецер і пыл, што яны выпусьцілі з-пад крылаў, – толькі тады я нарэшце здолела перакласьці іх клёкат. Яны распавядалі мне навіны з Бабілёну!

Я намагалася бегчы побач з птушкамі, спрабавала распытаць іх яшчэ й яшчэ. Але не пасьпявала. Яны падымаліся ўсё вышай, іх лапы заграбалі не зямлю, а паветра, іх крылы абаперліся на нябачныя калёны. Птушкі, мае птушкі, якія заўчора былі ў Бабілоёне, пакінулі мяне.

Калі сьцішылася, апусьцілася на зямлю патурбаванае птушкамі паветра, а белыя пёры пакаціліся наўздагон маім марам, у Бабілён, калі я прамакнула пёрамі сьлёзы й агледзелася вакол, – я ўбачыла калючы мур лесу... і вогнішча.

Да агню йшоў мой бацька, несучы ахапак яловых галін. Мая маці трымала на руках дзіця... Таму яны й не змаглі абняць мяне. Вядома, толькі таму. Я села каля агню. Я варушыла полымя рукамі. Я спрабавала адагрэцца пасьля зімы.

Мой тата гладзіў мяне па чорных валасах. Мая мама паказвала мне брацікa (ён нарадзіўся прама на першы сьнег!). Я думала, выбірала, што-ж мне расказаць ім найперш: пра белых птушак з нашай радзімы, пра нараджэньне й сьмерць сьнегу, пра анёлавы казкі... Я вырашыла нічога не распавядаць. Бо перапляценьне вогненных пёраў полымя надта нагадвала мне белыя рукі анёлаў у зацятай бязгучнай бойцы.

* * *

Мой брацік вучыўся хадзіць, калі мы вырашылі спыніцца.

У той дзень пакараныя анёлы падмяталі празрыстую нябесную лесьвіцу. З паўдарогі да неба сыпаўся срэбны пыл, зіхоткія бліскучыкі апускаліся на валасы майго брацікa. Срэбны пыл клаўся на зьвялую траву, на мерзлую зямлю, на сонны ўзьлесак. А на маіх далонях не трымаўся, зьнікаў, раставаў.

Мой бацька будаваў нашу першую хату. Мая маці шыла нашу першую футру. Мой брацік тэпаў наўпрост да лесу, да патлатай бурай капы (быццам накрытай зьвярынай скурай). Мой брацік пахіснуўся. Каб ня ўпасьці, учапіўся ў доўгую пасму. Карычневы ўзгорак варухнуўся, паволі павярнуўся, аднекуль вывернулася ягоная галава. Вялікія сумныя вочы ўгледзеліся ў майго брацікa.

– Зу-у! – выдыхнуў малы. – Зу-у!!!

Столькі было захапленьня й павагі ў гэтых гуках... што патлатая пачвара не забіла маленькага адважнага чалавечка. Рагатае страшыдла зь імем Зу доўга аглядала нас усіх, асабліва бацьку. Яно лізнула маці ў руку, тыцнула носам у мае званочкі.

Яно дазволіла нам застацца. І мы засталіся.

* * *

На паўдарозе да неба шалелі чорныя анёлы сьмерці. Трушчылі крышталёвую лесьвіцу, перакідваліся кавалкамі. Мае анёлы, белыя, баранілі неба. А на зямлі ўзьнялася завіруха.

Вецер перамяшаў зямны пыл зь нябесным. Лядзяны пясок падточваў кару дрэў, каменьчыкі лёду ранілі твар. Сьмяротная сьцюжа анёльскае злосьці сьцяскала наш сьвет. Вядома, там біліся чорныя анёлы, але пёры – пёры! – пёры ляцелі белыя!

Я глядзела на сьнег усю зіму. Пакуль мае бацькі й мой брацік грэліся ў доўгай поўсьці зубра, я сядзела перад дзьвярыма хаціны й шапталася са сьнегам. Пабабілёнску. Сьнег адгукаўся крохкімі лядзянымі казкамі, ды навінамі зь нябеснага шляху.

Сьнег сыпаў дзьве поўні (трэба-ж было нештачка рабіць з анёльскім пухам). Сьнег туліўся да нашай хаціны, быццам хацеў сагрэцца. Сьнег падхапіў нас на мяккія анёльскія крылы, люляў, прабіраўся пад падлогу, прыўзьнімаў нас вышай, па прыступках празрыстай лёдавай лесьвіцы. Я глядзела на сьнег, і мае званочкі ледзь чутна трымцелі, самі сабой.

Можа, тае зімы мы й падняліся-б да неба, ды наш зубр не пускаў нас. Ён доўга таптаўся ў хаціне, зьбіваючы капытамі наляцелы сьнег, разьдзмухваў ноздрамі вугельчыкі ў прыску, драмаў на падлозе, займаючы ўсю прастору (мы хадзілі па ім і спалі на ім). Зубр растапляў сьнег, мой сьнег! Зубр ратаваў нас ад маразоў, ад сьмяротнай крышталёвай прыгажосьці. А калі я не хацела ратавацца?!

Праз шчэлку ў сьцяне я вартавала сьнег, чаравала сьнег, гаманіла са сьнегам, углядалася ў сьнег да болю ў вачох. Праз шчэлку ў дзьвярох я ўбачыла аднойчы, як сыходзіць ад нас зубр, ламаючы срэбныя скарынкі сьнегу. Ён крочыў, кіруючы прама да неба, ён быў ужо недзе на паўдарозе. Там, дзе зіхоткая зямля прымерзла да белай нябеснай поўсьці. Зубр сыходзіў – гэта было абвяшчэньне, што зіма скончаецца.

Брат з маўклівай крыўдай цікаваў зубра. Але не даганяў. Мой брацік трымаў на руках нованароджаную сястрычку.

* * *

Сьнег раставаў і выпадаў наноў. Я ўсё больш звысака глядзела на яго. Я падымалася да неба – я расла. Сьнег болей ня быў маім сумам, ён стаў маёй радасьцяй.

Пакуль яго не было, мяне суцяшалі бабілёнскія птушкі. Яны зладзілі мне гняздо на ўзьлеску, пад старой таполяй. Я зьбірала белыя пёры ды таполевы пух – я чакала зіму. Браты й сёстры не бралі мяне ў свае гульні, я не казала ім пра сваю. Хто зразумеў-бы мяне, хто падзяліў-бы са мною мой холад. Яны-ж ня ведалі, што першы ў сьвеце сьнег выпаў у мой гонар.

Нікому я не казала пра гэта. Ніхто не зразумеў-бы мяне. Мае брацікі й сястрычкі выраcталі – іх чорныя бабілёнскія валасы выцьвіталі пад чужым сонцам. Тыя, чые валасы рабіліся колеру кветкі дзьмухаўца, разумелі мову мае маці. А

*Працяг на бачыне 13*

*Працяг з бачыны 12*

тыя, валасы якіх былі рыхтык дзьмухаўцовыя парушынкі, размаўлялі на бацькавай мове. І ніхто – на маёй!

Я спрабавала зь імі паразумецца. Некалькі вёснаў я даганяла ў лесе майго першага брацiка (а ён нат еў на бягу ў пошуках свайго зубра). Колькі летаў я дапамагала сваёй першай сястрычцы выкладаць з каменьчыкаў колы й крыжы (яна называла іх “КА”, а я ведала, што калі-небудзь пра іх скажуць “капішча”). Паўтузіна восеняў я намагалася паўтарыць за маім другім братам зьвілістыя мэлёдыі, якія ён высьвістваў на вуснах, на зёлках, на галінках лазы. Я амаль дагнала яго, але...

Але выпаў сьнег. І я, як і мінулай зімой, сышла ў белы стэп. Слухаць званочкі анёлаў, што трымцяць у срэбную сьцюжу. Будаваць з крышталікавых пёраў празрыстую, халодную й гладкую лесьвіцу-вежу. Каб аднойчы ўзьняцца да неба (хоць на паўдарогі) і ўбачыць адтуль цёплы Бабілён.

Мая зіхоткая вежа сыходзіла ў зямлю. У атачэньні белых чарнапалых птушак я вярталася да маіх родных. І аніяк не магла дайсьці да іх.

Мая другая сястра пляла вясёлкавыя дываны зь лясных кветак (а таксама – кашулі з тонкіх лугавых сьцяблінаў). Мая трэцяя сястра пасябравала з прыткімі вавёркамі; ёй прасьцей было скакаць побач зь імі, чым азірнуцца да мяне. Маю чацьвёртую сястру ў навальніцу завабіла, зьвяла ў некрануты гушчар безназоўная рачулка, што нарадзілася ў залеву, праслізнула між трох нашых хацінаў і зьнікла, кіруючы на Поўнач.

Згубіўся ў россыпе валуноў, што расьлі за ўсходнім краем лесу, мой трэці брат. А чацьвёрты – чацьвёрты запрог двух гарэзаў-зубранятаў і прыручыў пярэсты стэп ды дзікае жыта. Мой пяты брат...

Я зьбілася зь ліку. Я ўсё хадзіла за імі, кратала за плечы, працягвала найлепшыя, найбялейшыя пёркі, хацела зазірнуць у вочы. Пэўна, тады мы паразумеліся-б. Ды твар зімы захіляў аблічча маіх сваякоў. Вочы сьнегу заўсёды глядзелі на мяне. І, замілаваная, я не заўважыла, як вырасла.

Мой малодшы брат аднойчы сышоў ад нас на дзьве зімы. Калі-ж лядзяны пух стаў падымацца малочнай смугой дахаты, на неба, да нас прыйшла ЧУЖАЯ. Брат вярнуўся з жонкай. Валасы яе былі рыхтык наша зямля, рыхтык кара на яліне, рыхтык скарынкі каштанаў і зубрыныя пасмы. На шыі ў Чужой віселі пацеркі зь леташніх журавінаў і застыглых промняў сонца. Чужая казала на іх “бурштын”. Дала маім птушкам імя “буслы” (і гэтым пераманіла іх). Чужая навучыла майго брата сваёй мове.

Толькі гэтага ніхто, апроч мяне, не заўважыў. Усё далей у лес заходзіў мой першы брат у пошуках свайго зубра. Усё большыя камяні каціла маёй першай сястры для капішчаў. Усё гусьцей спляталася сеціва зморшчынак на тварах маіх бацькоў. Як і сеціва сьцежак у нашым лесе, у нашым стэпе. Гэтая зямля была ўжо НАШАЙ, бо мы праклалі тут першыя дарогі.

* * *

Зімы зьмяняліся гэтак хутка, што я перастала іх лічыць. Твары маіх братоў і сёстраў сталі расплывацца перад вачыма. Я так пільна ўглядалася ў сьнег, так высільвала зрок, покі шукала сяброў, што стала горш бачыць, мае вочы сьлязіліся. Так я й не заўважыла, калі стала ўзірацца ў гэты сьвет ужо зьверху. Зьверху.

Пада мною анёлавым пяром гушкаўся, гайдаўся ў марозным ветрыку белы стэп. Пусты? Не. Па белай зямлі беглі дзеці. Ня тыя, ня дзеці маіх бацькоў, але ўнукі маіх сястрычак і брацікаў. Я прыслухалася – на якой мове яны гамоняць?..

Штовечар мае бацькі распавядалі казаньні з Бабілёну. Мама на сваёй мове, тата – на сваёй. Ды галовы маіх братоў і сёстраў выцьвіталі пад небабілёнскім небам. Выцьвіталі й бацькоўскія гісторыі. Мае сурodнікі вырасталі й усё далей адыходзілі ад нашай хаты. Гэтак і словы іхныя адыходзілі ад матчыных і бацькавых. Я ўсё спрабавала дагнаць хаця каго-небудзь, але іх мовы аддаляліся ад маёй.

Аповед пра Дрэва Жыцьця мае сястрычкі ператкалі на казку пра залатую яблыньку. На белашчокай поўні мае браты бачылі дзявочы твар, а зусім ня цень выгнанца Каіна. А палове лета яны несьлі дарункі да велізарнага дуба – улюбёнца патлатых зуброў і даўгадзюбых птушак – уважаючы яго за Бабілёнскую вежу. Ну вядома, ён-жа ўскараскаўся на паўдарогі да неба!.. Яны глядзелі ў вочы адно аднаму, а на мяне не зважалі.

* * *

Гэтак здарылася аднойчы, што я перастала пражываць дні. Я іх узгадвала. Яны мітусіліся, штурхаліся вакол мяне, нібы цьмяныя надвячоркавыя мятлушкі. Я сонна адмахвалася ад іх. Рухі былі мне ў цяжар. Таму я й прысела адпачыць на гэтай лесьвіцы, гэтай доўгай крышталёвай лесьвіцы.

Я ўзгадала, што наш зубр вярнуўся акурат на пахаваньне маіх бацькоў. Тату й маму паклалі тварамі адно да аднаго, каб іх вочы былі побач... Сьсівелы зубр утаптаў зямлю на магіле. Мая старая сястра паказала, як уклясьці камяні. Яе дарослыя ўнукі выканалі абрад. Мой стары брат, які прыехаў на зубры, застаўся на нашых першых могілках. Ён сьпяваў бабілёнскую пахавальную песьню. На сваёй мове.

А зубр катаў на шырокай сьпіне дзятву. Чаму? Ён распавёў мне. Ён выказаў мне сваю самоту, і яна дакранулася да маёй. Пакуль мае дзяды будавалі Бабілён, зубр чакаў людзей. Пакуль мае бацькі шукалі, часалі, качалі, усьцягвалі на паўдарогі да неба гарачыя камяні – у тутэйшым гушчары дзічэлі зубраняты. А зубр чакаў. Калі сотні смуглявых ног разносілі пыл бабілёнскі па ўсім сьвеце – ён чакаў! Калі-ж нарэшце прыйшлі людзі ён не зразумеў іх мову.

Ён праводзіў мяне жытнім полем, хваёвым узьлескам, пад ветахам вясёлкі. Ён, сівы зубр, які так і ня змог забыцца на ласкавыя й шурпатыя ад мазалёў, загарэлыя рукі Ноя, – ён давёў мяне да першай празрыстай прыступкі.

Далей мяне вялі анёлы.

* * *

Яны зноўку ледзь не пабіліся недзе на паўдарогі да неба. Запыханыя, ружовашчокія, мае анёлкі селі аберуч мяне, падперлі галовы парцалянавымі, здобнымі рукамі, вінавата паўздыхалі...

Мы сачылі, як кружляюць над стэпам белыя пёры, як бягуць яны наўздагон белым вандроўным птушкам, у Бабілён, як зь цяжкасьцю перасоўвае ногі стары зубр з Ноева Каўчэга. І пёры пад ягонымі капытамі рассыпаюцца крышталікамі сьнегу.

Дзеці за вёскаю ляпілі з анёльскага пуху сьнежкі, куляліся ў сумётах, рагаталі... Я высільвалася пачуць, ну, на якой-жа мове?!

Я прыўзьнялася, я хацела падбадзёрыць іх, я сама зарагатала ад іх забавак. “Сьцеражыся!” – крыкнула я свайму белавалосаму прапляменьніку... У мяне забалела ў горле, я закашляла, так моцна, што ў мяне паліліся сьлёзы. “Чаму? – Праз боль я пыталася ў анёлаў. – Чаму?” Яны гладзілі мяне па чорных валасах, яны сьціскалі мне зморшчаныя рукі. Яны зноў і зноў зазіралі мне ў вочы, лашчылі крыламі... Яны не маглі суцешыць мяне.

Надта позна... Я лічыла гады толькі па зімах, я песьціла сьнежны сум, лашчыла лёдавыя мроі. Я сама збудавала вежу свае адзіноты. Я трызьніла Бабілёнам, і нікому не давала краты мае срэбныя званочкі... Дарэмна. Я так ганарылася сваёй мовай (то-ж бо яна была першая, тая самая, дабабілёнская). Гэтак я баялася страціць яе – нат слоўца! – баялася запэцкаць, падзяліць, зьмяшаць зь іншымі. Мая мова засталася чыстая – за ўсё жыцьцё я ня вымавіла блізкім і слоўца! Мая мова памерла разам са мной.

* * *

Белыя птушкі ляцелі на Поўнач. З паўдарогі яны збочылі да Бабілёна. Каб прынесьці мне апошнія навіны.

Буслы засталі мяне пасярэдзіне празрыстага гасьцінца, што працягнуўся да самага-самага неба. Яны закружлялі над прыступкамі, закруцілі віхуры ў паветры сваімі моцнымі крыламі. Мае анёлы пераклалі мне іх клёкат.

На руіны Бабілёна караскаюцца дзікія кветкі. З аскепкаў вежы людзі будуюць хаты. Замкі ды храмы прарасьлі з насеньня бабілёнскага, з каменных зярнятак, што рассыпаліся аднойчы з паўдарогі да неба.

Я ўдыхала пыл з-пад бусловых крылаў. Як-жа я магла не заўважыць, як-жа я прапусьціла...

*Пыл бабілонскі пахне язьмінам,*
*пахне суніцамі пыл бабілёнскі,*
*кveценьню, глебаю, печаным яблыкам.*
*Татам, зубром, ядлоўцам і попелам...*

Птушкі даўно зьляцелі, зманілі за сабою маіх неслухмяных анёлкаў. Я адна засталася на блішчастым гасьцінцы.

А пада мною з бабілёнскага пустазельля, што аднойчы зачапілася за крысо матчынай сукенкі, прынялася новая краска. Яе карані смакталі з бурай зямлі расталыя анёльскія пёры. Пульс кветцы адбіваў далёкі буслаў клёкат.

Я першы раз угледзелася ў вясну. І я заўважыла – я адзіная заўважыла! – як зь ледзьве чутнымі ўскрыкамі лопаюцца ліпкія пупышкі на дрэве моў. Як зь ледзь улоўным звонам раскрываюцца бутоны на шыпшыньніку моў, як між вясьлі ды церня зацьвітаюць першыя духмяныя словы. Яны пахнуць Бабілёнам.

Сьнег выпадзе зноўку. Ён паспрабуе завабіць у лёдавыя краты самоты не адну ганарлівую душу. А я – вольная. Зубраняты болей не даюцца ў рукі. Белыя птушкі не залятаюць у Бабілён. Дзеці пракладаюць у стэпе новыя шляхі, усё далей ад нашай першай хаты. Вецер гайдае бусьлянкі. У бусьлянках сядзяць анёлы (і мае – між іншых), гадуюць даўгашыіх птушанятаў. Добра. Я спраўлюся сама.

Празрыстая лесьвіца вядзе толькі ў адзін бок. Я паволі крочу з прыступкі на прыступку. Мае званочкі срэбна сьпяваюць. Нехта чакае мяне там, дзе бляск нябёсаў. Усё лягчэй і лягчэй падымацца. Сваю журбу, сваю адзіноту, сваю мову й свае званочкі я пакіну на ганку. Ну вось, я ўжо блізка. Я адолела паўдарогі, паўдарогі да неба.

*Уладзімер ДЗЕХЦЯРУК*

# Трылабітавы бераг

**Вершы**

## ШТОРМ

Мора,як быццам сабака шалёны,
Рвецца кудысьці з глыбінь ланцугоў,
Хваляў зганяе табун незьлічоны,
Грывамі ліжа абшар берагоў.

Плача і стогне,а часам скуголіць,
Часам шыпіць на пяску паласе,
Дрэваў карэньні бязьлітасна соліць,
Нават каменьні кудысьці нясе.

Хто яго спыніць?Хто зь ім саўладае?
Шчэ й не радзіўся на сьвеце такі...
Подых стыхіі! Ён быццам жадае
Сушу ці змыць,ці парваць на кускі.

Бухаюць хвалі,хістаецца неба,
Дыбіцца мора магутнай гарой -
Ёсьць і на гэта якаясь патрэба,
Чутны і ў гэтым якісьці настрой.

Я ўжо не тут.Я ўжо дзесьці далёка.
Я ўжо лячу за нябачны абток.
Думкі ўжо там,дзе калісь маё вока
Вабіў цяплом непаўторны куток.

Я без памылкі туды патрапляю,
Толькі і там штосьць балюча не так:
Подых стыхіі...Бязь межаў...Бяз краю...
Вецер і шторм.І разьбіты маяк...
На ўзьбярэжжы пад крыламі чаек
Я не першае лета жыву...
Хай Радзіма мая выбачае -
Сувязь з гэтай зямлёй не парву.

## На ўзьбярэжжы пад крыламі чаек

Вельмі цяжка было і балюча
Ўсё чужое да сэрца прымаць,
Ды жыцьцё мабыць так нас і вучыць,
Каб маглі сваю годнасьць трымаць.

Той,хто ткаў палатно з валаконцаў,
Доўгай працы спазнаў мазалі -
Паважаю за тое эстонцаў ,
Што свайго яны шмат зьбераглі.

Пэўна мора таму паспрыяла,
Ці маўклівых лясоў глыбіня,
Каб зямля іх пад небам стаяла
Ад стварэньня да гэтага дня.

Каб жыла мілагучная мова
Праз уціск,ды праз новы узьлёт...
Мабыць,будзе яшчэ шматразова
Паўтарацца гісторыі ход?..

Мабыць будзе - калісьці ад'еду
Ў той куток,дзе ў маленстве я жыў,
Ды на лёсе эстонскага сьледу
Не сатрэцца пакутны уплыў.

І насіць будзе памяць начамі,
Колькі здарыцца ў сьвеце пражыць,
Да зямлі,што пад крыламі чаек
Дзесь на хвалях балтыйскіх ляжыць.

## Адно і тое-ж...

І будзе адно і тое-ж
І яваю стане сон -
Ты раны свае загоіш
У шпіталі шматлікіх дзён.

Бо час - гэта лепшы доктар,
Ён зьнішчыць атрутны сок,
Што ў шклянцы стварыўшы коктар,
На пальцы калісьці працёк.

І будзе адно і тое-ж,
Паўторыцца зноў і зноў
Той час, калі ты напоіш
Свой розум атрутай сноў.

І будзе адно і тое-ж,
Пакуль між штодзённых спраў
Жывеш ты адзін ды мроіш
Аб тым, чаго лёс ня даў.

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

# Пошукі ідыліі

**апавяданьні-сьненьні, апавяданьні, аповесьць**

## Сем кілямэтраў да ўласнага сэрца

*Ахвярую Алесю Палескаму (Шаршуновічу)*

Ледзь ты ступіш на зямлю і адпусьціш парэнч вагона, у душы прачнецца продчуваньне. Ты быў тут толькі адзін раз, гадоў дваццаць таму, кароткі час, але так ясна адчуваеш цяпер, што... Невядома нават што... Проста будзе прадчуваньне.

Пешшу трэба будзе ісьці кілямэтраў сем. Ты-ж памятаеш? І сьцежка, якою ты рушыш, падасца табе чамусьці да болю знаёмай.

Прабач, што я так недакладна выказваюся: "падасца знаёмай", "будзе прадчуваньне"... Як можна сказаць, што адчуеш, калі ня ведаеш што? Якім чынам табе падасца знаёмым тое, што не магло застацца нязьменным за дваццаць гадоў твайго нябыцьця? Нават гэтыя дрэвы абапал сьцяжынкі... Хіба і дваццаць гадоў таму яны былі такія самыя?

Проста ты, нарадзіўшыся і вырасшы сярод асфольту й бэтону, раптам усьвядоміш, як усё мае быць у жыцьці. Ня так, як ты прызвычаіўся бачыць.

Вунь, на лысіне ўзгорка, шапацяць літотай чатыры бярозкі. І ты не дадасі ў гэты мікрагаёк ані сасонкі, ані дубка, бо сапсуеш шэдэўр. Шэдэўр найвышэйшага мастацтва, якое мае назву прырода.

Гэта ў вас, бэтонна-цывілізаваных, увайшло ў звычку раскідаць залаты мурог па газонах як хочацца, вытоптваць яго, бы сьвіньні, ізноў завозіць аднекуль, адрываючы ад жывога, прыроднага, каб зноў-жа па-сьвінячаму вытаптаць.

Тут ня так. І таму гэтая простая, сьціплая сьцяжынка штохвіліны будзе адкрываць табе цуды, якіх ня ўбачыш ані ў якім музэі. Тут яшчэ ня страчана натуралёвая прыгажосьць, і таму няма засьцерагальных цэтлікаў.

Той лысы з чубком узгорак паволі спускаецца да нізінкі, дзе справа пачынаецца густы хваёвы лес, а налева рассьцілаецца маляўнічы краявід хвалістай роўнядзі. Ты быццам адчуваеш жаданьне кінуцца ў гэтую роўнядзь і паплысьці альбо разьбегчыся з пагорка, узьвіцца і... паляцець над лесам.

А зрэшты: нехта-ж дасьць табе крылы. Значыць, твае прадчуваньне было недарэмным: ты прадчуваў тую сілу, якая дасьць табе крылы...

Памятпеш, колькі захапленьняў выклікаў у цабе, бывала, "Клюб кінападарожнікаў"? Ах, якія экзатычныя прэры, ах, якія дзіўныя саваны... Але дзе тыя ўражаньні цяпер? Так, уражаньні – рэч хуткаплынная. А тут да цябе вернецца твая чалавечая душа. Тут і ўражаньні, і сьведамасьць, і гонар... З гэтага-ж і складаецца чалавек. Гэта значыць, чалавек не як від зямное істоты, жывёліна. А чалавек як зямны розум.

І ты ўжо як чалавек пачынаеш згадваць тое, што было з табою. Ты здагадаешся, што крылы табе дала Радзіма. І хоць ты нарадзіўся ў глыбіні абезаблічанага і абездухоўленага касмаполіса, ты адчуеш Радзіму менавіта тут. Не таму, зразумела, што быў тут раз з паловай праездам, а таму, што ўзгадаеш, што тут Радзіма тваіх бацькоў і дзядоў, да якое, бы да крыніцы, хоць трошкі здолелі далучыць і цябе. Тут жыве мова, жывуць песьні і казкі. Жывуць успаміны, якія зьвязваюць пакаленьні.

Сэрца Беларусі. Ты зможаш так сказаць, бо узгадаеш, што недзе паблізу – Вязынка. І мясьціны, якімі ты праходзіш, натхнялі славутага Купалу на той вялікі цуд паэзіі роднага слова, ад якога ўсе мы імкліва адрываемся.

Адарваўся і ты. Але-ж я нездарма казаў, што адчуваньне Радзісы верне табе душу і дасьць крылы. Ты адчуеш ейную веліч і... бездапаможнасьць пад наступам ваяўнічага мяшчанства і духовага нігілізму.

Пра апошняе распавядзе табе той скрушаны волат, якога ты напаткаеш на ўзгорку. Тыя, усемагутныя, называлі яго напамінкам змрочнага часу забабонаў і плявалі яму ў твар. Яго прымусілі ахоўваць сыравіну для зялёнага зьмія, але ён ня змог доўга гэта трываць. Тады яго пакінулі ў самоце, а потым здарылася так, што студэнтам – адукаваным цывілізатарам, дзецям тых усемагутных – ня было дзе пагрэцца. І яны спалілі ягоную душу.

Ты падыдзеш да яго, закінеш галаву ўгару і ўбачыш слана, забітага мышшу. Боль запоўніць твае сэрца, і – спачуваньне адкрые табе, што душа волата яшчэ здолее адждаць, калі замест мышынае сьвядомасьці людзі займеюць чалавечую і зразумеюць, што волаты толькі мышам нагадваюць пра забабоны, а людзі павінныя адчуваць той вялікі дух, які натхняў чалавечыя рукі на стварэньне шэдэўраў.

Як расказала табе маці, недзе паблізумусіць быць волатава сястра. Хоць яны аднае крыві, але розных думак, прз што аніколі ня жылі ў спагадзе. Ды вось і іх уратаваў лёс адрынутых.

Яна не такая магутная, нават сьціплая. Але-ж давала спакой душам тых, хто верыў ёй. Потым таксама давялося папрацаваць на зялёнага зьмія. Потым... Дзе-ж яна цяпер?

- Ды вунь-жа, бачыш, за ўзгоркам відаць, - махне табе рукою сустрэчны. Ён скажа табе роднай мовай, але зьдзівіцца, што й ты так гаворыш: як-жа так, ты-ж адтуль, з цывілізацыі...

Яны, мабыць, так прызвычаіліся ўжо, што цывілізацыя – гэта там, дзя ня толькі топчуць газоны ды руйнуюць помнікі духу, але й навучаюцца здраджваць слову бацькоў. Ты засаромеешся гэтай цывілізацыі і пойдзеш туды, за ўзгорак, каб убачыць хоць рэшткі крыніцы духу.

Адмахаеш салідны кавалак дарогі, мінаеш адзіны ўзгорак ды раптам успомніш, што так нічога і ня бачыў...

- Адзе-ж яна?.. Павінна-ж тут стаяць, - зноў зьвернешся да сустрэчнага.

- Дык вунь-жа, - пакажа ён табе за сьпіну. Ты азірнешся і ўбачыш, што ёй ужо пасьпелі зьнесьці галаву, і старэнькая ня здолела-б цяпер ня толькі аб стваральнай моцы вялікага чалавечага духу, а нават і аб забабонах, зь якімі яе зьвязвалі былыя і цяперашнія ўсемагутнікі.

І што-ж?!

Чалавек так створаны. Жыцьцё мацуе ягоны дух надзеяй на шчасьце. А калі яго няма? Хіба дапаможа бяда? Не. Але ён мацуецца спачуваньнем да бяды.

Таму нават адсюль, з поля духоўных стратаў, якіх нямала на тваёй Радзіме, ты пойдзеш падмацаваны і яшчэ больш здольны да змаганьня.

Рух твой будзе ўсё больш упэўненым, із кожным крокам ты будзеш усё мацней адчуваць, як аджывае твае счарсьцьвелае сэрца. Ты адкрыеш крыніцу жыцьця і будзеш прагна піць зь яе, нават вярнуўшыся да сваіх жалезабэтонных вытокаў, якія так і ня сталі Радзімаю. Але табе тут жыць. І зрэшты: магчыма, ты, твой брат, твой сябра верне Радзіму сюды, дзе пакутую безь яе і я.

# Рок-паэзія

### Здрада

Ты на мове роднай ня скажаш
Ані слова! Ані гука!
Ты ня ведаў, што гэта здрада?
Ну дык вось табе, хам, навука.

Гэта здрада, павер мне, здрада –
Зьневажаць, ганьбаваць народ свой.
Але... ты падтрыманы ўрадам.
Што-ж мяне падтрымае? Пойла?

Хай. Дастану па бляце пляшку,
Запрашу на гешэфт дзяўчыну,
Вып'ем, ляжа рука на ляжку,
Слова "здрада" на хвілю згіне,

І я ўбачу, пачую ў кайфе:
Беларусь паўстае жывая!
Я – цьвярозы, а той надраўся,
Хто прыжыў шавіністаў зграю.

Нешта енчаць у прадчуваньні,
Што апошні іх дзень прыходзіць.
І няpraўду: ня цені-здані,
Беларусывой лёс знаходзяць.

Вунь на небе чырвона белым
Вершнік скача. Даўно ён з намі.
Зь ім мы здраднікам глебу сьцелем...
Леаніды вяртацца сталі...

Сон пагледзіш – наўкол парадак,
А прачнешся: якая мука!
Зноўку здрада, панове, здрада!
Сьцерва, падла, карова, сука...

Руку джагнула, быццам токам.
Баба побач сапіць з прысьвістам.
А разбудзіш – дабро-ж ня скажа:
"Проспала с националистом..."

Вось і ты мне "нацмэн" навесіў.
Хто цябе навучыў такому?
Аднае-ж мы Радзімы дзеці!
Плюнь ты здраджваць. Вяртай дадому.

### Цені гісторыі

Ці ўзгадаеш той дзень,
Як настала тут ноч?
Быў народ, а стоў цень
Ды па твары б'е дождж.

Але зрэнкі пратры,
Запалі душаў жар,
Хай палаюць кастры,
Каб віднела з-пад хмар.

Ці пытаў ты сябе, чаму дом твой завецца
Захад-3, Поўнач-6? А мяне б'е адчай,
Калі пнуцца і сёньня назваць мае месца
Kresy Wschodnie ці Северо-Западный Край.

Быў і чорны павой,
Быў і век залаты,
Быў сьляпы я з табой,
Дык няўжо назаўжды?

Дзень за днём праляціць
У маркотлівым сьне.
Хіба так варта жыць?
Ці ты думаў, ці не?

## *Ігнаці СОКАЛ (12 гадоў)*

*Прысьвячаецца Васілю Быкаву*

***

Бог нам жыцьцё даў аднойчы,
А да таго-ж тры дары:
Душу, талент і вочы,
Каб выканаць справу сваю на Зямлі.

Бог нам жыцьцё даў аднойчы -
Трэба змагацца, шукаць.
Як не дагледзяць вочы,
Можна свой талент у зямлю загнаць.

Той, у каго закрытыя вочы,
Мае сляпую душу,
Ходзіць навобмацак у цемры ночы
Быць я такім не хачу.

Хачу, каб адкрытыя вочы
Напоўнілі душу да дна
Вясельлем, радасьцю, болем і горам
Усім, чым Радзіма жыва.

Хачу, каб душа перажыла
Ўсе пакуты, перамагла,
Каб я знайшоў у сябе сілу,
Якая-б талентам зваццa магла.

Каб гэтая сіла раскрылась,
Каб расквітнела ў душы,
Каб вочы мае ліхтарамі
Сьвяцілі другім у начы.

Бог нам жыцьцё даў аднойчы,
Каб людзі змагаліcь, жылі,
І каб дагледзілі вочы,
Свой талент і шчасьце знайшлі.

## Зьміцер КАХАНЬСКІ

# Ружанец

### Прадмова

Шаноўны чытальніку, на выгоду й зручнасьць прапаную Вашэці невялічкі слоўнічак тлумачыць даўнія беларускія словы.

**Абовем** *зл.* — бо, таму што
**Аер** — паветра
**Аж** *зл.* — і
**Аж** *зл.* — нават
**Акрэнт** — карабель
**Вборздэ** *прысл.* — неўзабаве, хутка
**Впрэйме** — шчыра
**Врода** — прыгажосьць
**Дварыці** — лесьціцца, лісьлівіць
**Дзяльніца** — частка
**Жагва** — факел
**Жагель** — ветразь
**Жаднаю мерай** — ніякім чынам
**Жэглеваці** — плаваць
**Жэдлівэ** *прысл.* — шчыра, палка
**Зродла** — крыніца, вадацеча
**Імамусь** — гатунак тканіны ўсходняга паходжаньня
**Лабруска** — гатунак вінаграду
**Лжэй** *прысл. выш. ст.* — лацьвей, лягчэй
**Паняверка** — цяжкое жыцьцё
**Прудка** — борзда, шпарка
**Прэндтка** — шпарка, хутка
**Уставеньне** — лад
**Фангулт** — золата найвышэйшае якасьці
**Фарбота** — махры, карункі
**Фрасунак** — смутак, сум
**Фэроза** — каштоўны камень, туркус
**Чэсо** — таму што
**Штука** — частка
**Юж** — ужо

*Ксёнжка тэя да ўшысткіх прысьвечанай ёсьць,*
*чыеныя сэрцы міласьць імаюць...*

Калі ты зірнеш праз акенца сваенае на мяне, кантыную далей смутны шлях.
Але спачатку пачастую цябе гронкай найпекнае дый найдухмянай лабрускі.
Потым салодкія вусны тваеныя будуць кранацца твару майго, песьціць белую скуру.
Даражэйшымі ад ушысткага ёсьць ласкі твае!
І ня будзе юж часу, ні слонку, ні маладзіку, толькі міласьці подых і сэрцу біцьцё.

Ці вы бычылі прыгажосьць? — Кожная зёлка, кожная ягада дурніцаў, кожная птушка, што сьпявае над страхой, як і кожнае квецьце, смоўжык дый зорка ў восеньскім небе — тое ўшысткае вродаю ёсьць, бо мае частку Каханьня дый Велькасьці Пана Нашага.

Сьнег, бы карункі, аеру фарботы —
выгодзьдзе душы.

Што вы п'еце? — Ваду.
Што ясьцё? — Хлеб.
Ці ёсьць у Сьвеце штосьці смачнейшае дый каштоўнейшае за Падарункаў Панавых!
І ніколі голаду не адчувацьмем, бо ня спыне цурчэць Вада з грудзей Зямлі, як і Хлеб ня спыне зароджвацца ўв яеным улоньні.

Акрэнт за вадой што жэглюе ёсьць прудкім між фаляў, і жаднаю мерай ён сярод мулу й глею захрасьне.
Аж у спадарстве - да Боскага порту лжэй той завінае, чыеным жагелем літасьць.

Той, хто за коўдрай імжыстай зьнічцы ў небе ня бачэ, не заўважэ й праўды, бо яна да таго па-за брыжамі горнымі ёсьць.

Тытулы ня велькасьць памяраць, абовем на Зямлі хтокальвек не дваруе мадлітвы падчас,
рэчэ Богу "Айцец" дужа впрэйме.

Сьпявайма славу Пану Нашаму! Дзякуйма за Літасьць, Клопат велькі!
Глёрыя Пану! Трываньню Ягонаму!
З Часіны Таей, калі быў Сьвет Ён стварыў, не пакінуў нас! Не схаваў Твар Далоньню Сваенай!
Усфаляйма Каханьне, што ня зьнікла й павек ня зьнікне! Бо найруплівым і найвышэйшым у Сьвеце ёсьць.

Дзякуй, Пане, што дапамагаеш бачэць, бо форымі мы на вочы!
Дзякуй, Пане, што чуць дапамагаеш, бо кволымі мы на вушы!

Даруй, Пане, што ў роспачны час фрасунку, скардзіўся быў паняверкаю, тыкеле забыўшыся на розум, што разважаць, вочы бачэць дый рукі араць.

У сэрцы, што ёсьць лёдам закайдаваным, прасячэце водную палонку каханьня, дый на слонку вясновым прэндтка сыйдуць тыя крыгі й ледзяшы ўсе адтануць.

Ты неба разьліў быў блакіт, абраў усе пагоркі ядвабам, фальбоны яго Ты фэрозай упекшыў!

Тыкеле за Панскім Уставеньням жывецьме наш Сьвет, чэсо ёсьць то Зродлам жыцьця!

Я ёсям кузуркай, дзяльніцай Цябе. Няма мне фангультаў над гэтага!

Мне воцэт найсмачным і кпіны мне слых імамусяць. Бо я ёсям часткай Тваенай!
Дый зёлы — мой ложак, яго я жэдлівэ шаную!
Бо ёсьць тое штукай Тваенай!
У Сьвета ральлі я ня сеяцьму распусту. Бо я ёсям часткай Тваенай!
Й саду Тваенага я не зруйную!

Ў вэлюм стакроткавы твар завінаным. Й рагі дажджу на пялёстках!

Пільную кветкаў у векайстасьці садох.Й за жыцьцём ня ўбачэш аж з полымям жагваў абысьце цыбур з каранямі асобна былі, чэсо ў гэтым стане зьнікае йіх сэнс дый вборздэ йіх скон надыходзе...
Але хіба Вера ня тая расьліна, што не патрэбным ёй Ласкі карэньне!

## Тацяна ЛАЎРЫК

# Немавеі

### (Сем старонак зь дзёньнікаў ветру)

*Богі зьнікаюць*
*у вытоку нястомнага неба;*
*здумы іх*
*ветрам зьвейваюць нас...*
***Райнэр Марыя Рыльке***

**Першая**
**Насьледаваньне Пікаса**

Вецер — блакітны кругль,
баіцца скінуць дзяўчынку:
няўважна яе трымае
за нітаўкі рук...
імчыць
у сон сваіх мар,
дзе ў млосьці
аліўных лагчын
сталеньне яе абміне:

абодвух схавае неба
за сьпінамі аблачын...

**Другая**

пацалунак ублытаўся
ў вецер,
як балёнік пудлівы
і ветлівы:
затуліўся,
садзьмуты зь веяў,
на уздоньні дзявочых каленек
і зьнянацку самлеў...
вецер браў летунка
у вусны
і гайдаў на кутках
доўгіх вусаў...
ён прачнуўся,
і быццам пылок,
сьцерусіўся на лоб,
лашчыў гнуткія
выгіны броваў,
і на вуснах ветру
ў ловы
пацалунак гуляў
з дзяўчынай...
аж пакуль не заснуў,
бедачына...

**Трэйцяя**

Невідомы, невагомы сьвет
цьмяніцца ў існых рэчах —
прасеяны ў сьлед
чалавечы
водзень яго бязмэтны
ветрам,
прагорклым у дыме ахвяр,
ветрам
даўгавалосым,
быццам біблійны цар...
люстраняць людзкія лёсы,
скрозь ручвы дажджу наўкос
і гінуць у сьцюжных росах
па той бок напятых нябёс...

**Чацьвёртая**
**Ва ўзгалоўі Давіда вілянэля**

"Ён вецер выводзіў
са сховаў Сваіх"...
спыніўся позірк Гасподзень —

рыпнуў апошні сходзень —
сьляза на вачох ветравых...
Ён вецер выводзіў,
а ў соннай гасподзе
ні гуку... і вецер заціх:
спыніўся позірк Гасподзень

і ўбачыў Сябе на сподзе
вільготных вачэй ветравых...
Ён вецер выводзіў,

а думка аб злуднай свабодзе
вярэдзіла стомлены слых:
спыніўся позірк Гасподзень,

калі ў айчыйнай лагодзе
са сховаў цянётных Сваіх
Ён вецер выводзіў...

спыніўся позірк Гасподзень.

**Пятая**

Пёры ў кутрах ветру:
на аркушы паветраным
сумны залётнік-паэт
піша ў лятунках сьвет:

белы аблокавы вір,
сонца старукія пешчы,
павута з цалункаў зьвітая,
а ў ёй амялушка плешчацца
на струмнях патольнай цішы...

ён лёткім почыркам піша
відзежаў празрыстае вязіва...
імгненьні лунаюць, і ўразьліва
паэт грызе кончыкі пёраў,
слухмяны жаданьням зораў,
ён змахвае знакі прыпынку
у болак пухоўныя скрынкі
і дзьме на старыя памылкі,
і згортвае рыфмы ў камы —
кутры ўскудлаціў вецер...
маніцца сьвет, паэце...

**Шостая**

белыя вопрадні ветру
дрэмлюць у лоні поўні...
ім у няпомнасьці
сьветла —
гойдае небыць бязьдзетная
іх ніцяныя целаўкі...
ў сонных абдоймах імжы
час пачынае кружыць,
хутнымі кругавінамі
ён апускаецца ў вір,
дзе разьвінаюць крылы
ў ноч матылі-вятры...

**Сёмая**
**Разьвітаньне** цэнтон*

Я люблю мой тленны спачын,
моўкнасць скрозная ў целе ў маім:
рукой дрыготнай я бяру
пясчынку...
Пад крыжам схіленым, сівым
не ціхне сьпеў вятроў усьцяжных
уваскрашальны сьпеў!
Быццам карэньні дрэў,
ён поўны ведамак і сьмерці і
жыцьця:
Бог даўно прыціх у гэтай песьні -
Ён толькі вецер...
Лунае рэха, песьціцца,
па мастох з крыхкога вецьця
я пайшоў ад вас...

*Вершы Янкі Юхнаўца, зь якіх складзены цэнтон (па радкох):
1) *«Калюмбы»*
2) *«Ад сноў, ад памяці й чутнасьці»*
3) *«Ад сноў, ад памяці й чутнасьці»*
4) *«У тую ноч»*
5) *«*** Зь цярплівасьцю я любасьць падарую ворагу...»*
6) *«Жыцьцё зноў весьціць...»*
7) *«Гутаркі Лесасека»*
8) *«*** У вогнішчы крылы вецер не зьнявеціў...»*
9) *«Гутаркі Лесасека»*
10) *«Гутаркі Лесасека»*
11) *«Лясун»*
12) *«*** Намер праклёнаў ёсьць адзін...»*
*«*** Я пайшоў ад вас...»*



# Васіль МЕЛЬЯНОВІЧ
## (28.08.1934-06.10.2004)
### Адукацыя й дзейнасьць

Сьв. пам. Васіль Мельяновіч прыехаў з бацькамі й дзьвюмя сёстрамі з Заходняй Нямеччыны ў Амэрыку ў 1950 годзе. Гімназія імя Янкі Купалы, якую ён наведваў у Міхельсдорфе й Віндзішбэргердорфе, а таксама беларускі скаўтынг, далі яму асновы беларусазнаўства й беларускага патрыятызму. У Злучаных Штатах Васіль, здабываючы далейшую асьвету, актыўна ўдзельнічаў у беларускім грамадзка-культурным жыцьці. У Нью-Ёрку ён скончыў у 1953 годзе сярэднюю школу (Seward Park High School). Вучыцца далей ня было за што, але ён знайшоў выхад — пайшоў дабраахвотнікам у амэрыканскую армію. Пасьля пары месяцаў вышкаленьня ў Форт-Дыксе ў штаце Нью-Джэрзі на спэцыяліста ваенных апэрацыяў у джунглях Васіль адслужыў свой тэрмін у зоне Панамскага каналу (1954-56). Служба ў войску забясьпечыла яму стыпэндыю на далейшую навуку. У 1963 годзе атрымаў ступень бакаляўра ў інжынэрыі зь Ньюёркаўскага гарадзкога ўнівэрсытэту, а ў 1972 годзе – ступень магістра мэнэджмэнту з унівэрсытэту імя Джорджа Вашынгтона. Васіль вельмі цаніў адукацыю й ці раз казаў: "Мне пашанцавала – Амэрыка дала мне магчымасьць атрымаць вышэйшую асьвету".

Васіль працаваў да канца 1989 году ў вялікай кампаніі AT&T. Быў адначасна выкладчыкам мэнэджмэнту ў Кантонсвільскім калэджы ў штаце Мэрыленд (1972-1978). У Мэрылендзе актыўна ўлучыўся ў дзейнасьць этнічных арганізацыяў. Быў першым старшынём Рады Этнічных Арганізацыяў Мэрыленду. На працягу 1970-х гадоў правёў дзьве канфэрэнцыі з удзелам прадстаўнікоў этнічных групаў штату. Выступаў з дакладамі пра Беларусь. У 1979 годзе стаўся старшынём Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў ЗША і некалькі разоў наведаў урадавыя ўстановы Вашынгтону ў справе запачаткаваньня беларускіх перадачаў радыё "Голас Амэрыкі". З мэтаю азнаямленьня ўрадаўцаў зь беларускай праблемай падрыхтаваў папку адпаведных дадзеных і дакумэнтаў пра Беларусь.

У 1988 годзе Васіль Мельяновіч наведаў Савецкі Саюз у якасьці гіда амэрыканскае выставы, наладжанай Інфармацыйным Агенцтвам ЗША. Прабыў тры месяцы ў Менску. Адтуль прывёз бел-чырвона-белы сьцяг, які падарыў Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню ў Нью-Ёрку. Пасьля распаду Савецкага Саюзу езьдзіў у Беларусь з мэтаю наладжваньня амэрыканскай эканамічнай дапамогі. У 1991 годзе, працуючы гідам амэрыканскай выставы ў Берасьці, пабываў у родных мясьцінах, пра якія заўсёды думаў.

У сямейным жыцьці Васіль перажываў складанасьці, быў тры разы жанаты. Ад першага сужэнства меў чатыры дачкі. Бацькоўскія абавязкі ў дачыненьні да дзяцей выканаў: усім чатыром памог здабыць асьвету.

Сьв. пам. Васіль Мельяновіч быў бяссрэбранікам, шчодрым на дапамогу суродзічам, спадзяючыся пабачыць у іх ідэйных аднадумцаў. Апошні дзясятак гадоў Васіль Мельяновіч пражыў каля Кліўленду ў штаце Агаё. Пачынаючы з 2000 году, пакуль дазваляла здароўе, працаваў у кампаніі Стэйплс у горадзе Брансўіку ў штатце Агаё. Апошнімі гадамі намагаўся стварыць там у беларускім селішчы "Полацак" культурны асяродак, якому гатоў быў ахвяраваць сваю кніжную калекцыю. Але рэалізаваць цалкам гэтую задуму яму не ўдалося.

***Вітаўт КІПЕЛЬ, Янка ЗАПРУДНІК***

# Увага!

**Сустрэча беларускай моладзі ў ЗША, нажаль, адмяняецца. Лявону Вольскаму не далі візу ў нашую казачную краіну. Мы зрабілі ўсё магчымае для арганізацыі канцэрта. Але-ж ня ўсё ад нас залежыць.**

**Сайт "Слыхавы апарат" (*http://www.slyhap.com*) прыносіць прабачэньні ўсім прыхільнікам беларускай музыкі ў ЗША.**




**Дарэчы, ў горадзе Rehoboth Beach, DE ёсьць бар пад назваю "Anglers Rest", дзе грае беларуская музыка.**

**Запрашаем.**

**Адрас:**

***Anglers Rest Restaurant & Bar***
***3815 Highway One***
***Rehoboth Beach, DE 19971***

Шаноўныя чытачы! Калі ласка дасылайце Калядныя і Навагоднія віншаваньні, якія будуць надрукаваныя ў студзеньскім нумары "БЕЛАРУСА".

# ПАДПІСКА

## на выданьні зь Беларусі на другую палову 2004 году

### З дасылкаю зь Беларусі ў замежжа:

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва**, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 60 |
| | **Наша Слова**, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 40 |
| | **Новы час**, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 40 |
| | **Культура**, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 60 |
| | **Літаратура і Мастацтва**, дзярж., бел. | 4 на месяц | 60 |
| Часапісы: | **Arche**, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |
| | **Дзеяслоў**, прыватны, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |

### Для жыхароў Беларусі (для сваякоў і знаёмых)

| | Назва, выдавец, мова | Пэрыядыч. друку | Кошт, $ |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва**, прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | **Наша Слова**, ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 7 |
| | **Новы час**, ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 10 |
| | **Культура**, дзяржаўная, беларуская | 4 на месяц | 10 |
| | **Літаратура і Мастацтва**, дзярж., бел. | 4 на месяц | 10 |

Вы можаце выпісаць і іншыя выданьні зь Беларусі. Па інфармацыю зьвяртайцеся на адрас: ***hazetabielarus@att.net***

***Заўвага:*** *газэты дасылаюцца авіяпоштаю, часапісы звычайнаю.*
***Падпіска працягваецца да 18 сьнежня 2004 году.***
*Замовы й аплату сваечасова дасылайце ў рэдакцыю на адрас:*
***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі, калі ласка, выпісайце на імя BIELARUS.*



Пётра ГРЫГАЛЬЧЫК з сынам і дачкою віншуюць жонку і маці ТАМАРУ з днём народзінаў. Жадаюць ёй моцнага здароўя ды ўсяго найлепшага ў жыцьці ад Бога.

**Газэта *"БЕЛАРУС"* бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш.**

**Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| У. Набагез | 100 |
| В. і Р. Зайка | 50 |
| Х. Кажаневіч | 35.03 |
| А. Андрушкевіч | 30 |
| А. Губэрт | 30 |
| Г. Губская | 30 |
| Н. Зубчык | 30 |
| К. Еўсьцігнееў | 30 |
| І. Кудзін | 30 |
| У. Маньдзік | 30 |
| К. Панцялеева | 30 |
| А. Пугачоў | 30 |
| С. Рошчык | 30 |
| П. і Л. Рыжы | 30 |
| Г. Сіняўская | 30 |
| І. Фанская | 30 |
| С. Янкоў | 30 |
| П. Грыгальчык | 15 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
*Belsrusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.

Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.